# З М Е С Т

# Парушэнні свабоды массавай інфармацыі ў Беларусі ў 2006 г. (аглядны матэрыял)

Вызначальнымі для сітуацыі са СМІ ў 2006 г. у Беларусі былі прэзідэнцкія выбары, што адбыліся ў сакавіку. Як звычайна пад час значных палітычных кампаній, ціск на СМІ ў гэты перыяд узмацніўся. Прычым пагаршэнне сітуацыі ўяўляла сабою не часовае адхіленне, пасля якога становішча стабілізавалася, а ўзмацненне планамернага і сістэматычнага ціску на СМІ, які працягваўся і пасля выбарчай кампаніі.

Па стане на 1 студзеня 2007 г. у Беларусі налічвалася 1224 зарэгістраваныя друкаваныя перыядычныя выданні. Гэта крыху больш, чым на пачатку 2006 г. (на 1 студзеня 2006 г. у Беларусі налічвалася 1187 перыядычных друкаваных СМІ, уключаючы газеты, часопісы, бюлетэні, каталогі, альманахі, а таксама інфармацыйныя агенцтвы). Аднак павелічэнне колькасці друкаваных СМІ адбылося за кошт колькасці часопісаў, каталогаў і г.д., якія не надаюць, як правіла, сур'ёзнай увагі грамадска-палітычнай тэматыцы. Колькасць жа зарэгістраваных газет працягвала змяншацца (калі на 1 студзеня 2005 г. у Беларусі выдавалася 784 газеты, на 1 студзеня 2006 г. – 748, то на пачатак 2007 г. – 718).

Нягледзячы на тое, што каля 2/3 зарэгістраваных друкаваных выданняў з'яўляюцца недзяржаўнымі, большасць з іх – выключна камерцыйныя, забаўляльныя альбо рэкламныя праекты. Недзяржаўных выданняў грамадска-палітычнай скіраванасці, якія рэгулярна выходзяць накладам не менш за 1000 асобнікаў, па падліках ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" – каля 30. Большасць з іх у 2006 г. сутыкнулася з праблемай друку і распаўсюду. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў дзяржаўнае прадпрыемства-манапаліст "Белпошта" выключыла з падпіснога каталога на 2006 г. 16 незалежных выданняў. 19 газет, па звестках на пачатак 2006 г., нельга было купіць у кіёсках "Саюздруку". Зыскі рэдакцый і чытачоў газет, што былі выкінутыя з падпісных каталогаў, суды адмовіліся разглядаць.

З пачатку 2006 г. больш жорсткім стала заканадаўчае рэгуляванне ў сферы свабоды выказвання меркавання. Набылі сілу папраўкі ў Крымінальны кодэкс, якія ўвялі крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраваных арганізацый і дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь.

У перыяд правядзення прэзідэнцкіх выбараў дзеянні ўладаў былі накіраваныя на максімальнае абмежаванне доступу выбаршчыкаў да інфармацыі аб выбарах і апазіцыйных кандыдатах. У студзені-сакавіку міліцыя неаднаразова затрымлівала наклады газет "Народная воля" і "Товарищ", якія друкаваліся ў Расіі, з матэрыяламі пра кандыдатаў у прэзідэнты А.Казуліна і А.Мілінкевіча. Гэтак, 3 сакавіка былі затрыманыя 250 тысяч асобнікаў "Народнай волі", 14 сакавіка міліцыя затрымала яшчэ 2 здвоеныя нумары "Народнай волі" агульным накладам 54 тыс. асобнікаў. 17 сакавіка, за 2 дні да выбараў, міліцыя затрымала 50 тыс. асобнікаў чарговага нумару "Народнай волі" і 200-тысячны наклад газеты "Товарищ".

17 сакавіка рашэннем Вышэйшага гаспадарчага суда была закрытая газета "Згода". Тым самым суд задаволіў зыск Міністэрства інфармацыі. Нагодай для закрыцця газеты стала передрукоўка выданнем карыкатур на прарока Мухамеда. Пракуратура Рэспублікі Беларусь узбудзіла з гэтай нагоды крымінальную справу па ч.1 арт. 130 Крымінальнага Кодэксу (Распальванне расавай, нацыянальнай альбо рэлігійнай варожасці).

У перыяд выбараў рэзка павялічылася колькасць пасягальніцтваў на жыццё і здароўе журналістаў. Прадстаўнікі сілавых структур чынілі перашкоды прафесійнай дзейнасці карэспандэнтаў беларускіх і замежных СМІ, затрымлівалі іх па надуманых прычынах, ужывалі супраць журналістаў фізічную сілу, не ўпускалі ў краіну замежных журналістаў. Найбольш жорсткія акцыі ў дачыненні да журналістаў мелі месца ў Мінску і Гродна.

Напрацягу сакавіка 2006 г. былі затрыманыя 45 журналістаў, многія з іх былі асуджаныя па сфабрыкаваных абвінавачаннях на адміністратыўны арышт тэрмінам да 15 сутак. Некалькі журналістаў былі жорстка збітыя супрацоўнікамі праваахоўных органаў. Найбольшы рэзананс выклікала збіццё журналіста "Комсомольской правды в Белоруссии" Алега Улевіча, які атрымаў страсенне мозгу і пералом носа. Сярод пацярпелых у перыяд выбараў – журналісты з Беларусі, Расіі, ЗША, Канады, Украіны, Грузіі, Польшчы.

Пасля заканчэння выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на першы план выйшла праблема, звязаная з распаўсюдам недзяржаўных СМІ. Пры складанні падпіснога каталога на 2007 г. паўтарылася сітуацыя канца 2005 г. "Белпошта" не ўключыла ў каталог 13 недзяржаўных выданняў, 16 – не прадаюцца ў кіёсках "Саюздруку". Пэўнае змяншэнне колькасці газет, якія не распаўсюджваюцца ў сістэмах дзяржаўных прадпрыемстваў-манапалістаў, тлумачыцца не столькі паляпшэннем сітуацыі, колькі тым, што некалькі выданняў спынілі выхад (з прычыны эканамічнай дыскрымінацыі, як, напрыклад, "Салідарнасць" і "БДГ. Деловая газета", альбо былі закрытыя ўладамі, як "Згода" і "Тэлескоп" (Ліда)).

Складанасці з распаўсюдам незалежных выданняў не абмяжоўваліся адмовамі дзяржаўных арганізацый прадаваць іх у кіёсках альбо па падпісцы. У Пінску, Нясвіжы (Брэсцкая вобл.), Глыбокім (Віцебская вобл.), іншых рэгіёнах краіны мясцовыя ўлады настойліва раілі прадпрымальнікам адмовіцца ад гандлю мясцовымі недзяржаўнымі выданнямі, пагражаючы ў адваротным выпадку негатыўнымі наступствамі. Міліцыя затрымлівала распаўсюднікаў газет (як зарэгістраваных, так і незарэгістраваных) у Магілёве і Віцебску.

Адначасова ў розных рэгіёнах Беларусі адкрыта праводзілася прымусовая падпіска на дзяржаўныя выданні ("Советскую Белоруссию", абласныя і раённыя газеты, "профільныя" выданні). Акрамя адміністратыўнай падтрымкі і рознага кшталту прэферэнцый дзяржаўныя СМІ атрымлівалі і бюджэтнае фінансаванне, аб'ёмы якога з кожным годам узрастаюць. У рэспубліканскім бюджэце 2006 г. на гэтыя мэты было выдаткавана больш за 60 млн. долараў, што ў 1,5 разы больш, чым у 2005 г., і ў 2 разы больш, чым у 2004 г. У бюджэце 2007 г. на фінансаванне дзяржаўных СМІ прадугледжана больш за 63 млн. долараў ЗША.

Сярод форм уціску недзяржаўных СМІ ў 2006 г. улады выкарыстоўвалі пазбаўленне рэдакцый юрыдычнага адрасу. У сярэдзіне красавіка рэдакцыя газеты "Наша Ніва" атрымала ліст з Мінскага гарвыканкама, у якім гаварылася, што "размяшчэнне газеты "Наша Ніва" ў горадзе Мінску з'яўляецца немэтазгодным". Гэта абгрунтоўвалася тым, што галоўны рэдактар газеты Андрэй Дынько быў падвергнуты адміністратыўнаму арышту на тэрмін 10 сутак (А.Дынько быў затрыманы пад час паслявыбарных пратэстаў на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску). Усе спробы рэдакцыі заключыць дамову арэнды і знайсці юрыдычны адрас аказваліся няўдалымі: арандадаўцы пад ціскам мінскіх уладаў скасоўвалі дамовы ў аднабаковым парадку альбо адмаўляліся іх заключаць.

Аналагічная праблема напаткала і газету "Витебский курьер М", якая была вымушана некалькі разоў мяняць сваё месцазнаходжанне і сутыкнулася з адмовамі мясцовых уладаў зарэгістраваць змяненне юрыдычнага адрасу. Акрамя таго, "Витебскому курьеру М" было прад'яўлена некалькі зыскаў, у тым ліку аб абароне гонару і годнасці.

Небяспеку такога роду зыскаў яскрава прадэманстравала судовае рашэнне па зыску старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Аляксандра Шпілеўскага да рэдакцыі газеты "Комсомольская правда в Белоруссии". Нагодай для зыску стала тэхнічная памылка, якая не ўплывала на рэпутацыю А.Шпілеўскага. Тым не менш, 22 чэрвеня суд часткова задаволіў яго патрабаванні і спагнаў на яго карысць у якасці кампенсацыі маральных стратаў 60 млн. руб. (Шпілеўскі патрабаваў 80 млн.), тобок каля 28 тыс. доляраў. Суд касацыйнай інстанцыі пакінуў гэтае рашэнне ў сіле.

Сярод іншых парушэнняў свабоды СМІ ў 2006 г. варта адзначыць прыпыненне Міністэрствам інфармацыі на 3 месяцы выпуску часопіса "ARCHE. Пачатак". Нагодай для гэтага стала публікацыя ў гэтым літаратурна-мастацкім часопісе артыкулаў грамадска-палітычнага характару без унясення адпаведных змяненняў у пасведчанне аб рэгістрацыі СМІ.

Маніторынг канфліктаў у сферы СМІ, які праводзіла ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", сведчыць, што асноўныя парушэнні правоў журналістаў і СМІ ў 2006 г., як і раней, дапускаліся дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь і іх службовымі асобамі. Мэтай гэтых парушэнняў з'яўлялася звядзенне да мінімуму распаўсюду ў Беларусі нецэнзураванай інфармацыі, асабліва ў перыяд правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Дасягалася гэтая мэта найперш эканамічнымі сродкамі, закліканымі на фоне адкрытай фінансавай і адміністратыўнай падтрымкі падкантрольных уладам СМІ пазбавіць незалежную прэсу крыніц прыбытку і магчымасці трапляць да чытача.

# Змены ў заканадаўстве

Прыняцця новай рэдакцыі закона “Аб сродках масавай інфармацыі” ў 2006 г. не адбылося, нягледзячы на тое, што праца над ёю вядзецца з 2001 г. Замест гэтага ў дзейны закон “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі” былі ўнесеныя нязначныя змены рэдакцыйнага характару.

На пачатку 2006 г. уступіў у сілу закон “Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытанні ўзмацнення адказнасці за дзеянні, накіраваныя супраць чалавека і грамадскай бяспекі”, які ўстанавіў крымінальную адказнасць за дыскрэдытацыю дзяржавы.

2 студзеня 2006 г. уступіў у сілу закон **“Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытанні ўзмацнення адказнасці за дзеянні, накіраваныя супраць чалавека і грамадскай бяспекі”.**

У адпаведнасці з гэтым законам, у прыватнасці, Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь дапоўнены артыкулам 369-1 “Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь”. Пад дыскрэдытацыяй тут маецца на ўвазе прадастаўленне замежнай дзяржаве, замежнай альбо міжнароднай арганізацыі заведама ілжывых звестак пра палітычнае, эканамічнае, сацыяльнае, ваеннае альбо міжнароднае становішча Рэспублікі Беларусь, прававое становішча грамадзян у Рэспубліцы Беларусь, што дыскрэдытуе Рэспубліку Беларусь альбо яе органы ўлады. За гэта прадугледжана крымінальная адказнасць у выглядзе арышту на тэрмін да шасці месяцаў альбо пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў.

У новай рэдакцыі закона закладзены арт. 361 “Заклікі да дзеянняў, накіраваных на страту вонкавай бяспекі Рэспублікі Беларусь, яе суверэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасці, нацыянальнай бяспекі і абароназдольнасці”. Такія дзеянні, здзейсненыя з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі, караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў.

18 студзеня 2006 г. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову **“Аб зацвярджэнні парадку прыёму, рэгістрацыі, уліку, распаўсюду шлюбных аб’яваў і аб’яваў аб знаёмствах альбо зносінах па тэлефоне ў сродках масавай інфармацыі”.** Пастанова прынятая ў адпаведнасці з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 лістапада 2005 г. № 15 “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя дэкрэты Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па пытаннях супрацьдзеяння гандлю людзьмі”.

11 лютага 2006 г. Пастановаю № 192 Савет Міністраў зацвердзіў **Палажэнне аб суправаджэнні інтэрнэт-сайтаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, іншых дзяржаўных арганізацый, падначаленых Ураду Рэспублікі Беларусь.**

Палажэннем вызначаны структура і парадак размяшчэння інфармацыі на інтэрнэт-сайтах дзяржаўных органаў і арганізацый, падначаленых Ураду Рэспублікі Беларусь, а таксама абавязкі, парадак узаемадзеяння і адказнасць асобаў, якія ажыццяўляюць суправаджэнне сайта, і асобаў, якія прадастаўляюць інфармацыю для размяшяэння на сайце.

16 лютага пастановай Савета Мінітраў № 232 зацверджана **Дзяржаўная праграма развіцця спадарожнікавага тэлевізійнага вяшчання ў Рэспубліцы Беларусь да 2010 года.**

17 лютага 2006 г. Пастановай №8 Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь зацвердзіла **Палажэнне аб творчым конкурсе на лепшае асвятленне ў сродках масавай інфармацыі дзейнасці органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь.**

26 красавіка 2006 г. **Інструкцыю аб парадку правядзення рэспубліканскага конкурса на лепшую публікацыю на экалагічную тэматыку зацвердзіла** пастановай №28 Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

6 сакавіка пастановай №6 Міністэрства інфармацыі зацвердзіла **Інструкцыю аб ажыццяўлені кантролю за выкананнем ліцэнзіятамі заканадаўства ў галіне ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці, ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоваў.**

Інструкцыя вызначае патрабаванні да арганізацыі і правядзення праверак выканнання ліцэнзіятамі (юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі) заканадаўства ў галіне ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці, ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоваў. Указаныя праверкі праводзяцца ліцэнзуючым органам – Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

28 сакавіка Гомельскі абласны выканаўчы камітэт прыняў рашэнне № 271 **“Аб абласной экспертнай камісіі па ацэнцы друкаваных выданняў, кінааудыёвізуальных твораў і іншай прадукцыі на наяўнасць у іх прыкметаў парнаграфіі, культу гвалту і жорсткасці”.**

Указаным рашэннем зацверджана Палажэнне аб абласной экспертнай камісіі па ацэнцы друкаваных выданняў, кінааудыёвізуальных твораў і іншай прадукцыі на наяўнасць у іх прыкметаў парнаграфіі, культу гвалту і жорсткасці і вызначаны яе склад. Узначаліў камісію намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама.

20 ліпеня аналагічнае Палажэнне зацвердзіў Віцебскі аблвыканкам (рашэнне №519 **“Аб зацвярджэні Палажэння аб абласной экспертнай камісіі па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці”.**

7 красавіка 2006 г. Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зацвердзіла Інструкцыю **“Аб парадку прадастаўлення інфармацыі аб дзейнасці агульных судоў Рэспублікі Беларусь для асвятленя ў сродках масавай інфармацыі”**. У Інструкцыі, у прыватнасці, указваецца, што суддзя мае права забараніць паказваць сябе па тэлебачанні і публікаваць свае фотаздымкі ў мэтах забеспячэння сваёй бяспекі і прадухілення магчымага ўмяшальніцтва ў в разгляд судовых справаў, можа ў любы момант спыніць фота- і відэаздымкі працэсу і г.д. Суды абавязаны тэрмінова паведаміць Міністэрству юстыцыі ў выпадку ўстанаўлення фактаў ціску на суд альбо спробаў іх здзейсніць з боку СМІ. П. 4 Інструкцыі вызначае, што звесткі з не завершаных вытворчасцю судовых справаў не могуць быць апублікаваныя альбо абнародаваныя без пісьмовага дазволу суддзі.

ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” звярнулася ў Міністэрства юстыцыі з запытам, у якім указала, што міністэрства не мае права рэгламентаваць дзейнасць СМІ і што п.4 Інструкцыі абмяжоўвае свабоду СМІ, а гэта не прадугледжана законам. У адказе на запыт Міністэрства юстыцыі пацвердзіла, што Інструкцыя не прадугдледжвае

дадатковых абмежаванняў дзейнасці СМІ, а накіраваная на рэгламентацыю дзейнасці суддзяў і іх узаемадачыненняў з журналістамі.

3 траўня 2006 г. Савет Міністраў прыняў пастанову № 571 **"Аб фінансаванні ў 2006 годдзе перыядычных выданняў".** Пастановай зацверджаны Пералік перыядычных выданняў, рэдакцыям якіх у 2006 годзе выдаткоўваюцца субсідыі з рэспубліканскага бюджэту. У Пералік уключаныя 30 перыядычных выданняў.

10 траўня 2006 г. Мінскі абласны выканаўчы камітэт прыняў рашэнне № 454 **"Аб парадку аплаты карыстання паслугамі інфармацыйнай сеткі інтэрнэт арганізацыямі і ўстановамі адукацыі, культуры, аховы здароўя, фізічнай культуры і спорту, працы і сацыяльнай абароны, фінансуемымі з абласнога бюджэту".**

Рашэннем зацверджаныя пералікі арганізацый і ўстановаў адукацыі, культуры, аховы здароўя, фізічнай культуры і спорту, працы і сацыяльнай абароны, фінансуемых з абласнога бюджэту, якія карыстаюцца паслугамі інфармацыйнай сеткі інтэрнэт за кошт сродкаў, прадугледжаных у абласным бюджэце на адукацыю, культуру, ахову здароўя, фізічную культуру і спорт, працу і сацыяльную абарону, а таксама Інструкцыя аб парадку аплаты карыстання паслугамі інфармацыйнай сеткі інтэрнэт арганізацыямі і ўстановамі адукацыі, культуры, аховы здароўя, фізічнай культуры і спорту, працы і сацыяльнай абароны, фінансуемымі з абласнога бюджэту.

9 чэрвеня ўнесены змены ў закон **"Аб друку і ншых сродках масавай інфармацыі".** Зроблена гэта на падставе закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях ліцэнзавання асобных відаў дзейнасці і прызнанні страціўшымі сілу некаторых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь".

Змяненні рэдакцыйнага характару (я кія адсылаюць да заканадаўства аб ліцэнзаванні) унесеныя ў арт.31 ("Эратычныя выданні") і арт. 50 ("Адказнасць за іншыя парушэнні заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі") закона.

29 ліпеня Савет Міністраў прыняў пастанову № 955 **"Пытанні Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь".**

Згаданай пастановай унесены змяненні і дапаўненні ў Палажэнне аб Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, Палажэнне дапоўнена Пералікам юрыдычных асобаў недзяржаўнай формы ўласнасці, акцыі (долі ў статутных фондах) якіх належаць Рэспубліцы Беларусь і перададзены ва ўпраўленне Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, пастановай зацверджаны Пералік дзяржаўных арганізацый, падначаленых Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

31 ліпеня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ № 473 "**Аб Дзяржаўнай камісіі па радыёчастотах пры Савеце Бяспекі Рэспублікі Беларусь"**. Раней адпаведная камісія дзейнічала пры Міністрэрстве сувязі. Паводле тэксту указу, гэта зроблена з мэтай удасканалення сістэмы дзяржаўнага рэгулявання ў галіне размеркавання радыёчастотнага рэсурсу і карыстання ім. Новай структуры нададзены паўнамоцтвы па змяненні і спыненні дзейнасці раней прынятых рашэнняў Дзяржаўнай камісіі па радыёчастотах пры Міністэрстве сувязі і інфарматызацыі, якая падлягае ліквідацыі. Старшынём камісіі прызначаны намеснік Дзяржаўнага сакратара Савета Бяспекі Юрый Крывашэеў.

Згодна з Палажэннем аб Дзяржаўнай камісіі па радыёчастотах, якое зацверджана указам №473, да кампетэнцыі гэтай структуры аднесена прыняцце рашэнняў аб выдзяленні палос радыёчастотаў, радыёчастотных каналаў ці радыёчастотаў.

4 жніўня Савет Міністраў зацвердзіў пастанову №1012 **"Аб зацвярджэнні складу выдаткаў па вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, якія ўлічваюцца пры падаткаабкладанні прыбытку і належаць да асаблівасцяў складу выдаткаў у выдавецкай дзейнасці".**

У склад выдаткаў па вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, якія ўлічваюцца пры падаткаабкладанні прыбытку і належаць да асаблівасцяў складу выдаткаў у выдавецкай дзейнасці, аднесены кошт сігнальных (кантрольных) асобнікаў, якія накіроўваюцца выдавецтву перад выпускам выдання ў свет, і выдаткі на вытворчасць і рассылку абавязковых бясплатных асобнікаў, якія рассылаюца па пераліку, зацверджаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

8 верасня Савет Міністраў выдаў пастанову № 1161 **"Аб некаторых пытаннях ажыццяўлення раздробнага гандлю па ўзорах з выкарыстаннем сеткі інтэрнэт".**

У пастанове рэгламентавана праца інтэрнэт-крамаў. Інтэрнэт-крамы (сайты суб'ектаў гандлю) павінны ўтрымліваць адпаведную патрабаванням заканадаўства інфармацыю аб суб'екце гандлю і таварах, размяшчацца на серверы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, даменнае імя сайта павінна быць зарэгістравана ў даменнай адраснай прасторы нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт. Даменнае імя сайту павінна ўказвацца ў ліцэнзіі на права ажыццяўлення раздробнага гандлю.

24 лістапада загадам №83 Дзяржаўнага цэнтру пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь №83 зацверджаны **Правілы рэгістрацыі і дэлегавання даменных імёнаў у дамене BY.**

Правілы вызначаюць парадак рэгістрацыі і дэлегавання даменных імёнаў (даменаў) у нацыянальным сегменце сеткі інтэрнэт (зона BY).

Каардынуючым органам па рэгістрацыі і дэлегаванні даменаў другога ўзороўню ў зоне BY названы Дзяржаўны цэнтр бяспекі інфармацыі пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

15 снежня рашэннем №211 Гродзенскі абласны Савет дэпутатаў зацвердзіў **Комплексную праграму развіцця дзяржаўных перыядычных друкаваных выданняў у Гродзенскай вобласці на 2007-2010 гады.**

Комплексная праграма распрацавана ў адпаведнасці з Комплекснай праграмай развіцця дзяржаўных перыядычных друкаваных выданняў у Рэспубліцы Беларусь на 2005-2008 гады, зацверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 ліпеня 2005 г. № 800.

Сярод мерапрыемстваў па рэалізацыі Комплекснай праграмы – правядзенне маніторынгу стану дзяржаўных перыядычных выданняў; вызначэнне ступені іх уплыву на фармаванне грамадскага меркавання; мерапрыемствы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў для дзяржаўных СМІ Гродзенскай вобласці; набыццё сучаснай кампутарнай, фота- і аргтэхнікі для рэдакцый дзяржаўных перыядычных друкаваных выданняў; закупка сучаснага газетнага абсталявання для дзяржаўных друкарань гарадоў Гродна, Слонім, Ліда; мэтанакіраваная закупка газетнай паперы для рэдакцый датацыйных дзяржаўных перыядычных друкаваных выданняў.

19 кастрычніка Мінскі абласны Савет дэпутатаў рашэннем №251 зацвердзіў **Комплексную праграму будаўніцтва, тэхнічнага пераўзбраення і пашырэння радыётэлевізійных перадавальных станцый Мінскай вобласці на 2006-2010 гады.**

Сярод асноўных мэтаў Комплекснай праграмы – павелічэнне тэрыторый упэўненага прыёму сігналаў дзяржаўнага тэлебачання і радыёвяшчання, паляпшэнне якасці прыёму тэлевізійных і радыёвяшчальных сігналаў, пашырэнне вяшчання тэлевізійных і радыёвяшчальных праграм на тэрыторыі Мінскай вобласці, развіццё лічбавага тэлевізійнага вяшчання па стандарце DVB-T.

У Комплекснай праграме адзначаецца, што на тэрыторыі Мінскай вобласці ажыццяўляецца эфірная трансляцыя 6 дзяржаўных праграм тэлебачання і 2 праграм недзяржаўных кампаній, а таксама 5 нацыянальных праграм радыёвяшчання і 10 праграм недзяржаўных радыёкампаній:

Дзяржаўныя праграмы: “Першый канал”, ахоп насельніцтва складае 99,93 працэнта (далей - %), “ОНТ” - 97,72 %, “Тэлеканал Лад” - 83,86 %, “СТВ” - 75,50 %, “Россия” - 82,91 %, “НТВ” - 64,79 %, лічбавае вяшчанне (“БТ-1”, “ОНТ”, “СТВ”, “Лад”) - 71,19 %, “Першы нацыянальны канал Беларускага радыё” - 95,17 %, “Радыёканал Культура” - 92,51 %, “Абласное радыёвяшчанне” (“Мінская хваля”) - 83,77 %, “Радыюс-FM” - 93,17 %, “Радыёстанцыя Сталіца” - 84,01 %;

праграмы недзяржаўных рэдакцый: “МІР” - 58,46 %, “ТВЦ” - 57,49 %, “Радыё Бі-Эй” - 74,65 %, “Радыё Рокс” - 73,92 %, “Радыё БДУ” - 78,81 %, “Альфа Радыё” - 72,56 %, “Радыё Хіт-FM” - 62,85 %, “Радыё МІР” - 74,65 %, “Русское Радио” - 73,85 %, “Радыё Пілот-FM” - 71,69 %, “Новае Радыё” - 66,29 %, “Радыё Мінск” - 66,29 %.

Плануецца павялічыць ахоп насельніцтва “Першым каналам” (БТ-1) да 100.00 %; “ОНТ” - да 99,19 %; “Тэлеканалам Лад” - да 96,67 %; “СТВ” - да 82,19 %; “Россия” - да 84,65 %; “НТВ” - да 73,16 %; “Першым нацыянальным каналам Беларускага радыё” - да 99,70 %; “Радыёканалам Культура” - да 99,43 %; “Абласным радыёвяшчаннем” (“Мінская хваля”) - да 89,77 %; “Радыюс-FM” – да 97,40 %; “Радыёстанцыяй Сталіца” - да 88,04 %.

29 снежня прыняты закон **“Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2007 год”**. На фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі ў 2007 г. толькі з рэспубліканскага бюджэту выдаткавана 135 114 865 тыс. руб. (больш за 63 млн. долараў ЗША), з якіх 100 603 360 тыс. руб. (больш за 47 млн. долараў ЗША) прадугледжана на фінансаванне тэлебачання і радыёвяшчання, 16 114 242 тыс. руб. (7,5 млн. долараў ЗША) – на перыядычны друк і выдавецтвы. На іншыя выдаткі сродкаў масавай інфармацыі ў рэспубліканскім бюджэце запланавана 18 397 263 тыс. руб. (крыху менш за 9 млн. долараў ЗША).

У параўнанні з 2006 г. фінансаванне дзяржаўных СМІ ўзрасло на 4 814 705 тыс.руб. (каля 2,25 млн. долараў ЗША).

# Парушэнні правоў СМІ і журналістаў, канфлікты ў галіне СМІ

## Спыненне альбо прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі

**23 лютага** Пракуратура РБ накіравала ў Міністэрства інфармацыі “прадстаўленне” з просьбай зрабіць захады па прыпыненні альбо спыненні дзейнасці недзяржаўнай газеты **“Згода”.** Нагодай для гэтага стала публікацыя ў газеце (№ 6 ад 18-26.02.2006 г.) карыкатур на прарока Мухамеда. (Газета змясціла на сваіх старонках карыкатуры, што з‘явіліся ў дацкім друку, выклікаўшы рэакцыю пратэсту ў ісламскім свеце і стаўшы прычынай міжнароднага скандалу).

Па словах начальніка ўпраўлення прававога забеспячэння, інфармацыі і грамадскіх сувязяў Пракуратуры РБ Андрэя Шведа, тым самым рэдакцыя газеты **“Згода”** дапусціла грубыя парушэнні патрабаванняў арт. 5 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб друку і іншых СМІ”, які забараняе выкарыстанне СМІ для распальвання нацыянальнай, сацыяльнай, расавай, рэлігійнай нецярпімасці.

Напярэдадні, **21 лютага**, з нагоды публікацый карыкатур з заявай выступіла МЗС Беларусі. "Міністэрства замежных спраў рашуча асуджае любыя наўмысныя дзеянні, якія могуць пацягнуць распальванне міжрэлігійнай варожасці, распаўсюд... недаверу паміж нацыянальнымі і рэлігійнымі супольнасцямі, якія жывуць у Беларусі", - адзначалася ў заяве.

**22 лютага** з санкцыі намесніка генеральнага пракурора супрацоўнікі КДБ Беларусі правяліператрус у рэдакцыі **“Згоды”.** У той жа дзень была ўзбуджана крымінальная справа па ч.1 арт. 130 КК РБ (распальванне расавай, нацыянальнай альбо рэлігійнай варожасці). “Крымінальная справа ўзбуджана па выніках праверкі, праведзенай рэспубліканскай пракуратурай і КДБ. Праверка была праведзена на падставе звароту ў праваахоўныя органы Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасцяў і мусульманскіх абшчын Беларусі”, - паведамілі агенцтву “Інтэрфакс” у Пракуратуры РБ. (**http://www.interfax.ru/r/B/politics/2.html?id_issue=11469751**)

Пад часператрусу былі канфіскаваныя сістэмныя блокі кампутараў і іншыя носьбіты інфармацыі, некаторыя нумары газеты і фінансавыя дакументы выдання. Заснавальнік **“Згоды”** Аляксей Кароль і намеснік галоўнага рэдактара Аляксандр Здвіжкоў былі дапытаныя КДБ. У кватэры А.Караля таксама быў праведзеныператрус. Па словах А.Караля, карыкатуры былі надрукаваныя без яго санкцыі, і за гэтыя дзеянні на намесніка галоўнага рэдактара было накладзена спагнанне, а распаўсюд нумару з карыкатурамі спынены.

**23 лютага** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне рэдакцыі газеты **“Згода”** па арт. 5 Закона “Аб друку і іншых СМІ” за публікацыю карыкатур на прарока Мухамеда. Гэта было другое цягам году папярэджанне за парушэнне арт. 5 (першае пісьмовае папярэджанне было вынесена 9 лістапада).

**6 сакавіка** Міністэрства інфармацыі падало ў Вышэйшы гаспадарчы суд зыск аб спыненні дзейнасці газеты **“Згода”.** У зыскавай заяве гаварылася, што падставай для гэтага з'яўляецца неаднаразовае парушэнне рэдакцыяй патрабаванняў арт. 5 Закона "Аб друку і іншых СМІ". Акрамя гэтага, міністэрства прасіла прыпыніць газету, не чакаючы

вынікаў суда, бо за гэты час "адказчык можа груба парушыць патрабаванні закона аб друку".

**7 сакавіка** суддзя ВГС Аксана Міхнюк вырашыла задаволіць хадайніцтва міністэрства і прыпыніць **"Згоду"** "да прыняцця рашэння па сутнасці".

**17 сакавіка** тая ж суддзя А. Міхнюк задаволіла зыск Міністэрства інфармацыі аб спыненні дзейнасці газеты. Між тым, да 17 сакавіка яшчэ не скончыўся тэрмін, адведзены законам на абскарджанне другога па ліку папярэджання.

**10 красавіка** наместнік старшыні Мінскага гарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў накіраваў галоўнаму рэдактару недзяржаўнай газеты **"Наша ніва"** Андрэю Дынько ліст, у якім гаварылася, што размяшчэнне газеты **"Наша Ніва"** ў горадзе Мінску з'яўляецца "немэтазгодным". Паводле М. Ціцянкова, падставай для гэтага рашэння стаў той факт, што "пастановай суда Савецкага раёна горада Мінска ад 22 сакавіка 2006 года галоўны рэдактар газеты **"Наша ніва"** падвергнуты адміністратыўнаму арышту тэрмінам на 10 (дзесяць) сутак". "Пастанова канчатковая і абскарджанню ў парадку вытворчаці па справах аб адміністратыўных правапарушэннях не падлягае", - гаварылася ў лісце.

Напярэдадні **"Наша ніва"** накіравала ў Мінгарвыканкам заяву аб узгадненні размяшчэння рэдакцыі ў Мінску па вуліцы Калектарнай, д. 20а, пакой 112, і ліст М.Ціцянкова быў адказам на гэтую заяву.

У звароце "да чытачоў усяго свету", які рэдакцыя змясціла на інтэрнэт-сайце газеты (**www.nn.by**), гаварылася: "Улады спрабуюць замкнуць апошняе звяно ў ланцугу задушэння **"Нашай нівы"...** З 1 студзеня газету пад рознымі падставамі не сталі распаўсюджваць манапалісты "Белсаюздрук", "Мінгарсаюздрук", "Мінаблсаюздрук", а "Белпошта" выключыла газету з падпіснога каталогу. **10 красавіка** пасля працяглага прамаруджвання Міністэрства сувязі адмовіла **"Нашай ніве"** ў яе просьбе пра атрыманне ліцэнзіі на самастойнае правядзенне падпіскі. Гэтым жа днём датуецца і ліст з Мінскага гарвыканкама, падрыхтаваны ідэалагічным аддзелам гарвыканкама. Ён абазначае забарону на існаванне прадпрыемства **"Наша ніва"**, - гаварылася ў звароце. Улічваючы, што ў 1906-1915 і 1991-1996 гадах газета выдавалася ў Вільні, рэдакцыя звярнулася да Міністэрства культуры Літвы з просьбай хадайнічаць перад ЮНЕСКА аб унясенні **"Нашай нівы"** ў "Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва".

**13 верасня** стала вядома пра спыненне выхаду адзінай рэгіянальнай беларускамоўнай **радыёпраграмы "Люблю наш край",** якая выходзіла на мясцовым радыё ў Баранавічах. Апошняя перадача выйшла ў эфір напрыканцы ліпеня, а затым калектыў сышоў у адпачынак. У жніўні аўтары праграмы хацелі аднавіць працу, але даведаліся, што нацыянальны аператар электрасувязі РУП "Белтэлекам", якому належыць памяшканне і абсталяванне баранавіцкага радыё, зрабіла платнымі 30-хвілінны выхад у жывы эфір і выкарыстанне студыі для запісу праграм. Агулам у месяц сума аплаты складае 130 тысяч рублёў.

Праграма "Люблю наш край" выходзіла на працягу апошніх дзесяці гадоў (са студзеня 1996 года) і рыхтавалася сябрамі мясцовай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". Старшыня Баранавіцкага аддзялення ТБМ Віктар Сырыца ў інтэрв'ю "Еўрапейскаму радыё для Беларусі" заявіў, што "перадачу па сутнасці закрылі... менавіта таму, што беларуская мова і беларуская культура зараз не ў пашане не толькі на ўзроўні кіраўніцтва краіны, але і ў мясцовых вертыкальшчыкаў".

**18 верасня** Міністэрства інфармацыі РБ анулявала пасведчанне аб рэгістрацыі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **"Тэлескоп"** (г. Ліда), якая выдавалася Лідскай арганізацыяй грамадскага аб'яднання "ТБМ імя Ф. Скарыны". Падставай для гэтага стала тое, што газета не выходзіла больш за год.

Галоўны рэдактар выдання Станіслаў Суднік, са свайго боку, сцвярджае, што перадапошні нумар газеты пабачыў свет 14 ліпеня 2005 года, а наступны нумар **"Тэлескопа"** выйшаў 13 ліпеня 2006 года. "Значыць, згодна заканадаўству, каб зачыніць газету, не хапала яшчэ аднаго дня", -- кажа С. Суднік.

(Газета **"Тэлескоп"** выдавалася са снежня 1997 года, друкавалася ў Лідзе і распаўсюджвалася ў Гродзенскай вобласці, у 2002-2003 г.г. не выходзіла па фінансавых прычынах. Спачатку выдаўцом газеты выступала Лідская друкарня; потым абавязкі выдаўца, заснавальніка і галоўнага рэдактара перайшлі да прыватнага прадпрымальніка Ірыны Брушковай. Пасля па дамове з уладальнікам выдання выдаўцом **"Тэлескопа"** стала Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", а галоўным рэдактарам апошнім часам выступаў старшыня гэтай арганізацыі Станіслаў Суднік. Адноўлены ў 2004 годзе **"Тэлескоп"** быў цалкам беларускамоўным. Газета пазіцыянавалася як грамадска-палітычная і для вольнага часу і асвятляла падзеі, што адбываліся ў рэгіёне і Гродзенскай вобласці. **"Тэлескоп"** паступаў да чытача праз сетку грамадскіх распаўсюднікаў, а ў Лідзе — праз кіёскі "Белсаюздруку").

**19 верасня** міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч вынес пісьмовае папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнага літаратурна-мастацкага і навукова-папулярнага часопіса **"ARCHE. Пачатак"** і падпісаў загад аб прыпыненні выхаду выдання тэрмінам на тры месяцы. У абодвух дакументах сцвярджаецца, што, надрукаваўшы артыкулы грамадска-палітычнага характару ў № 9 (49) за 2006 г., часопіс **"ARCHE. Пачатак"** змяніў тэматыку (спецыялізацыю), не паведаміўшы аб гэтым у вызначаны тэрмін Мініфармацыі для ўнясення адпаведнага змянення ў рэгістрацыйнае пасведчанне (парушэнне арт. 11 закона "Аб друку і іншых СМІ).

Фармальнай нагодай для санкцый стала апублікаванне ў рубрыцы "Гісторыя" ўспамінаў пра беларускую палітычную рэальнасьць пачатку 90-х гадоў Сяргея Навумчыка ды іншых дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Аднак, па меркаванні галоўнага рэдактара часопісу Валера Булгакава, сапраўднай прычынай прыпыненьня зьяўляецца вокладка часопісу № 9 (49) за 2006 г. (**http://arche.bymedia.net/2006-9/num906.htm)** з выявамі твараў работнікаў спэцслужбаў, якія выцясняюць дэманстрантаў з праспекту ў Мінску падчас падзеяў 25 сакавіка 2006 г.

Рэдакцыя часопіса звярнулася ў суд з патрабаваннем да Мініфармацыі адмяніць папярэджанне аб парушэнні закону і ўказ аб прыпыненні выхаду выдання.

**18 кастрычніка** адбылося папярэдняе слуханне справы па зыску рэдакцыі.

**4 лістапада** ў Вышэйшым гаспадарчым судзе пачаўся разгляд справы, а **8 лістапада** суддзя Мікалай Мадудзін вынес рашэнне не задавальняць зыску рэдакцыі.

**У снежні 2006 г.,** пасля сканчэння трохмесячнага тэрміну прыпынення выдання, рэдакцыя **"ARCHE. Пачатак"** выпусціла адразу 3 нумары часопіса - №10, №11 і №12.

(**Нагадаем: 26 верасня** Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" накіравала зварот да міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча ў сувязі з прыпыненнем дзейнасці часопіса. У афіцыйным лісце патрабавалася адмяніць загад аб прыпыненні дзейнасці выдання і пісьмовае папярэджанне рэдакцыі. "Вынясенне санкцый за змест сродку масавай інфармацыі пры адсутнасці з боку рэдакцыі злоўжываннняў свабодай масавай інфармацыі з'яўляецца, на наш погляд, умяшаннем у дзейнасць і парушэннем прафесійнай самастойнасці рэдакцыі, што ў адпаведнасці з арт. 48 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" прызнаецца замахам на свабоду масавай інфармацыі," –

гаварылася ў звароце БАЖ. Прадстаўнікі арганізацыі падкрэслілі, што “пазасудовае прыпыненне дзейнасці СМІ органам выканаўчай улады парушае міжнародна-прававыя абавязкі Рэспублікі Беларусь”: у првыватнасці, арт. 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Беларуссю, і аналагічныя правілы, замацаваныя ў Канвенцыі СНД аб правах і асноўных свабодах чалавека.

“З’яўленне матэрыялаў грамадска-палітычнага характару ў любым сродку масавай інфармацыі яшчэ не сведчыць аб змяненні яго тэматыкі, -- лічаць прадстаўнікі БАЖ. “У беларускім заканадаўстве не замацавана, які аб’ём нумару можа быць адведзены пад матэрыялы таго ці іншага характару... Гэта пацвярджаецца і тым, што ў арт. 10 закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі” гаворыцца, што заснавальнік у заяве аб рэгістрацыі СМІ павінен указваць прыкладную, а не дакладную тэматыку і (альбо) спецыялізацыю СМІ”).

# Крымінальныя справы па публікацыях у СМІ

**У студзені** на выдаўца газеты **"Наблюдатель"** Паўла Красоўскага (кіраўніка штабу А. Мілінкевіча ў г. Жодзіна) была заведзена крымінальная справа па артыкуле 369 КК РБ (знявага службовых асобаў). Нагодаю для гэтага сталі карыкатуры на мясцовых чыноўнікаў, надрукаваныя ў № 4 выдання. У кватэры выдаўца быў праведзеныператрус, пад час якога былі канфіскаваныя ўсе носьбіты інфармацыі. Газета выдавалася накладам 299 асобнікаў і, паводле беларускага заканадаўства, не падлягала рэгістрацыі. П.Красоўскі праходзіў па справе ў якасці падазраванага, і афіцыйнага абвінавачання яму не выстаўлялася. (Арт. 369 КК РБ прадугледжвае пакаранне ў выглядзе грамадскіх работ, штрафу, альбо папраўчых работ тэрмінам да 2 гадоў, альбо арышту тэрмінам да 6 месяцаў, альбо абмежавання волі тэрмінам да 3 гадоў).

**17 студзеня** мінчанка Аксана Новікава звярнулася ў пракуратуру г. Мінска з патрабаваннем прыцягнуць да крымінальнай адказнасці вядоўца тэлепраграмы "Палітычныя тэхналогіі" Яўгена Новікава. 12 студзеня ў эфір **Першага нацыянальнага тэлеканала** выйшаў выпуск гэтай праграмы, у якой вялася гаворка пра нібыта намеры НАТА, а таксама Польшчы і Літвы развязаць ваенныя дзеянні супраць Беларусі. А.Новікава прасіла пракуратуру завесці крымінальную справу па ч.1 арт.123 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (прапаганда вайны), які прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу ці пазбаўлення волі на тэрмін да 3 гадоў.

**У пачатку лютага** А. Новікавай паведамілі, што яе заява перададзеная ў пракуратуру Першамайскага раёну Мінска, а потым – ва Управу КДБ па Мінску і Мінскай вобласці і КДБ Беларусі. Адначасова з інфармацыяй наконт заявы А.Новікавай паведамілі пра аднаўленне ў дачыненні да яе крымінальнай справы, якая была спыненая ў 2005 г. (Справа датычыць факту выкарыстання падробнага пашпарту пад час прапіскі на тэрыторыі Дзяржынскага раёна, - паведаміла **9 лютага** інфармацыйная кампанія **БелаПАН**).

**20 студзеня** пракуратура Крупскага раёна вынесла афіцыйнае папярэджанне дэпутату Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га склікання Андрэю Клімаву аб недапушчальнасці парушэння беларускага заканадаўства. Нагодай для папярэджання стала яго інтэрв'ю інтэрнэт-парталу **www.euramost.org** пад загалоўкам "Меня часто спрашивают о Милинкевиче" (**http://www.euramost.org/index.php?artc=4983**). Пракуратура палічыла, што Клімаў груба парушыў беларускае заканадаўства, выступаючы ад імя незарэгістраванага руху Андрэя Клімава і заклікаючы да масавых акцый непадпарадкавання. Пракурор Ігар Чэрнель, які падпісаў папярэджанне, падкрэсліў, што Крымінальны кодэкс прадугледжвае адказнасць за арганізацыю і падрыхтоўку дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак альбо за актыўны ўдзел у іх, а таксама за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь.

(**Нагадаем:** 2 снежня Палата Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ прыняла ў другім чытанні папраўкі ў Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы, якія ўзмацняюць адказнасць "за дзеянні, скіраваныя супраць чалавека і грамадскай бяспекі". Законапраект паступіў у парламент ад імя А. Лукашэнкі з пазнакаю "тэрмінова". У Крымінальны кодэкс дадаецца шэраг новых артыкулаў. Арт. 193-1 ("Незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, фонду альбо ўдзел у ім") прадугледжвае, што арганізацыя дзейнасці ці ўдзел у дзейнасці арганізацый і фондаў, у дачыненні да якіх уступіла ў сілу рашэнне аб прыпыненні іх дзейнасці ці ліквідацыі, будуць карацца штрафам, ці арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, ці пазбаўленнем волі тэрмінам да двух гадоў. Падобныя карныя захады тычацца

падрыхтоўкі людзей да ўдзелу ў масавых беспарадках, публічных заклікаў да захопу ўлады ці гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу.

Заклікі, звернутыя да замежных дзяржаў, замежнай і міжнароднай арганізацыі, “учыніць дзеянні ў шкоду вонкавай бяспекі Беларусі, яе суверэнітэту, а таксама распаўсюд матэрыялаў, што ўтрымліваюць такія заклікі”, караюцца зняволеннем да трох гадоў. Калі заклікі будуць распаўсюджвацца праз сродкі масавай інфармацыі, прымяняецца пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў. Артыкул Крымінальнага кодэксу 369-1 (“Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь”) прадугледжвае пакаранне за “прадастаўленне замежнай дзяржаве, замежнай ці міжнароднай арганізацыі загадзя ілжывых звестак аб палітычным, эканамічным, сацыяльным, ваенным ці міжнародным становішчы РБ, прававым стане грамадзян Беларусі ці яе органаў улады”. Падобныя дзеянні караюцца арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, альбо пазбаўленнем волі на тэрмін да двух гадоў. Акрамя таго, праектам прадугледжваецца магчымасць затрымання органамі крымінальнага пераследу асобаў, што падазраюцца ў тэрарызме і ўчыненні злоснага хуліганства, на тэрмін да 10 дзён да прымянення меры стрымання ці вызвалення з-пад варты).

**17 траўня** пракуратура г. Мінска вынесла афіцыйнае папярэджанне вядомай беларускай журналістцы Ірыне Халіп за шэраг артыкулаў у расійскай **“Новой газете”**, прысвечаных прэзідэнцкім выбарам у Беларусі і паслявыбарным акцыям пратэсту. Пракуратура ўгледзела ў публікацыях парушэнне адразу двух артыкулаў Крымінальнага кодэксу: "Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь" і "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта РБ" і папярэдзіла, што ў выпадку паўторнага парушэння журналістку прыцягнуць да "вызначанай законам адказнасці".

(Парушэнне арт. 369 КК РБ (дыскрэдытацыя РБ) можа карацца арыштам на тэрмін да 6 месяцаў альбо пазбаўленнем волі на тэрмін да двух гадоў; парушэнне арт. 367 КК РБ (паклёп у дачыненні да Прэзідэнта РБ) - штрафам, папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, пазбаўленнем альбо абмежаваннем волі да 4 гадоў).

УУС Цэнтральнага раёна г. Мінска адмовілася ўзбуджаць крымінальную справу па зыску вернікаў пратэстанцкай царквы “Новае жыццё” да журналісткі тэлеканалу **“Сталічнае тэлебачанне”** Людмілы Джураевай. Пра гэта гаварылася ў лісце, падпісаным начальнікам УУС В.А.Сіняковым, які зыскоўцы атрымалі **12 снежня.** Прадстаўнікі царквы хацелі прыцягнуць да адказнасці Л. Джураеву за два тэлевізійныя сюжэты, якія выйшлі ў эфір 14 і 15 кастрычніка 2006 г., а таксама двух удзельнікаў гэтага сюжэту - начальніка аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Мінгарвыканкама А.Рабіцаву і кандыдата гістарычных навук І.Янушкевіча. УУС палічыла, што ў дзеяннях апошніх “адсутнічаюць прыкметы якога-небудзь злачынства”.

Паводле юрыста царквы Сяргея Луканіна, гэтыя рэпартажы з’яўляюцца паклёпніцкімі, а факты, выкладзеныя ў іх, маюць правакацыйны характар. “У выніку грубага мантажу маіх слоў у рэпартажы СТВ прагучала выказванне, сэнс якога зводзіцца да таго, што ўсе ўдзельнікі акцыі пратэсту абавязваюцца галадаць да смяротнага зыходу”, - заявіў С. Луканін.

(**Нагадаем**: У кастрычніку 2006 г. каля 200 вернікаў пратэстанцкай царквы “Новае жыццё” на працягу 23 дзён трымалі галадоўку, патрабуючы ад мінскіх гарадскіх уладаў вярнуць ім малітоўны дом і зямельны ўчастак, на якім ён размешчаны).

# Замахі на журналістаў і медыі

**7-8 студзеня** невядомыя абрабавалі рэдакцыю недзяржаўнай газеты **“Брестский курьер”:** з памяшканняў, дзе месціцца рэкламная служба выдання, была скрадзеная база дадзеных, якая ўтрымлівала ўсе дамовы і рахункі. Будынак, дзе размяшчаецца рэдакцыя, ахоўвалі вартавыя, але нічога падазронага яны не заўважылі.

**28 лютага** міліцэйскі нарад з Бялынічаў затрымаў жыхара вёскі Машчаніца, вядомага ў раёне грамадскага актывіста і рэдактара маланакладнай незарэгістраванай газеты **“Паходня”** Барыса Вырвіча. У той жа дзень у раённым аддзяленні міліцыі на яго быў складзены пратакол аб адміністратыўным парушэнні за тое, што ён нібыта "лаяўся матам і пагражаў". Аднак суддзя Бялыніцкага суда Уладзімір Гуз адмовіўся разглядаць справу, паколькі Б.Вырвіч з’яўляецца народным засядальнікам у гэтым судзе, і рэдактара адпусцілі.

**2 сакавіка** падчас выканання сваіх прафесійных абавязкаў у Мінску пацярпелі ад рук прадстаўнікоў праваахоўных органаў шэраг беларускіх і замежных журналістаў. Раніцай - карэспандэнт агенцтва **“Reuters”** (Масква) расійскі грамадзянін Дзмітрый Мадорскі, а таксама журналіст агенцтва **“БелаПАН”** Сяргей Пульша, якія прысутнічалі ў ДК чыгуначнікаў пры затрыманні кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. Пазней фотажурналісты Сяргей Грыц **(“Associated Press”),** Васіль Фядосенка **(“Reuters”),** Юлія Дарашкевіч **(“Наша ніва”)** былі затрыманыя каля Кастрычніцкага РУУС, куды прывезлі А. Казуліна. У хуткім часе іх адпусцілі.

У той жа дзень каля Кастрычніцкага РУУС былі затрыманыя карэспандэнт **“Комсомольской правды в Белоруссии”** Алег Улевіч, журналіст **”Белгазеты”** Дзмітрый Брушко, а таксама супрацоўнік прэс-службы Аляксандра Казуліна Андрэй Максімаў. Журналісты сталіся сведкамі таго, як група прадстаўнікоў праваахоўных органаў атакавала прыхільнікаў затрыманага кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. А. Улевіч пры затрыманні атрымаў удар у твар: у той жа дзень ён трапіў у шпіталь, дзе яму паставілі дыягназ “чэрапна-мазгавая траўма і пералом касцей носа”. 2 сакавіка А.Улевіч падаў заяву ў міліцыю па факце свайго збіцця.

Фотакарэспандэнта **”Белгазеты”** Дзмітрыя Брушко адпусцілі амаль адразу пасля таго, як прывезлі ў РУУС Ленініскага раёна.

У той жа дзень у часе сустрэчы А. Мілінкевіча з выбаршчыкамі, што адбылася каля спорткомплексу "Працоўныя рэзервы" непадалёк ад станцыі метро "Няміга", прадстаўнікі праваахоўных органаў ужылі сілу яшчэ ў дачыненні да двух журналістаў: Валера Каліноўскага **(Радыё “Свабода”)** і Генадзя Барбарыча **(“Белорусы и рынок”).** Як паведаміў карэспандэнт **“Свабоды”** Валер Каліноўскі, ён падышоў з мікрафонам да палкоўніка Д. Паўлічэнкі, які стаяў перад шыхтом АМАПу на выхадзе на пр-т Пераможцаў, і задаў яму пытанне. Замест адказу Паўлічэнка схапіў яго за куртку, тузануў і пацягнуў да міліцэйскіх шэрагаў. Па словах В. Каліноўскага, гэта ўбачыла рэдактарка сайту **“Хартыя-97”** Наталля Радзіна, якая пачала гучна абурацца тым, што ўжываюць сілу супраць журналістаў. Відавочна, гэта збянтэжыла Д. Паўлічэнку, і В. Каліноўскі змог вырвацца. Ні журналіст, ні тэхніка ў выніку інцыдэнту не пацярпелі.

На той жа акцыі ўдар дубінкай атрымаў журналіст газеты **“Белорусы и рынок”** Генадзь Барбарыч. Калі ён праходзіў уздоўж міліцэйскага шыхта, хтосьці з шэрагу

АМАПаўцаў ударыў яго гумовай дубінкай па руцэ, і на гэтым месцы ў яго застаўся вялікі сіняк.

(Як адзначыла ў адмысловай заяве ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (**http://www.baj.by/news/?id=377**), у дзеяннях асобаў, якія затрымлівалі і збівалі журналістаў, угледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага арт. 198 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь, а менавіта - стварэнне перашкодаў законнай прафесійнай дзейнасці журналіста, здзейсненае з прымяненнем гвалту альбо з пагрозай яго прымянення, знішчэннем альбо пашкоджаннем маёмасці, замахам на правы і законныя інтарэсы журналіста.

Свае заявы БАЖ накіраваў Генеральнаму пракурору РБ Пятру Міклашэвічу і міністру ўнутраных справаў Уладзіміру Навумаву: арганізацыя патрабавала прыцягнуць да адказнасці асобаў, што ўжывалі фізічную сілу супраць журналістаў 2 сакавіка і перашкаджалі іх працы.

**2 чэрвеня ГА "БАЖ"** атрымала ліст з пракуратуры Маскоўскага раёна г. Мінска. У ім паведамлялася, што крымінальная справа па факце парушэння правоў журналістаў 2 сакавіка 2006 г. работнікамі праваахоўных органаў узбуджацца на будзе "ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях супрацоўнікаў СПБТ "Алмаз"... складаў злачынстваў". У лісце з раённай пракуратуры гаварылася, што пад час праверкі следчыя апыталі карэспандэнтаў Юлію Дарашкевіч, Дзмітрыя Брушко, Сяргея Пульшу і Алега Улевіча, а таксама 6 байцоў "Алмазу" і 7 супрацоўнікаў міліцыі спецпрызначэння ГУУС Мінгарвыканкама (у дакуменце пералічаныя іх прозвішчы). Па выніках праверкі ГУУС Мінгарвыканкама завяло крымінальную справу па факце нанясення "менш цяжкіх цялесных пашкоджанняў" Алегу Улевічу. Што ж тычыцца астатніх пералічаных у заяве журналістаў, то ўсе яны, са словаў пракурора, альбо не з'явіліся для паказанняў, альбо не пацвердзілі фактаў ужывання супраць іх фізічнай сілы.

Між тым, прадстаўнікі БАЖ лічаць, што органы правапарадку пазбягаюць поўнага адказу на запыты. "БАЖ пытаўся не толькі пра інцыдэнт каля Кастрычніцкага РУУС, але і пра ранішнія падзеі ў ДК Чыгуначнікаў, - падкрэслівае намеснік старшыні БАЖ Андрэй Бастунец. - Менавіта там пад час затрымання А. Казуліна пацярпелі некалькі журналістаў. Але Пракуратура РБ перанакіравала зварот БАЖ у пракуратуру Маскоўскага раёна, а тая, у сваю чаргу, адмовілася разбіраць інцыдэнт у ДК Чыгуначнікаў, бо, маўляў, гэты будынак знаходзіцца не на тэрыторыі Маскоўскага раёна").

**9 сакавіка** ў судзе Маскоўскага раёна Мінска адбыўся новы інцыдэнт, у часе якога людзі ў цывільным ужылі сілу супраць прадстаўнікоў прэсы. Калі ў залу суда ўводзілі Вінцука Вячорку (затрыманага 8 сакавіка прадстаўніка штабу А. Мілінкевіча), чалавек у цывільным кінуўся груба адпіхваць усіх людзей з дыктафонамі, якія хацелі наблізіцца да затрыманага.

Як распавяла прэс-службе БАЖ фотакарэспандэнт **"Нашай нівы"** Юлія Дарашкевіч, людзі ў цывільным стваралі журналістам перашкоды яшчэ і на вуліцы, перад уваходам у будынак суда, закрываючы сабою аб'ектывы фотакамер. Пазней у будынку суда, калі Ю. Дарашкевіч ішла па калідоры з фотаапаратам, чалавек у цывільным моцна ўдарыў яе ззаду нагой.

Па словах відавочцаў, агрэсія была выказаная толькі ў бок прэсы.

Сярод прысутных былі прадстаўнікі **“Associated press”, “RenTV”, “Нашай нівы”, “Радыё Свабода”** і іншых СМІ.

**15 сакавіка** прадстаўнікі АМАПу, КДБ, а таксама Крычаўскага РАУС пад кіраўніцтвам начальніка міліцыі падпалкоўніка Алясандра Рабыкі (агулам больш за 20 чалавек) правялі ператрус у прыватнай кватэры крычаўскага прадпрымальніка Уладзіміра Кудраўцава - заснавальніка і выдаўца незарэгістраванай газеты **“Вольны горад”,** канфіскаваўшы ўсю аргтэхніку, на якой рыхтавалася выданне.

Прадстаўнікі праваахоўных органаў патлумачылі свае дзеянні падазрэннямі, што гэта менавіта тая аргтэхніка, што была нядаўна скрадзеная з цэнтральнай крычаўскай лякарні. Рэдактар газеты Сяргей Няроўны, са свайго боку, бачыць у гэтым жаданне паралізаваць выхад незарэгістраванага выдання, якое распаўсюджвалася ў трох раёнах.

Шэраг беларускіх інтэрнэт-рэсурсаў **19 сакавіка** падвергліся DoS-атакам (штучная перагрузка вялікай колькасцю запытаў, якая блакуе доступ да сайту). Сярод іх - сайт газеты **“Наша ніва”(www.nn.by),** які перастаў адказваць на запыты яшчэ 18 сакавіка, сайты беларускай службы **Радыё “Свабода” (www.svaboda.org), “Хартыі-97”** (www.charter97.org)**, руху “Зубр” (www.zubr-belarus.com),** інфармацыйныя рэсурсы **БелаПАН: www.belapan.com і www.naviny.by.** 20 сакавіка доступ да рэсурсаў быў адноўлены.

**25 сакавіка** пад час вулічнай акцыі ў Мінску пацярпеў амерыканскі журналіст: па звестках радыёстанцыі “Эхо Москвы”, гэта Алан Каллісан, супрацоўнік **”Wall street journal”** (ЗША). Паводле агенцтва БелаПАН, амерыканскі журналіст быў збіты ў цэнтры Мінска (каля ГУМа). Агенцтва “Інтэрфакс” паведаміла, што ў яго “нязначныя траўмы”.

**25 сакавіка** пад час вулічнай акцыі ў цэнтры Мінска быў затрыманы кіраўнік аддзелу спецыяльных праектаў **“Первого канала”** (Расія) Павел Шарамет.

П. Шарамета затрымалі на вул. Леніна ў Мінску пад час акцыі з нагоды Дня Волі. Як паведаміў пазней журналіст, “гэта было сілавое затрыманне ў вельмі жорсткай форме”: “Мяне скруцілі, у кайданках кінулі ў мікрааўтобус, нацягнулі шапку і пачалі збіваць, пры гэтым кажучы, што, маўляў, “не будзем біць па твары”.

Па словах журналіста, яго прывезлі ў Цэнтральнае РУУС, дзе склалі пратакол аб тым, што П. Шарамет нібыта здзейсніў дробнае хуліганства: лаяўся, зневажаў супрацоўнікаў міліцыі і кіраўніка дзяржавы. У пратаколе ў якасці сведкаў фігуруюць оперупаўнаважаныя Строганаў і Баравікоўскі.

Пасля гэтага П. Шарамет па ўласным патрабаванні быў дастаўлены ў Мінскую гарадскую інфекцыйную лякарню, дзе ў яго была зафіксаваная двухбаковая пнеўманія.

**26 сакавіка** прэс-служба Міністэрства ўнутраных справаў паведаміла, што журналіст перавезены ў спецпрыёмнік на вуліцы Акрэсціна. У той жа дзень П. Шарамета вызвалілі з умовай, што ён пакіне Беларусь.

**25 сакавіка** агенцтва "Інтэрфакс" змясціла інфармацыю пра тое, што ўдзельнікі вулічнай акцыі ў скверы Я. Купалы ў Мінску "збілі журналістаў **Беларускага тэлебачання**". Паводле "Інтэрфаксу", "група мітынгоўцаў напала на журналістаў, іх білі нагамі і закідвалі снегам. Снегам таксама закідвалі здымачнае абсталяванне". Паводле сведкаў з ГА “БАЖ”, супрацоўнікам дзяржаўнага тэлебачання крычалі

"Ганьба!" і "Паклёпнікі!", дакараючы тым, што яны робяць ілжывыя рэпартажы, а потым закідалі снежкамі.

**26 сакавіка** ў РУУС Цэнтральнага раёна зарэгістравалі заяву тэлеаператара Першага нацыянальнага каналу (БТ) Дзмітрыя Чумака аб яго збіцці, на падставе якой адразу ж завялі крымінальную справу. Тым не менш, нават праз месяц - **19 траўня** - супрацоўнікі Цэнтральнага РУУС г. Мінска адмовіліся паведаміць журналістам газеты **“Салідарнасць”**, ці ёсць падазраваныя ў справе аб збіцці Дзмітрыя Чумака. Пры гэтым журналістам параілі не губляць часу, паколькі "ніхто з гэтай нагоды нічога не скажа".

Каментуючы падзеі са здымачнымі групамі дзяржаўнага тэлебачання 25 сакавіка, намеснік старшыні **Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі** А. Мартыненка заявіў "Інтэрфаксу", што "напярэдадні выбараў... пачаўся беспрэцэдэнтны прэсінг на журналістаў з боку апазіцыі". Па яго словах, супрацоўнікам тэлекампаніі "сістэматычна тэлефануюць невядомыя людзі з пагрозамі фізічнай расправы", а "электронная пошта, мабільныя тэлефоны супрацоўнікаў кампаніі літаральна завaленыя паведамленнямі, якія ўтрымліваюць знявагі і пагрозы расправы".

Намеснік старшыні ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў " А. Бастунец, са свайго боку, заявіў: "За апошнія месяц дзесяткі журналістаў недзяржаўнай прэсы і замежных СМІ былі затрыманыя, арыштаваныя альбо жорстка збітыя, і ўсе гэтыя факты журналісты дзяржаўнага тэлебачання альбо замоўчвалі, альбо публічна апраўдвалі. А бяскрыўднае закідванне снежкамі прадстаўнікоў дзяржаўнай прэсы цяпер падаецца як "жорсткае збіццё". Гэта - тыповая дэманстрацыя "двайных стандартаў", - кажа А. Бастунец. "Увогуле ж, тое, што ў апошнія дні дэманструе БТ і ОНТ, не мае ніякага дачынення да журналістыкі", - заявіў ён.

**31 сакавіка** Маскоўскі РУУС г. Мінска ўзбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да "нявысветленай асобы", што 2 сакавіка нанесла цялесныя пашкоджанні журналісту **“Комсомольской правды в Белоруссии”** Алегу Улевічу. У пасланні, якое ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” атрымала ад кіраўніка ГУУС Мінгарвыканкама генерал-маёра міліцыі А.Куляшова, гаварылася, што па даручэнні міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава была праведзена праверка па звароце ГА “БАЖ”, пасля чаго была ўзбуджана крымінальная справа па ч.1 арт. 149 КК РБ. Цялесныя пашкоджанні, нанесеныя А. Улевічу, былі кваліфікаваныя як "менш цяжкія" ("по длительности расстройства здоровья").

**31 траўня** ГУУС Мінгарвыканкама прыпыніла папярэдняе расследаванне крымінальнай справы па факце збіцця Алега Улевіча "ў сувязі з невысвятленнем асобы, якая падлягае прыцягненню ў якасці абвінавачанага". У афіцыйным паведамленні, якое журналіст атрымаў з ГУУС, паведамлялася, што правядзенне аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, накіраваных на высвятленне вінаватай асобы, працягваецца, а рашэнне аб прыпыненні расследавання можа быць абскарджана пракурору г. Мінска.

**16 чэрвеня** журналіст накіраваў зварот пракурору г. Мінска Мікалаю Куліку, у якім папрасіў аднавіць расследаванне па крымінальнай справе аб яго збіцці 2 сакавіка. "Паводле паведамлення, якое я атрымаў з упраўлення дазнання папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама, расследаванне спынена "ў сувязі з невысвятленнем асобы, якая падлягае прыцягненню ў якасці абвінавачанага". “Хачу зазначыць, што сведкамі інцыдэнту было каля 30 супрацоўнікаў міліцыі. Трое з іх вялі аператыўныя здымкі на відэакамеры. Побач таксама знаходзіліся каля 20 грамадзян. Па маім меркаванні, следства не вычарпала ўсіх магчымасцяў у высвятленні вінаватых і прыцягненні хуліганаў да адказнасці", - гаварылася ў пасланні. Між тым, прозвішча

чалавека, які мог быць тым самым "хуліганам", фігуравала ў адкрытым лісце экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна Генеральнаму пракурору РБ Пятру Міклашэвічу. З яго вынікае, што гэта "алмазавец К. Цюшэўскі".

**18 ліпеня** Мінская гарадская пракуратура аднавіла расследаванне па факце збіцця А.Улевіча, аднак ужо **11 жніўня** зноў прыпыніла яго "ў сувязі з неўстанаўленнем асобы, якую належыць прыцягнуць да адказнасці ў якасці абвінавачанага".

**11 траўня** супрацоўнікі УКДБ Гродзенскай вобласці правялі ператрус і забралі ўсю аргтэхніку ў кватэры і на працы ў гродзенскага журналіста, былога намесніка кіраўніка Гродзенскай арганізацыі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Уладзіміра Хільмановіча. У журналіста забралі 2 кампутары, ксеракс і прынтар. Супрацоўнікі КДБ паведамілі, што гэтыя дзеянні вядуцца ў межах крымінальнай справы, заведзенай ў дачыненні да сябраў грамадскай ініцыятывы "Партнёрства". Сам журналіст адмаўляе ўсялякія сувязі з гэтай арганізацыяй, звязваючы паводзіны спецслужбаў са сваімі публікацыямі ў беластоцкім тыднёвіку **"Ніва",** які распаўсюджваецца таксама і на тэрыторыі Беларусі.

**18 ліпеня** супрацоўнікі баранавіцкай недзяржаўнай газеты **"Intex-press"** (ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс") знайшлі на дзвярах офіснага будынка рэдакцыі дзве шыльды з надпісамі "Асінае гняздо ЦРУ", а таксама ўлёткі з пагрозамі. Акрамя таго, на тратуарнай плітцы невядомымі быў зроблены надпіс "Нет - продажной прессе", а на камяні побач - графіці з нацбальшавіцкім серпам і молатам у крузе. Дырэктар ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс" Уладзімір Янукевіч у той жа дзень падаў заяву на імя начальніка Баранавіцкага ГАУС Ю. Сняжко з просьбай знайсці і прыцягнуць да адказнасці вінаватых, а таксама зрабіць захады па спыненні падобных акцый і абароне супрацоўнікаў газеты ад пагроз.

**2 жніўня** У. Янукевіч атрымаў ліст за подпісам намесніка начальніка Баранавіцкага ГАУС А. Сакуты, у якім паведамлялася, што знайсці аўтараў пагрозлівых надпісаў "не прадставілася магчымым".

**10 жніўня** недзяржаўная газета **"Витебский курьер М"** атрымала ліст з пагрозамі, аўтарам якога пазначана радыкальная арганізацыя "Русское национальное единство". Яго аўтары патрабавалі ад рэдакцыі выдання на працягу месяца перагледзець сваю інфармацыйную палітыку, у адваротным выпадку пагражаючы задзейнічаць "все свои ресурсы и связи в коридорах власти", каб максімальна хутка закрыць газету. Галоўны рэдактар выдання Уладзімір Базан накіраваў у Кастрычніцкае РУУС Віцебска заяву з патрабаваннем прыцягнуць аўтараў ліста з пагрозамі да адказнасці. **11 верасня** з РУУС у рэдакцыю прыйшоў афіцыйны адказ з паведамленнем, што міліцыі не ўдалося выявіць асобу, якая пагражала выданню.

# Затрыманні журналістаў

**16 студзеня** выдавец бюлетэню **"Наш Смаргонскі край"** Аляксандр Дзергачоў (ён жа – кіраўнік раённага штабу ініцыятыўнай групы кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча) быў выкліканы да пракурора Смаргонскага раёну Мікалая Маліноўскага для азнаямлення з пракурорскім папярэджаннем. У дакуменце адзначалася, што з мэтай прадухілення магчымага парушэння закону А.Дзергачоў папярэджваецца аб недапушчальнасці ў далейшым парушэння закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", выбарчага заканадаўства і іншых законаў Рэспублікі Беларусь. У выдаваным А.Дзергачовым бюлетэні асвятлялася тэма выбарчай кампаніі.

**17 студзеня** ў раёне Скідзеля (Гродзенская вобл.) міліцыя затрымала машыну, у якой знаходзіўся рэдактар часопіса **"Magazyn Polski" ў эміграцыі" ("Magazyn Polski" na uchodzstwie")** Андрэй Пачобут і яго калега Анджэй Лісоўскі, а таксама частка накладу новага нумару выдання. Пад час дагляду ў машыне міліцыя знайшла і забрала 50 асобнікаў выдання. А.Пачобута і Анджэя Лісоўскага даставілі ў Ленінскае РУУС г.Гродна, дзе выдалі копію пратаколу аб затрыманні выдання. Пасля гэтага журналістаў адпусцілі.

**26 студзеня** рэдактара часопіса **"Magazyn Polski" ў эміграцыі"** А. Пачобута выклікалі ў пракуратуру Гродзенскай вобласці, дзе паведамілі аб правядзенні экспертызы інфармацыі ў двух нумарах яго выдання. Пракуратура цікавілася, ці ён з'яўляецца аўтарам публікацый часопіса і чаму ў выданні адсутнічаюць выходныя дадзеныя. А. Пачобут адмовіўся даваць тлумачэнні. Прысутная ў пракуратуры супрацоўніца падатковай службы хацела даведацца, ці не дапамагалі А.Пачобуту польскія журналісты сплаціць штраф 5,1 млн. рублёў, накладзены на яго ў 2005 годзе за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце ў падтрымку газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"**.

**16 жніўня** прыкладна такія ж пытанні задавалі А. Пачобуту на допыце ў аддзеле барацьбы з эканамічнай злачыннасцю Ленінскага РУУС г. Гродна. Следчага цікавілі два пытанні: хто і якім чынам фінансуе выданне часопіса і ці спараўды польскія журналісты перадавалі грошы А. Пачобуту для выплаты штрафу за ўдзел у пікеце. Журналіст скарыстаўся правам не сведчыць супраць сябе і адмовіўся даваць паказанні.

**31 студзеня** галоўны рэдактар газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"** Анжэй Пісальнік быў выкліканы да старшага памочніка пракурора Гродзенскай вобласці Веніяміна Лук'янава. Падставай для выкліку стала праверка публікацый у газеце **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"** і часопісе **"Magazyn Polski" ў эміграцыі",** дзе публікуюцца артыкулы А.Пісальніка. Журналіст адмовіўся даваць тлумачэнні.

**10 лютага** дэпутат Гомельскага гарсавету Юрый Глушакоў быў выкліканы ў пракуратуру Чыгуначнага раёну Гомеля. Намеснік пракурора Аляксей Скараход узяў з дэпутата тлумачэнне наконт знойдзеных у яго ўлётак з карыкатурамі на **дзяржаўныя беларускія тэлеканалы**. Напярэдадні міліцыя затрымала Ю.Глушакова з 11 тысячамі ўлётак. Асоба, што спыніла мікрааўтобус, у якім ехаў Ю.Глушакоў, адмовілася сябе назваць. На дэпутата склалі пратакол паводле арт. 172-3 КаАП (Распаўсюд друкаваных выданняў, выробленых з парушэннем вызначанага парадку, якія не маюць выходных дадзеных, змест якіх накіраваны на нанясенне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян).

**2 сакавіка** падчас выканання сваіх прафесійных абавязкаў у Мінску былі затрыманыя некалькі журналістаў беларускіх і дзяржаўных СМІ. Фотажурналісты Сяргей Грыц **(“Associated Press”),** Васіль Фядосенка **(“Reuters”)** і Юлія Дарашкевіч **(“Наша ніва”)** былі затрыманыя каля Кастрычніцкага РУУС, куды міліцыя прывезла затрыманага кандыдата ў прэзідэнты А. Казуліна, але ў хуткім часе іх адпусцілі. У той жа дзень каля Кастрычніцкага РУУС былі затрыманыя карэспандэнт **“Комсомольской правды в Белоруссии”** Алег Улевіч і журналіст **“Белгазеты”** Дзмітрый Брушко. Журналісты сталіся сведкамі таго, як група прадстаўнікоў праваахоўных органаў атакавала прыхільнікаў затрыманага кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. А. Улевіч пры затрыманні атрымаў удар у твар: і ў той жа дзень ён трапіў у шпіталь, дзе яму паставілі дыягназ “чэрапна-мазгавая траўма і пералом касцей носа”. (2 сакавіка А.Улевіч падаў заяву ў міліцыю па факце свайго збіцця). Фотакарэспандэнта **"Белгазеты"** Дзмітрыя Брушко адпусцілі амаль адразу пасля таго, як прывезлі ў РУУСЛенініскага раёна.

**3 сакавіка** старшыню Гомельскай арганізацыі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Анатоля Гатоўчыца выклікалі ў Гомельскую абласную пракуратуру, дзе яму ўручылі афіцыйнае папярэджанне аб парушэнні п. 9 Палажэння аб прафесійнай дзейнасці ў Беларусі карэспандэнтаў замежных СМІ, а таксама арт. 40 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".

У пракуратуры начальнік аддзелу агульнага нагляду А. Елісееў азнаёміў А. Гатоўчыца са скаргамі намесніка кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна Гомеля Н. Малага і намесніка начальніка Цэнтральнага аддзелу ўнутраных спраў С. Яфіменкі на тое, што іх адказы на пытанні журналіста па тэлефоне былі пададзеныя ў эфіры **Радыё “Свабода”.** Журналіст патлумачыў, што папярэджваў згаданых асобаў пра выкарыстанне дыктафона. Акрамя гэтага, А. Гатоўчыц паведаміў, што дырэкцыя **Radio Free Europe/ Radio Liberty** неаднаразова (у верасні 2005г. і ў студзені 2006г.) падавала прадстаўленне на яго акрэдытацыю ў Міністэрства замежных спраў РБ, але ў абодвух выпадках афіцыйнага пісьмовага адказу на іх не атрымала.

**12 сакавіка** ў Мінску міліцыя на некалькі гадзін затрымала журналістку украінскага **“5 каналу”** Ганну Гаражэнку падчас выхаду ў прамы эфір з Мінска. Затрыманне адбылося пад час наўпроставага ўключэння з месца сустрэчы з выбаршчыкамі кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча. Журналістку даставілі ў РУУС Фрунзенскага раёна і вызвалілі толькі пасля ўмяшальніцтва украінскага консула, хаця яна мела афіцыйную акрэдытацыю пры беларускім МЗС. Як паведаміла Г. Гаражэнка Радыё "Свабода", пад час затрымання былі пашкоджаныя камера **“5 каналу”** і мікрафон. Па словах журналісткі, міліцыянты, якія здзяйснялі затрыманне, зняважалі яе і іншых прадстаўнікоў здымачнай групы.

**13 сакавіка** ў Мінску невядомыя асобы затрымалі гродзенскага журналіста, галоўнага рэдактара часопіса **“Magazyn Polski” ў эміграцыі”** Андрэя Пачобута.

Журналіста затрымалі пад час тэлефоннай гутаркі з карэспандэнтам інтэрнэт-рэсурсу **pahonia.promedia.by,** якому ён даваў інтэрв’ю**.** Як пазней высветлілася, А. Пачобута затрымалі супрацоўнікі КДБ, якія спачатку даставілі яго ў цэнтральны будынак КДБ, а пазней перавезлі ў Гродна. **14 сакавіка** суддзя Ленінскага раёна Гродна Наталля Козел прызнала журналіста вінаватым у дробным хуліганстве і вызначыла яму пакаранне - 10 сутак адміністратыўнага арышту. Яму інкрымінавалі нецэнзурную лаянку каля будынку следчага ўпраўлення абласной міліцыі ў Гродна. На знак пратэсту журналіст абвесціў сухую галадоўку.

А. Пачобут прыязджаў у Мінск, каб збіраць матэрыял для публікацый ва ўплывовых польскіх выданнях "Gazeta Wyborcza" і "Rzeczpospolita".

**14 сакавіка** беларускія памежнікі без тлумачэння прычын высадзілі з цягніка Кіеў-Мінск уначы журналістаў украінскага **"5 каналу"** Андрэя Жыгуліна і Віталя Дарашэнку. Як паведаміў сайт тэлекампаніі (**http://5tv.com.ua**), супрацоўнікі **"5 каналу"** мелі пры сабе дакументы аб акрэдытацыі пры Міністэрстве замежных спраў Беларусі на ажыццяўленне прафесійнай дзейнасці ў Беларусі падчас прэзідэнцкіх выбараў. Беларускія памежнікі забралі ў журналістаў пашпарты і акрэдытацыйныя карткі, пратрымалі дзве гадзіны на мяжы, а потым вярнулі дакументы і пасадзілі на зваротны цягнік Мінск-Кіеў.

**15 сакавіка** ў Гродна міліцыя затрымала галоўнага рэдактара газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"** Анжэя Пісальніка. У той жа дзень суд прызнаў яго вінаватым у нецэнзурнай лаянцы (дробнае хуліганства, арт. 156 КаАП) і асудзіў на 5 сутак адміністратыўнага арышту. **20 сакавіка,** у дзень выхаду на волю, Анжэя Пісальніка затрымалі на пл. Леніна ў г. Гродна, куды ён скіраваўся, каб асвятляць прызначаную на 16.00 вулічную акцыю. **21 сакавіка** журналіста асудзілі на 12 сутак адміністратыўнага арышту, звінаваціўшы ва ўдзеле ў несанкцыянаванай вулічнай акцыі (арт. 167-1 КаАП).

**15 сакавіка** Віктар Ярашук, начальнік пінскага карэспандэнцкага пункта недзяржаўнай газеты **"Мясцовы час"** (ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс") быў затрыманы міліцыяй. У той жа дзень суд г. Пінска асудзіў яго на 5 сутак адміністратыўнага арышту, звінаваціўшы ў дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП). (В.Ярашук з'яўляўся даверанаю асобаю кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. Усяго 15 сакавіка ў Пінску былі затрыманыя пяць актывістаў штабоў А. Мілінкевіча і А. Казуліна). **20 сакавіка** В. Ярашук выйшаў на волю з ізалятару часовага ўтрымання Пінскага ГУУС. Аднак ужо **22 сакавіка** яго затрымалі паўторна, а **23 сакавіка** асудзілі на 6 сутак адміністратыўнага арышту па тым жа артыкуле КаАП. (Журналіста абвінавацілі ў нецэнзурнай лаянцы і супраціве міліцыянтам).

**17 сакавіка** ў Ваўкавыску быў затрыманы рэдактар недзяржаўнай **"Местной газеты"** Андрэй Шантаровіч. Ён паспеў паведаміць па тэлефоне сябрам, што яго даставілі ў міліцыю, пасля чаго сувязь з ім абарвалася. Раніцай наступнага дня суд Ваўкавыскага раёна вынес рашэнне аб адміністратыўным арышце журналіста на 3 сутак нібыта за дробнае хуліганства (арт. 156 КаАП) - нецэнзурную лаянку на адрас начальніка аддзелу Смаргонскага РУУС.

**У красавіку** стала вядома, што пасля выхаду з-за кратаў А. Шантаровіч з'ехаў ва Украіну. Звязаўшыся з прэс-службай БАЖ з-за мяжы, ён расказаў, што напрацягу трох сутак (**з 18 па 21 сакавіка**), якія ён правёў у ізалятары часовага ўтрымання Ваўкавыскага РУУС нібыта за хуліганства, яго ўвесь час запалохвалі распраўай, а пасля яго выхаду на волю за кватэрай пачалі сачыць. З вялікімі цяжкасцямі яму ўдалося незаўважна выбрацца з дому і выехаць за мяжу.

**14 чэрвеня** А. Шантаровіч папрасіў палітычнага прытулку ва Ўкраіне. Заяву журналіста аб прадастаўленні яму статусу ўцекача па палітычных матывах прыняў аддзел па справах нацыянальнасцяў і міграцыі Харкаўскай аблдзяржадміністрацыі.

**17 сакавіка** ў Мінску затрымалі пазаштатнага карэспандэнта газеты **"Салідарнасць",** актывіста незалежнага прафсаюзу РЭПАМ Івана Романа. Затрыманне І. Романа здзейснілі ў офісе РЭПАМ людзі ў цывільным. Напрацягу выходных дзён ні калегі, ні блізкія не маглі высветліць месцазнаходжання журналіста. Толькі **20**

**сакавіка** І. Роман патэлефанаваў і распавёў калегам, што ўвесь гэты час быў у Лідзе. Па словах журналіста, 17 сакавіка яго да вечара пратрымалі ў Першамайскім РУУС Мінска, дзе да яго перыядычна падыходзіў невядомы чалавек у цывільным, прыстаўляў да яго галавы пісталет і пагражаў. Каля 20.00 І. Романа перавезлі ў міліцэйскай машыне з Мінска ў Ліду і змясцілі ў спецізалятар. **20 сакавіка** яго судзілі і далі штраф памерам 2 базавыя велічыні нібыта за нецэнзурную лаянку (арт. 156 КаАП – дробнае хуліганства).

**23 сакавіка** Іван Роман быў зноў затрыманы ў Гродна: яго спыніла міліцыя, калі ён выйшаў на вуліцу пасля сустрэчы са старшынём абласнога штаба А. Мілінкевіча Анатолем Хацько. У той жа дзень суд Ленінскага раёна зноў прызнаў журналіста вінаватым у дробным хуліганстве і прыняў рашэнне аб адміністратыўным арышце І. Романа на 13 сутак.

**18 сакавіка** супрацоўнікі Гомельскага аддзела ўнутраных справаў на транспарце затрымалі падчас выхаду з цягніка трох расійскіх студэнтаў – Аляксандра Гальмакова, Аляксея Навасёлава і Андрэя Хачатурава, якія мелі пры сабе пасведчанні карэспандэнтаў расійскай газеты **"Правое дело".** Праз некалькі гадзін быў затрыманы таксама Дзмітрый Волаў, які таксама меў пры сабе пасведчанне супрацоўніка газеты **"Правое дело".** У міліцыі яны прабылі больш за 5 гадзін. Затрыманых абшукалі і папярэдзілі, што іх знаходжанне на тэрыторыі Беларусі непажаданае. Пасля гэтага маладых людзей суправодзілі да вакзалу, дзе пасадзілі на цягнік Гомель-Навазыбкаў (Бранская вобл., РФ). Па словах журналістаў, яны мелі намер асвятляць у дзень прэзідэнцкіх выбараў ход галасавання на выбарчых участках Гомеля.

**19 сакавіка** ў кватэру да А. Шэіна, прадстаўніка прэс-групы кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча, уварваліся міліцыянты з аўтаматамі і супрацоўнікі КДБ, якія правяліператрус і забралі некаторыя асабістыя рэчы.

**21 сакавіка** суд Маскоўскага раёна Мінска прызнаў А. Шэіна вінаватым у парушэнні арт. 156 КаАП (дробнае хуліганства) і асудзіў яго на 5 сутак адміністратыўнага арышту.

**20 сакавіка** ў Гродна былі затрыманыя Ігар Банцар (карэспандэнт газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"**) і Аляксей Радс (адміністратар сайту **www.forum.grodno.net**). **21 сакавіка** суд Ленінскага раёна Гродна прызнаў абодвух вінаватымі ў парушэнні арт. 156 КаАП (дробнае хуліганства) і асудзіў кожнага на 10 сутак адміністратыўнага арышту.

Уначы з **20 на 21 сакавіка** каля Кастрычніцкай плошчы (месца збору апанентаў улады пад час прэзідэнцкіх выбараў 2006 г.) у Мінску была затрыманая карэспандэнтка газеты **"Однако"** Вольга Дземчанка. Увечары **21 сакавіка** суд Кастрычніцкага раёна Мінска прызнаў яе вінаватай ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве (арт. 167-1 КаАП) і пастанавіў спагнаць з яе штраф у памеры 20 базавых велічыняў.

Раніцай **21 сакавіка** ў Мінску быў затрыманы галоўны рэдактар газеты **"Наша ніва"** Андрэй Дынько. Яго затрымалі, калі ён выходзіў з аўтобуса на Кастрычніцкай плошчы, на якой быў разбіты намётавы лагер. Напрацягу ўсяго дня месцазнаходжанне А. Дынько было невядома.

**22 сакавіка** суд Савецкага раёна г. Мінска прызнаў Андрэя Дынько вінаватым у дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП) і асудзіў на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Суддзя Алена Крайчык палічыла пераканаўчымі сведчанні міліцыянтаў, якія заявілі,

што галоўны рэдактар **“Нашай нівы”** ішоў па Кастрычніцкай плошчы і нецэнзурна лаяўся, не рэагуючы на “неаднаразовыя заўвагі міліцыі”. Разам з тым, суддзя цалкам праігнаравала сведчанні калегаў А. Дынько - Веранікі Дзядок і Алеся Кудрыцкага, якія адзінагалосна сцвердзілі, што журналіста заштурхалі ў аўтобус, як толькі ён з яго выйшаў, і ён проста не паспеў бы зрабіць тое, у чым яго звінавачваюць.

**21 сакавіка** ўвечары ў Мінску быў затрыманы Зміцер Гурневіч - пазаштатны карэспандэнт Беларускай службы **Радыё “Палёнія” (Radio Polonia)**, які рабіў рэпартажы з Кастрычніцкай плошчы. З.Гурневіча адвезлі ў Фрунзенскае РУУС, а потым асудзілі на 10 сутак адміністратыўнага арышту нібыта за дробнае хуліганства (арт. 156 КаАП).

**21 сакавіка** ўвечары на Кастрычніцкай плошчы г. Мінска быў затрыманы журналіст недзяржаўнай газеты **“Белорусы и рынок”** Вадзім Александровіч. **22 сакавіка** суд Заводскага раёна г. Мінска інкрымінаваў яму ўдзел у несанкцыянаванай вулічнай акцыі (арт. 167 КаАП) і вызначыў пакаранне: 10 сутак адміністратыўнага арышту.

**21 сакавіка** ўвечары ў Віцебску затрымалі фотакарэспандэнта недзяржаўнай газеты **“Витебский курьер М”** Сержука Серабро. Ён апынуўся сярод 15 затрыманых удзельнікаў вулічнай акцыі пратэсту ў цэнтры горада. Журналіста разам з іншымі затрыманымі прывезлі ў Кастрычніцкі РАУС Віцебска, дзе склалі пратакол пра ўдзел у несанкцыянаваным вулічным мерапрыемстве. **22 сакавіка** суд апраўдаў фотажурналіста, прызнаўшы, што ён выконваў свае прафесійныя абавязкі.

**22 сакавіка** ўначы міліцыя затрымала ў Мінску карэспандэнта ўкраінскай газеты **“Карпацкі голас”** Андрэя Любку. **23 сакавіка** суд Фрунзенскага раёна г.Мінска асудзіў на 15 сутак адміністратыўнага арышту, звінаваціўшы ў дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП). Журналіст асвятляў паслявыбарныя падзеі на Кастрычніцкай плошчы. Падчас слуханняў у судзе А. Любка распавядаў, што людзі, якія яго затрымлівалі, плявалі яму ў твар, зневажалі яго нацыянальную годнасць і годнасць прэзідэнта Украіны.

**22 сакавіка** ўвечары ў Мінску быў затрыманы журналіст барысаўскай газеты **“Offside”** Сяргей Салаш. **23 сакавіка** суд Першамайскага раёна г. Мінска прызнаў С. Салаша вінаватым у дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП) і асудзіў на 13 сутак адміністратыўнага арышту.

**23 сакавіка** ў Мінску непадалёк ад Кастрычніцкай плошчы затрымалі Ірыну Лаўроўскую - журналістку недзяржаўнай газеты **“Брестский курьер”.** У той жа дзень суд Кастрычніцкага раёна аштрафаваў яе на 2 базавыя велічыні за дробнае хуліганства (арт. 156 КаАП). У пастанове суда, якую Ірына паказала супрацоўнікам БАЖ, сцвярджалася, што яна "выражалась грубой бранью" і "на замечания сотрудников милиции не реагировала", чым парушыла грамадскі парадак.

**23 сакавіка** ў Магілёве быў затрыманы акрэдытаваны ў Беларусі рэгіянальны карэспандэнт радыёстанцыі **“Нямецкая хваля”** Віталь Васількоў. Затрыманне адбылося за 15 хвілінаў да адыходу хуткага цягніка "Магілёў-Мінск". Журналіст меў пры сабе пасведчанне карэспандэнта **“Нямецкай хвалі”**; тым не менш, на яго склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні. У той жа дзень суд Ленінскага раёна Магілёва асудзіла яго на 7 сутак адміністратыўнага арышту за дробнае хуліганства (арт. 156 КаАП).

**23 сакавіка** раніцай ў Мінску недалёка ад Кастрычніцкай плошчы былі затрыманыя журналісты, сябры ГА “БАЖ” Алена Лукашэвіч і Антон Тарас. Іх месцазнаходжанне было невядома да 14.00: толькі пасля гэтага часу стала вядома, што яны знаходзяцца ў спецпрымальніку-размеркавальніку на Акрэсціна.

**24 сакавіка** суд Ленінскага раёна прызнаў А. Тараса вінаватым у дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП) і вызначыў для яго пакаранне - 11 сутак адміністратыўнага арышту. У той жа дзень суд Кастрычніцкага раёна прызнаў Алену Лукашэвіч вінаватай у парушэнні таго ж 156 артыкулу КаАП і аштрафаваў яе на 2 базавыя велічыні.

**23 - 24 сакавіка** пад час ліквідацыі намётавага гарадка на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску быў затрыманы шэраг журналістаў беларускіх і замежных СМІ. Сярод супрацоўнікаў беларускіх медыяў былі затырманыя: карэспандэнт сайту Асамблеі недзяржаўных дэмакратычных арганізацый (**www.belngo.info**), выдавец і рэдактар незарэгістраванай газеты **"Горацкі выбар",** супрацоўнік Горацкай недзяржаўнай газеты **"Региональные ведомости"** Эдуард Брокараў; карэспандэнт **інтэрнэт-рэсурсу www.ucpb.org** (сайт АГП) Вадзім Казначэеў; вольная журналістка, пазаштатная аўтарка часопіса **"Асвета і адукацыя",** аўтарка "Сакавіцкіх дзённікаў" у LiveJournal (**http://bullochka.livejournal.com/186406.html**) Дар’я Кастэнка; вольная журналістка, былая пазаштатная супрацоўніца **"Новой газеты Сморгони"** Святлана Станкевіч; вольная журналістка, сябра ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Таццяна Ваніна; журналіст газеты **“Наша ніва”** Арцём Лява. Суды над імі прайшлі з **24** па **27 сакавіка.** Журналістаў звінавацілі ў парушэнні арт. 167 ч.1 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства) альбо арт. 156 КаАП (дробнае хуліганства). Э. Брокарава асудзілі на 10 сутак адміністратыўнага арышту; В. Казначэева - на 10 сутак; Д. Кастэнку – на 10 сутак; С. Станкевіч – на 8 сутак; Т. Ваніну – на 10 сутак; А. Ляву – на 15 сутак.

Сярод журналістаў замежных СМІ былі затрыманыя: кіраўнік расійскага інфармацыйнага агенцтва **"Прима-news"** Аляксандр Падрабінек (15 сутак арышту), карэспандэнтка гэтага ж агенцтва, беларуская журналістка Таццяна Снітко (штраф – 30 базавых велічыняў), прадстаўнікі расійскай газеты **"Правое дело"** Алег Казлоўскі і Эдуард Глезін (па 15 сутак арышту), карэспандэнтка польскай **“Gazety Wyborczej”** Вераніка Самаліньска (10 сутак арышту), а таксама журналіст канадскай газеты **"La Presse"** Фрэдэрык Левуа (15 сутак арышту). Іх таксама звінавацілі ў парушэнні арт. 167 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства) альбо 156 КаАП (дробнае хуліганства).

**24 сакавіка** ў Мінску супрацоўнікі КДБ затрымалі здымачную групу **Грамадскага тэлебачаня Грузіі** Ніно Гіоргабіані і Георгія Лагідзэ ў той час, як яны бралі інтэрв'ю ў людзей, чыіх блізкіх затрымалі на Кастрычніцкай плошчы. Пасля затрымання яны звязаліся з калегамі па тэлефоне і распавялі, што да іх падышлі "супрацоўнікі службы бяспекі" і папрасілі прад'явіць дакументы аб рэгістрацыі. Нягледзячы на наяўнасць усіх патрэбных дакументаў, журналістаў усё роўна затрымалі "для высвятлення сітуацыі". **27 сакавіка** суд Савецкага раёна асудзіў на 5 сутак арышту журналістку Грамадскага тэлебачання Грузіі Ніно Гіоргабіані і на 15 сутак - аператара Георгія Лагідзэ, звінаваціўшы іх у дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП).

**24 сакавіка** на Кастрычніцкай плошчы Мінска міліцыя ненадоўга затрымала карэспандэнтку французскай газеты **"Liberation”** Ларэн Мілё. У той жа вечар журналістку адпусцілі.

**24 сакавіка** гродзенскі журналіст, супрацоўнік інтэрнэт-сайту **www.pahonia.promedia.by** Аляксей Салей быў затрыманы ў Гродна на вакзале, калі збіраўся ехаць у Мінск. Яго даставілі ў Ленінскі РАУС, дзе ён знаходзіўся да суда. **27 сакавіка** суд прызнаў А. Салея вінаватым у дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП), вызначыўшы пакаранне - 6 сутак адміністратыўнага арышту.

**24 сакавіка** ў Гродна міліцыянты затрымалі журналістку Ірыну Чарняўку, якая таксама збіралася ехаць у Мінск, і завезлі на машыне ў аддзел міліцыі "Дзевятоўка". Там сказалі, што "раяць ёй нікуды не ехаць", пасля чаго адпусцілі.

**24 сакавіка** позна ўвечары ў Віцебску затрымалі Валерыя Шчукіна, журналіста **"Народнай волі",** калі ён збіраўся выязджаць у Мінск. Афіцыйная прычына затрымання - нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы. За дзень да затрымання, **23 сакавіка,** скончыўся 7-дзённы тэрмін папярэдняга адміністратыўнага арышту, які В.Шчукін адбыў таксама за дробнае хуліганства паводле заявы старшыні выбарчай камісіі, дзе журналіст быў акрэдытаваны ў якасці назіральніка.

**25 сакавіка** пад час вулічнай акцыі ў цэнтры Мінска быў затрыманы кіраўнік аддзелу спецыяльных праектаў **"Первого канала"** (Расія) Павел Шарамет.

П. Шарамета затрымалі на вул. Леніна ў Мінску пад час акцыі з нагоды Дня Волі. Як паведаміў пазней журналіст, "гэта было сілавое затрыманне ў вельмі жорсткай форме". Па словах журналіста, яго прывезлі ў цэнтральны РУУС, дзе склалі пратакол аб тым, што П. Шарамет нібыта здзейсніў дробнае хуліганства: лаяўся, зневажаў супрацоўнікаў міліцыі і кіраўніка дзяржавы. У пратаколе ў якасці сведкаў фігуруюць оперупаўнаважаныя Строганаў і Баравікоўскі.

Пасля гэтага П. Шарамет па ўласным патрабаванні быў дастаўлены ў Мінскую гарадскую інфекцыйную лякарню, дзе ў яго была зафіксаваная двухбаковая пнеўманія. **26 сакавіка** прэс-служба Міністэрства ўнутраных справаў паведаміла, што перавезены ў спецпрыёмнік на вуліцы Акрэсціна. У той жа дзень П. Шарамета вызвалілі з умовай, што ён пакіне Беларусь.

**25 сакавіка** ў Мінску міліцыя затрымала прэс-сакратара экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча Паўла Мажэйку. Яго адвезлі ў Цэнтральнае РУУС г.Мінска, дзе, па словах П.Мажэйкі, паведамілі пра намер завесці супраць яго крымінальную справу - нібыта за супраціўленне работнікам міліцыі. Потым з П.Мажэйкі ўзялі тлумачэнні і адпусцілі.

**22 сакавіка** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" звярнулася (**http://www.baj.by/news/?id=291**) да пракурора Гродзенскай вобласці, а таксама начальнікаў упраўленняў і аддзелаў унутраных справаў Гродзенскай вобласці і раёнаў г. Гродна ў сувязі са шматлікімі затрыманнямі журналістаў: у прыватнасці, Андрэя Пачобута, Анжэя Пісальніка, Ігара Банцара, Аляксея Радса, Івана Романа і Андрэя Шантаровіча. ГА "БАЖ" патрабавала апратэставаць судовыя пастановы, па якіх журналісты адбылі адміністратыўныя арышты, і правесці службовыя расследаванні дзеянняў праваахоўных органаў.

**13 красавіка** БАЖ атрымаў адказы з УУС Гродзенскага аблвыканкама і адміністрацыі Ленінскага раёна Гродна, з якіх вынікала, што правы журналістаў не былі парушаныя і карныя санкцыі былі правамоцнымі. У атрыманых лістах было заяўлена, што "ў дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі парушэнняў заканадаўства пры затрыманні і складанні адміністратыўных пратаколаў... не выяўлена".

**24 сакавіка** скаргу (**http://www.baj.by/news/?id=270**) на парушэнні правоў затрыманых у канцы сакавіка журналістаў ГА ”БАЖ” накіравала ў ГУУС Мінгарвыканкама і пракуратуру г. Мінска. **12 красавіка** арганізацыя атрымала ліст ад намесніка начальніка ГУУС Мінгарвыканкама А. Найдзенкі. Ён не лічыць, што правы журналістаў, затрыманых і змешчаных у спецпрымальнік на Акрэсціна ў канцы сакавіка, былі парушаныя, і сцвярджае, што ўсе затрыманыя з 21 да 24 сакавіка змяшчаліся ў спецпрымальнік толькі пры наяўнасці ўсёй неабходнай дакументацыі. З яго словаў, адміністрацыя аб'яднанага спецпрымальніка-размеркавальніка напрацягу сутак паінфармавала блізкіх затрыманых, якія пагадзіліся падаць звесткі пра іх. (Між тым, месцазнаходжанне некаторых журналістаў блізкія і прадстаўнікі БАЖ не маглі высветліць больш за суткі).

Пракуратура г. Мінска, разгледзеўшы скаргу БАЖ, таксама не знайшла падставаў для прыняцця захадаў пракурорскага рэагавання. Пасланне за подпісам старшага памочніка пракурора г. Мінска сп-ра Сямёнава, якое БАЖ атрымаў **17 красавіка**, амаль цалкам дублюе пасланне ад ГУУС Мінгарвыканкама.

**17 красавіка** ў лесе пад Мінскам прайшла нефармальная сустрэча беларускіх журналістаў, якія адбылі ў канцы сакавіка адміністратыўнае пакаранне. Спатканне з сімвалічнай назвай **“Пасядзелкі-2006”,** якое зладзіла ГА "БАЖ", сабрала каля двух дзесяткаў прадстаўнікоў прэсы з розных рэгіёнаў. Сцвярджэнні афіцыйных структур наконт выканання імі ўсіх патрабаванняў да ўмоваў утрымання зняволеных зусім не супадалі з успамінамі тых, хто адбыў пакаранне. Гэтак, па словах Таццяны Ванінай, блізкія даведаліся пра яе лёс і месцазнаходжанне толькі на трэція суткі.

**21 красавіка** ў цэнтры Мінска каля 13.00 затрымалі карэспандэнта расійскай газеты **“Коммерсантъ”,** беларускага журналіста Вадзіма Доўнара. В. Доўнар ішоў па вуліцы К. Маркса, калі яго спынілі людзі ў цывільным (як пазней высветлілася - супрацоўнікі прэзідэнцкай аховы). Праверыўшы ў журналіста дакументы, яны выклікалі міліцэйскую машыну, і В. Доўнара затрымалі і даставілі ў Ленінскае РУУС Мінска. Журналіста пратрымалі ў міліцыі некалькі гадзін і толькі каля 18.00 выклікалі да следчага, дзе склалі рапарт аб тым, што журналіст нібыта быў у нецвярозым стане, зневажаў кіраўніка дзяржавы і выкрыкваў антыўрадавыя лозунгі. Пасля гэтага В. Доўнара зноў змясцілі ў камеру, забраўшы рэмень і матузкі ад абутку. Праз некаторы час журналісту прад'явілі іншы пратакол, у якім яго звінавачвалі ў нецэнзурнай лаянцы (арт. 156 КаАП – дробнае хуліганства). Затым журналіста адпусцілі, прадпісаўшы праз некалькі дзён з’явіцца для судовага разгляду справы.

**28 красавіка** суддзя Ленінскага раённага суда адтэрмінавала слуханні, накіраваўшы матэрыялы справы на дапрацоўку ў РУУС Ленінскага раёна г. Мінска. У судзе выявілася, што дадзеныя рапартаў і пратакола разыходзяцца (першыя ўказваюць на артыкул Крымінальнага кодэксу, другія - на адміністратыўнае правапарушэнне). **21 чэрвеня** суд Ленінскага раёна г. Мінска пастанавіў аштрафаваць Вадзіма Доўнара на 1 базавую велічыню (31 тысяча рублёў), прызнаўшы яго вінаватым у дробным хуліганстве.

**25 красавіка** двух журналістаў недзяржаўнай газеты **“Бобруйский курьер”** - Мікіту Быцэнку і Юрыя Светлакова - спынілі на вуліцы супрацоўнікі Ленінскага раённага аддзялення міліцыі Бабруйску. Журналістаў затрымалі і адвезлі ў гарадскі ізалятар часовага ўтрымання, дзе яны прабылі да 13.00 наступнага дня. Высветлілася, што міліцыя абвінавачвае журналістаў у дробным хуліганстве (нецэнзурнай лаянцы). **27 красавіка** павінныя былі адбыцца судовыя слуханні, аднак суддзя перанесла іх, бо ў суд не з'явілася амаль палова сведкаў з боку міліцыі. **3 траўня** суд г. Бабруйска закрыў

адміністратыўную справу ў дачыненні да журналістаў. Суддзя палічыла, што міліцыя не прадставіла ў судзе дастатковых доказаў і не забяспечыла яўкі сведкаў са свайго боку. Затрыманне адбылося напярэдадні ад'езду карэспандэнтаў ў Мінск для ўдзелу ў акцыі "Чарнобыльскі шлях".

**4 траўня,** падчас перапынку ў слуханнях па справе моладзевага актывіста А. Фінькевіча, якія праходзілі ў судзе Першамайскага раёна г. Мінска, былі затрыманыя журналісткі Наталля Валакіда (**прэс-служба АГП**) і Таццяна Снітко (**"Наша ніва", "Прима-news").** Рэпарцёраў пратрымалі ў Першамайскім РУУС прыкладна паўгадзіны, пасля чаго адпусцілі.

**4 траўня** ўвечары каля чыгуначнага вакзалу ў Мінску былі на пэўны час затрыманыя фотакарэспандэнты інфармацыйных агенцтваў **"Associated Press" і "Reuters"** Сяргей Грыц і Васіль Фядосенка. Яны былі на вакзале ў звязку з планаваным там флэш-мобам, які, відавочна, з прычыны вялікай канцэнтрацыі супрацоўнікаў міліцыі, так і не адбыўся. Карэспандэнтаў пратрымалі ў лінейным аддзяленні міліцыі каля паўгадзіны, пасля чаго, без усялякіх тлумачэнняў, адпусцілі.

**18 чэрвеня** ў Віцебску быў затрыманы фотакарэспандэнт недзяржаўнай газеты **"Витебский курьер М"** Сяржук Серабро. Карэспандэнт быў сведкам акцыі ўзняцця бел-чырвона-белага сцягу на асвятляльнай вежы ў цэнтры горада і рабіў адтуль фотарэпартаж. Усе фотаздымкі з акцыі і некаторыя папярэднія напрацоўкі фатографа міліцыянты сцерлі. У той жа дзень начальнік Кастрычніцкага РАУС Віцебска Аляксей Шаховіч пастанавіў спагнаць з журналіста 16 тыс. рублёў штрафу па абвінавачанні ў дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП). (Разглядаць гэтую справу мог як суд, гэтак і начальнік РАУС. Паколькі судовага разбору журналісту давялося б чакаць у следчым ізалятары, ён пагадзіўся, каб яго справу разглядала міліцэйскае кіраўніцтва).

**17 жніўня** ў Гродне супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі галоўнага рэдактара часопіса **"Magazyn Polski" ў эміграцыі"** Андрэя Пачобута. **22 жніўня** суд прызнаў яго вінаватым ў дробным хуліганстве і асудзіў на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Справа была заведзеная па заяве кіраўніцтва **тэлерадыёкампаніі "Гродна"** (Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія), якое палічыла, што 15 жніўня ў Дзень Войска Польскага на могілках А. Пачобут перашкаджаў працы аператара кампаніі. Сведкамі па гэтай справе выступілі больш за 20 чалавек, якія заяўлялі, што ў Дзень Войска Польскага хуліганства было хутчэй з боку аператара абласнога тэлебачання, які, робячы здымкі, таптаў магілы салдат. Журналіст і яго калегі цікавіліся ў невядомага чалавека з камерай, якую арганізацыю той прадстаўляе, але ж аператар не адказваў. Сярод удзельнікаў мерапрыемства было шмат незадаволеных гэтым, у сувязі з чым А. Пачобут засланіў сабою аб'ектыў камеры.

**31 жніўня** ў Бабруйску міліцыя затрымала 11 журналістаў, якія назіралі за акцыяй пратэсту дэпутата мясцовага гарсавета і настаўніка гісторыі Аляксандра Чыгіра супраць непрадаўжэння працоўнага кантракта з ім за грамадскую дзейнасць. Сярод затрыманах былі Сяргей Пульша (**БелаПАН**), Алена Якжык (**"Салідарнасць"),** Галіна Абакунчык (**Радыё "Свабода"),** Юлія Дарашкевіч (**"Наша Ніва"),** Ігар Ходзька і Вольга Мар'ясіна (**"Бобруйский курьер"),** Валеры Ляўкоў (**"Труд").** Прадстаўнікоў СМІ папярэдзілі, што яны затрыманы да высвятлення асобы, пасля чаго яны былі адвезены ў Гарадскі аддзел міліцыі Бабруйска. Прыкладна праз тры гадзіны, а таксама пасля "прафілактычных" размоў з некоторымі з іх, журналістаў адпусцілі. Частка зробленых імі фотаздымкаў была знішчана.

**12 верасня ГА "БАЖ"** звярнулася да абласнога і раённага кіраўніцтва органаў унутраных спраў з патрабаваннем прыцягнуць да адказнасці супрацоўнікаў міліцыі, якія парушылі правы журналістаў і беларускае заканадаўства аб СМІ падчас акцыі пратэсту А. Чыгіра.

**28 верасня** журналісты недзяржаўнай газеты **"Бобруйский курьер"** Вольга Мар'ясіна і Ігар Хадзько былі выкліканы ў гарадскі аддзел міліцыі Бабруйска для сведчання па факце затрымання журналістаў. (Расследаваннем гэтага факту займаўся той жа аддзел аховы грамадскага парадку і прафілактыкі АУС Бабруйскага гарвыканкама, супрацоўнікі якога і праводзілі затрыманне). Следчы запісаў тлумачэнні са словаў журналісткі ў пратакол, але не даў азнаёміцца з матэрыяламі справы.

**11 кастрычніка** ГА "БАЖ" атрымала ў адказ на свой зварот ліст ад міліцэйскага кіраўніцтва Бабруйскага гарвыканкама, у якім паведамлялася, што правы журналістаў 31 жніўня не парушаліся. Міліцыя заявіла, што журналісты былі запрошаныя ў актавую залу аддзялення міліцыі "з мэтай аб'ектыўнага інфармавання" і ў любы час маглі пакінуць міліцэйскі будынак, і фотаапаратуру ў іх не забіралі.

**30 кастрычніка** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" атрымала таксама ліст з УУС Магілёўскага аблвыканкама. У дакуменце паведамлялася, што на падставе звароту з пракуратуры Ленінскага раёна г.Бабруйска была праведзена праверка, у выніку якой факту незаконнага затрымання журналістаў не было выяўлена.

**14 верасня** ў Магілёве супрацоўнікі спецназу затрымалі фотакарэспандэнта газеты **"Наша Ніва"** Юлію Дарашкевіч. Гэта адбылося падчас захопу спецназаўцамі групы моладзевых актывістаў, якія сабраліся ў двары прыватнага дома. Журналістку і моладзевых актывістаў (каля 20 чалавек) адвезлі ў Ленінскі РАУС. Юлію Дарашкевіч адразу выклікаў да сябе старшы прапаршчык Аўдзееў і запатрабаваў выдаліць з фотакамеры здымкі, матывававшы гэта тым, што байцоў спецназу здымаць забаронена. Пасля таго, як журналістка гэта зрабіла, яе пратрымалі ў аддзяленні міліцыі яшчэ каля дзвюх гадзін.

**3 лістапада** ў Магілёве быў затрыманы адзін з выдаўцоў незарэгістраванай газеты **"Наш Магілёў"** Андрусь Дзвігун. У цэнтры горада да яго падышлі двое мужчын у цывільным, якія прадставіліся супрацоўнікамі Ленінскага РУУС і заявілі, што А. Двігун знешне падобны на злачынцу, які нядаўна здзейсніў крадзеж. На гэтай падставе спадара Дзвігуна затрымалі і суправадзілі ў пастарунак.

У сумцы, якую меў пры сабе Андрусь Дзвігун, міліцыянеры знайшлі частку накладу першага нумару газеты **"Наш Магілёў".** Усе асобнікі выдання міліцыя забрала "да высвятлення абставін", што было адзначана ў складзеным пратаколе.

Першы нумар газеты пабачыў свет **30 кастрычніка.** Наклад выдання складае 299 асобнікаў.

**16 лістапада** ў Мінску на чыгуначным вакзале падчас разгону акцыі, прымеркаванай да Дня беларускай салідарнасці, прадстаўнікі праваахоўных органаў на пэўны час затрымалі журналістаў Юлію Дарашкевіч (газета **"Наша Ніва"),** Сяргея Грыца (агенцтва **"Associated Press"),** Васіля Фядосенку (агенцтва **"Reuters"),** Аляксея Мацюшкова (тыднёвік **"Обозреватель").** У аддзяленні міліцыі прадстаўнікі праваахоўных органаў праверылі ў іх дакументы, пасля чаго адпусцілі, патлумачыўшы, што рабіць фотаздымкі на тэрыторыі вакзала без спецыяльнага дазволу забараняецца.

**16 лістапада** ў Віцебску падчас акцыі, прымеркаванай да Дня беларускай салідарнасці, супрацоўнікі міліцыі затрымалі і адвезлі ў пастарунак журналіста **Радыё “Рацыя”** Вадзіма Баршчэўскага. У Кастрычніцкім аддзяленні міліцыі яго пратрымалі каля гадзіны - праверылі асабістыя дадзеныя, задалі пытанні адносна мэты прысутнасці на акцыі і потым без складання пратаколу адпусцілі.

**24 лістапада** ў Гродна быў затрыманы карэспандэнт газеты **“Товарищ”** Іван Роман. Журналіст рабіў фотаздымкі акцыі каталіцкіх вернікаў, якія пратэставалі каля Гродзенскага аблвыканкама супраць забароны будаўніцтва касцёла. У аддзяленні міліцыянеры паведамілі І.Роману, што высвятляюць яго асобу. Праз пэўны час журналіста адпусцілі.

**12 снежня** ў Гродна двое чалавек ў цывільным на вуліцы затрымалі журналіста часопіса **“Magazyn Polski” ў эміграцыі”** Аляксея Салея. А.Салея адвезлі ў Ленінскае РАУС, дзе паведамілі, што ён затрыманы за лаянку і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі (арт. 156 КаАП - дробнае хуліганства).

**13 снежня** суд Ленінскага раёна пакараў А. Салея адміністратыўным арыштам на 7 сутак. Просьбу запрасіць сведкаў з боку А. Салея суддзя Н.Козел адхіліла.

# Папярэджанні пракуратуры і Міністэрства інфармацыі

**16 студзеня** выдавец бюлетэню **“Наш Смаргонскі край”** Аляксандр Дзергачоў быў выкліканы да пракурора Смаргонскага раёну Мікалая Маліноўскага для азнаямлення з пракурорскім папярэджаннем. У дакуменце было пазначана, што з мэтай прадухілення магчымага парушэння закону А.Дзергачоў папярэджваецца аб недапушчальнасці ў далейшым парушэння закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”, выбарчага заканадаўства і іншых законаў Рэспублікі Беларусь. У выдаваным А.Дзергачовым бюлетэні асвятлялася тэма выбарчай кампаніі і падаваліся вытрымкі з іншых друкаваных выданняў.

Пракуратура Крупскага раёна **20 студзеня** вынесла афіцыйнае папярэджанне дэпутату Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га склікання Андрэю Клімаву аб недапушчальнасці парушэння беларускага заканадаўства. Нагодай для папярэджання стала яго інтэрв'ю інтэрнэт-парталу **www.euramost.org** пад загалоўкам "Меня часто спрашивают о Милинкевиче" (**http://www.euramost.org/index.php?artc=4983**).

Пракуратура палічыла, што Клімаў груба парушыў беларускае заканадаўства, выступаючы ад імя незарэгістраванага руху Андрэя Клімава і заклікаючы да масавых акцый непадпарадкавання. Пракурор Ігар Чэрнель, які падпісаў папярэджанне, падкрэсліў, што Крымінальны кодэкс прадугледжвае адказнасць за арганізацыю і падрыхтоўку дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак альбо за актыўны ўдзел у іх, а таксама за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь.

**26 студзеня** рэдактара часопіса **“Magazyn Polski” ў эміграцыі” (“Magazyn Polski” na uchodzstwie”)** Андрэя Пачобута выклікалі ў абласную пракуратуру, дзе паведамілі аб правядзенні экспертызы інфармацыі ў двух нумарах яго выдання. Пракуратура цікавілася, ці ён з’яўляецца аўтарам публікацый часопіса і чаму ў выданні адсутнічаюць выходныя дадзеныя. А. Пачобут адмовіўся даваць тлумачэнні.

Прысутная ў пракуратуры супрацоўніца падатковай службы хацела даведацца, ці не дапамагалі А.Пачобуту польскія журналісты сплаціць штраф 5,1 млн. рублёў, накладзены на яго ў 2005 годзе за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце ў падтрымку газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі”**.

**16 жніўня** прыкладна такія ж пытанні задавалі А. Пачобуту на допыце ў аддзеле барацьбы з эканамічнай злачыннасцю Ленінскага РУУС г. Гродна. Следчага цікавілі два пытанні: хто і якім чынам фінансуе выданне часопіса, ці на самай справе польскія журналісты перадавалі грошы А. Пачобуту для выплаты штрафу за ўдзел у пікеце. Журналіст скарыстаўся правам не сведчыць супраць сябе і адмовіўся даваць паказанні.

**31 студзеня** галоўны рэдактар газеты **“Glos znad Niemna” ў эміграцыі”** Анжэй Пісальнік быў выкліканы да старшага памочніка пракурора Гродзенскай вобласці Веніяміна Лук’янава. Падставай для выкліку стала праверка публікацый у газеце **“Glos znad Niemna” ў эміграцыі”** і часопісе **“Magazyn Polski” ў эміграцыі”,** дзе публікуюцца артыкулы А.Пісальніка. Журналіст адмовіўся даваць тлумачэнні.

**10 лютага** дэпутат Гомельскага гарсавету Юрый Глушакоў быў выкліканы ў пракуратуру Чыгуначнага раёну г.Гомеля. Намеснік пракурора Аляксей Скараход узяў у дэпутата тлумачэнне наконт знойдзеных у яго ўлётак з карыкатурамі на **дзяржаўныя беларускія тэлеканалы**. Напярэдадні міліцыя затрымала Ю.Глушакова з 11 тысячамі

ўлётак. Асоба, што спыніла мікрааўтобус, у якім ехаў Ю.Глушакоў, адмовілася сябе назваць. На дэпутата склалі пратакол паводле артыкулу 172-3 КаАП (Распаўсюд друкаваных выданняў, вырабленых з парушэннем вызначанага парадку, якія не маюць выходных дадзеных, змест якіх накіраваны на нанясенне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян).

**3 сакавіка** старшыню Гомельскай арганізацыі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Анатоля Гатоўчыца выклікалі ў Гомельскую абласную пракуратуру, дзе яму ўручылі афіцыйнае папярэджанне. Журналісту інкрымінуюць парушэнне

п. 9 Палажэння аб прафесійнай дзейнасці ў Беларусі карэспандэнтаў замежных СМІ, а таксама арт. 40 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".

У пракуратуры начальнік аддзелу агульнага нагляду А. Елісееў азнаёміў А. Гатоўчыца са скаргамі намесніка кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна Гомеля Н. Малага і намесніка начальніка Цэнтральнага аддзелу ўнутраных спраў С. Яфіменкі на тое, што іх адказы на пытанні журналіста па тэлефоне былі пададзеныя ў эфіры **Радыё “Свабода”.** Журналіст патлумачыў, што папярэджваў згаданых асобаў пра выкарыстанне дыктафона. Акрамя гэтага, А. Гатоўчыц паведаміў, што дырэкцыя **Radio Free Europe/ Radio Liberty** неаднаразова (у верасні 2005 г. і ў студзені 2006 г.) падавала прадстаўленне на яго акрэдытацыю ў Міністэрства замежных спраў РБ, але ў абодвух выпадках афіцыйнага пісьмовага адказу на іх не атрымала.

**24 красавіка** галоўнага рэдактара наваполацкай недзяржаўнай газеты **“Химик”** Сяргея Балая выклікалі ў гарадскую пракуратуру, каб узяць з яго тлумачэнні ў звязку са скаргамі, што паступілі з упраўлення ідэалогіі Наваполацкага гарвыканкама. У іх сцвярджалася, што газета самавольна змяніла перыядычнасць выхаду, публікавала тэлепраграму без заключэння дамоваў з агенцтвам **БелТА** і г.д. Былі выказаныя прэтэнзіі і да артыкулаў (у прыватнасці, да апублікаваных дадзеных сацыялагічнага апытання пра ступень задаволенасці жыхароў горада працай уладных структур і інтэрв'ю з тагачасным кандыдатам у прэзідэнты Аляксандрам Казуліным).

**17 траўня** пракуратура г. Мінска вынесла афіцыйнае папярэджанне вядомай беларускай журналістцы Ірыне Халіп за шэраг артыкулаў у расійскай **”Новой газете”**, прысвечаных прэзідэнцкім выбарам у Беларусі і паслявыбарным акцыям пратэсту. Пракуратура ўгледзела ў публікацыях парушэнне адразу двух артыкулаў Крымінальнага кодэксу: "Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь" і "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта РБ" і папярэдзіла, што ў выпадку паўторнага парушэння журналістку прыцягнуць да "вызначанай законам адказнасці".

Парушэнне арт. 369 ч.1 КК РБ (дыскрэдытацыя РБ) можа карацца арыштам на тэрмін да 6 месяцяў альбо пазбаўленнем волі на тэрмін да двух гадоў; парушэнне арт. 367 КК РБ (паклёп у дачыненні да Прэзідэнта РБ) - штрафам, папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, пазбаўленнем альбо абмежаваннем волі да 4 гадоў.

**23 траўня** галоўны рэдактар наваполацкага выдання **“Химик”** Сяргей Балай паведаміў, што рэдакцыя газеты атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі, падпісанае яшчэ **12 траўня** міністрам інфармацыі Уладзімірам Русакевічам. Выданне звінавачваюць у тым, што яно нібыта апублікавала шэраг рэкламных абвестак пра ліцэнзаваную дзейнасць без пацверджання рэкламадаўцам права на ажыццяўленне такой дзейнасці (арт. 30 закона "Аб друку і іншых СМІ"). Сп. Балай заявіў, што ва ўсіх згаданых публікацыях такое пацверджанне было, і, такім чынам, абвінавачанні беспадстаўныя. Галоўны рэдактар лічыць, што ініцыятыва прымянення да яго выдання санкцыі ў выглядзе папярэджання зыходзіла ад мясцовых выканаўчых уладаў.

**24 траўня** намеснік галоўнага рэдактара **"Газеты Слонімскай"** Сяргей Чыгрын быў выкліканы ў Слонімскую міжраённую пракуратуру, дзе ад яго запатрабавалі тлумачэнняў наконт артыкула "Чыноўнікі мяняюцца, а горад застаецца". У ім ішла гаворка пра кадравыя перастаноўкі сярод мясцовых чыноўнікаў, і некаторыя з іх палічылі, што журналіст зняважыў іх гонар і годнасць. У сваёй тлумачальнай нататцы Сяргей Чыгрын напісаў, што з выстаўленымі прэтэнзіямі не згодны.

**31 траўня** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанні рэдакцыі і заснавальніку недзяржаўнага гістарычна-літаратурнага часопіса **"Лідскі летапісец".** Абодва папярэджанні падпісала намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч. Заснавальніку ставіцца ў віну тое, што ён своечасова не паведаміў Мініінфармацыі пра змену перыядычнасці выпуску часопіса (арт. 11 закона "Аб друку і іншых СМІ"). Рэдакцыю ж звінавачваюць у тым, што ў выходных дадзеных некалькіх нумароў былі прыведзены не адпаведныя рэчаіснасці даты выхаду часопіса (арт. 26 закона "Аб друку і іншых СМІ"), а таксама тое, што яна не зрабіла своечасовай рассылкі абавязковых бясплатных асобнікаў часопіса (арт. 27 закона "Аб друку і іншых СМІ").

Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс **"Лідскі летапісец"** выходзіць з 1997 г. накладам 400 асобнікаў. Заснавальнікам выдання з'яўляецца старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Валеры Сліўкін. Рэдактарам часопіса з'яўляецца Станіслаў Суднік (вядомы таксама як рэдактар газеты Таварыства беларускай мовы **"Наша слова").**

**16 лістапада** недзяржаўная газета **"Наша Ніва"** атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. У лісце за подпісам намесніка міністра інфармацыі Л. Ананіч паведамлялася, што ў выхадных дадзеных нумароў газеты за лістапад "не ўказваецца сапраўдны адрас рэдакцыі, што з'яўляецца парушэннем артыкула 26 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Рэдакцыя **"Нашай Нівы"** чатыры разы за 2006 год была вымушана мяняць памяшканне офісу і, адпаведна, змяняць юрыдычны адрас. У кожным выпадку арэндадаўцы тэрмінова без тлумачэння прычын разрывалі дамову на арэнду офісу, як толькі выдавец газеты прадастаўляў інфармацыю пра новы юрыдычны адрас у Мініінфармацыі і ўпраўленне юстыцыі Мінгарвыканкаму.

(**Нагадаем: 10 красавіка** намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў накіраваў галоўнаму рэдактаму недзяржаўнай газеты **"Наша ніва"** Андрэю Дынько ліст, у якім гаварылася, што размяшчэнне газеты **"Наша Ніва"** ў горадзе Мінску з'яўляецца "немэтазгодным". Прычынай гэтага рашэння стаў той факт, што "пастановай суда Савецкага раёна горада Мінска ад 22 сакавіка 2006 года галоўны рэдактар газеты **"Наша ніва"** падвергнуты адміністрацыйнаму арышту тэрмінам на 10 (дзесяць) сутак". "Пастанова канчатковая і абскарджанню ў парадку вытворчаці па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях не падлягае", - гаварылася ў лісце. Раней **"Наша ніва"** накіравала ў Мінгарвыканкам заяву аб узгадненні размяшчэння рэдакцыі ў Мінску па вуліцы Калектарнай, д. 20а, пакой 112, і ліст М.Ціцянкова быў адказам на гэтую заяву).

**5 снежня** журналісты недзяржаўнай **"Газеты Слонімскай"** Вольга Шынкевіч і Мікола Кананові́ч былі выкліканы ў Слонімскую міжраённую пракуратуру, каб даць тлумачэнні наконт сваіх артыкулаў (матэрыял "Больше всего бабе Наде хочется умереть" распавядае пра 80-гадовую сланімчанку Надзею Пясецкую, а артыкул "Ілля Шундрык: "Пачакаў я месяц, другі - ніхто нічога не робіць" - пра 83-гадовага ветэрана вайны), дзе яны расказваюць пра цяжкае жыццё адзінокіх састарэлых людзей у горадзе. Заяву з патрабаваннем "разабрацца" з аўтарамі, якія нібыта сказілі факты ў сваіх публікацыях, накіравала загадчык аддзела па працы і сацыяльнай абароне райвыканкама Кацярына Руткоўская.

# Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый. Цэнзура

**9 студзеня** галоўны рэдактар недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты **“Витебский курьер М”** Уладзімір Базан быў выкліканы на гутарку да начальніка аддзела ідэалогіі Віцебскага аблвыканкама Міхаіла Кузміча. Чыноўнік выказаў прэтэнзіі да загалоўкаў шэрагу публікацый выдання, ацаніўшы іх як “негатыўныя”. Калі рэдактар выдання, са свайго боку, паспрабаваў ўзняць праблему адмовы “Белпошты” і “Белсаюздруку” распаўсюджваць газету, чыноўнік заявіў, што гэта ёсць унутранымі праблемамі суб’ектаў гаспадарання, і параіў разбірацца з імі ўласнымі сіламі.

**11 студзеня** на выязным паседжанні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных дачыненнях і сродках масавай інфармацыі ішла гаворка пра неабходнасць стварэння "пэўных прававых рамак для шэрагу інтэрнэт-выданняў". Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да высновы, што заканадаўчая база, якая рэгулюе дзейнасць беларускіх СМІ, істотна састарэла.

**19 студзеня** скончыўся тэрмін, да якога рэдакцыі брэсцкіх выданняў павінныя былі падаць у аддзел ідэалагічнай працы гарвыканкаму падрабязныя звесткі пра свае газеты. Адпаведнае пісьмовае распараджэнне атрымалі напярэдадні з гарвыканкаму ўсе рэдакцыі гарадскіх выданняў. У прыватнасці, гарвыканкам цікавілі звесткі пра заснавальнікаў выдання, крыніцы фінансавання, выдавецкую базу і каналы распаўсюду газет, а таксама пра наклад і працэнт вяртання гэтага накладу. У анкеце ўтрымліваліся таксама пытанні пра фінансава-гаспадарчую дзейнасць рэдакцыі, яе тэхнічную і матэрыяльную базу, асноўных рэкламадаўцаў. Гарадскія ўлады жадалі таксама ведаць пра "актуальнасць і якасць падрыхтаваных матэрыялаў, адпаведнасць іх рэдакцыйнай палітыцы". Неабходнасць атрымання гэтых звестак у гарвыканкаме тлумачылі неабходнасцю падрыхтоўкі да паседжання Брэсцкага аблвыканкаму, дзе будзе разглядацца пытанне "Аб ролі сродкаў масавай інфармацыі ў фармаванні адзінай інфармацыйнай палітыкі вобласці".

“Беларускае радыё і тэлебачанне - неад’емная частка дзяржаўнай палітыкі і ідэалогіі, магутны канал сувязі і камунікацый суб’ектаў грамадства”, - заявіў А. Лукашэнка **26 студзеня** падчас уручэння ўзнагародаў шэрагу працаўнікоў дзяржаўных тэле- і радыёканалаў Беларусі. Ён бачыць тэлебачанне адным з асноўных інструментаў рэалізацыі палітычных і эканамічных задач, што пастаўленыя перад краінай, паколькі яно мае “вялізны рэсурс уплыву на грамадства і працэсы, якія ў ім адбываюцца”. "Інфармацыйнае поле Беларусі ў апошні час усё мацней падвяргаецца знешняму ўздзеянню, аднак нацыянальная сістэма тэлерадыёвяшчання гатовая да адбівання інфармацыйных атак, да актыўных наступальных контрпрапагандысцкіх дзеянняў", - заявіў А. Лукашэнка. Ён зазначыў, што дзяржава аказвае ўсебаковую падтрымку дзяржаўным сродкам масавай інфармацыі. "Толькі такім чынам улада можа выконваць свае найважнейшыя функцыі: забяспечваць палітычную стабільнасць, актыўна супрацьдзейнічаць унутраным і вонкавым пагрозам". Разам з тым ён адзначыў, што "з асобнымі, недзяржаўнымі СМІ, у нас ёсць праблемы... Мы ведаем, дзе і колькі яны атрымліваюць грошай”.

**8 лютага** Цэнтарвыбаркам Беларусі зацвердзіў Пастанову аб парадку выкарыстання дзяржаўных СМІ падчас падрыхтоўкі і правядзення прэзідэнцкіх

выбараў. Паводле пастановы, кожны кандыдат мае права апублікаваць сваю передвыбарную праграму ў газетах **"Белорусская нива", "Звязда", "Народная газета", "Рэспубліка", "Знамя юности", "Советская Белоруссия", "7 дней",** а таксама па два разы выступіць на **Першым нацыянальным тэлеканале** і **Першым канале дзяржаўнага радыё**. Прадстаўнікі ЦВК падкрэслілі, што кандыдаты самастойна вызначаюць змест сваіх зваротаў, аднак іх выступы павінныя адпавядаць патрабаванням Выбарчага кодэксу Беларусі: не ўтрымліваць прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці краіны, да сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, а таксама знявагаў і паклёпу ў дачыненні да адказных асобаў і іншых кандыдатаў. Калі гэтыя нормы не выконваюцца, кіраўнік СМІ мае права адмовіць кандыдату ў прадастаўленні эфірнага часу альбо апублікаванні праграмы.

Як падкрэсліла старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, "выбарчае заканадаўства не прадугледжвае магчымасці прадастаўлення кандыдатам недзяржаўных СМІ; гэта расцэньваецца як аказанне ім матэрыяльнай дапамогі, што забаронена законам".

(**Нагадаем: 9 лютага** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" накіравала афіцыйны ліст старшыні Цэнтральнай камісіі РБ па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзіі Ярмошынай (**http://www.baj.by/news/?id=418**). Паводле БАЖ, яе заява пра тое, што прадастаўленне кандыдатам недзяржаўных мас-медыя будзе расцэнена як "аказанне матэрыяльнай дапамогі, што забаронена законам", заснаваная на адвольным трактаванні выбарчага заканадаўства і супярэчыць палажэнням заканадаўства аб СМІ. БАЖ падкрэслівае, што арт. 33 Выбарчага заканадаўства прадастаўляе Цэнтральнай камісіі права вызначаць парадак выкарыстання ў перадвыбарнай кампаніі толькі дзяржаўных СМІ. "Вызначаць формы ўдзелу ў выбарчым працэсе недзяржаўных СМІ ані Цэнтральная камісія, ані яе Старшыня не маюць права", - гаворыцца ў пасланні.

Паводле БАЖ, пытанне прадастаўлення кандыдатам недзяржаўных СМІ наогул ніяк не рэгламентуецца беларускім выбарчым заканадаўствам: ані Выбарчы кодэкс, ані іншыя акты беларускага заканадаўства не забараняюць гэтага, а значыць, у адпаведнасці з базавым прынцыпам права, - дазваляюць).

**У лютым** у інтэрнэце з'явіўся "чорны спіс" беларускіх журналістаў - кандыдатаў на нявыезд за межы Беларусі. Па адрасе **www.belpropaganda.freewebsites.com**

быў размешчаны спіс кіраўнікоў, аглядальнікаў і рэпарцёраў дзяржаўных тэлеканалаў і друкаваных выданняў, сярод якіх - **Першы канал нацыянальнага тэлебачання, ОНТ, "Советская Белоруссия", "Обозреватель", "7 дней".** У спіс увайшлі У. Матвейчук, Ю.Азаронак, Я. Новікаў, Ю.Казіятка, некаторыя іншыя асобы.

У канцы **студзеня** Парламенцкая Асамблея Рады Еўропы прыняла рэзалюцыю, у якой рэкамендавала Еўразвязу пашырыць спіс "неўязных" беларускіх чыноўнікаў і максімальна спрасціць візавы рэжым для звычайных беларускіх грамадзян, асабліва студэнтаў.

У **лютым** віцэ-старшыня дэлегацыі Літвы ў Радзе Еўропы Эмануэліс Зінгерыс заявіў пра гатовасць курыраваць падрыхтоўку спісу беларускіх чыноўнікаў і журналістаў афіцыйных СМІ, якія найбольш заўзята прапагандуюць і апрадваюць дзеянні беларускіх уладаў. Спіс запланавана перадаць на разгляд палітычнага кіраўніцтва Рады Еўропы.

**10 сакавіка Радыё "Свабода"** распаўсюдзіла прозвішчы асобаў, якія Еўрапарламент прапануе ўнесці ў спіс неўязных на тэрыторыю Еўразвязу. Сярод чатырох дзесяткаў асобаў – прозвішчы людзей, якія маюць дачыненне да сферы СМІ: Сяргей Атрошчанка – выдавец газеты **"Обозреватель",** Лілія Ананіч – намеснік міністра інфармацыі, Уладзімір Русакевіч – міністр інфармацыі РБ.

**23 лютага** Пракуратура РБ накіравала ў Міністэрства інфармацыі "прадстаўленне" з просьбай зрабіць захады па прыпыненні альбо спыненні дзейнасці недзяржаўнай газеты **"Згода".** Нагодай для гэтага стала публікацыя ў газеце (№ 6 ад 18-26 лютага 2006 г.) карыкатур на прарока Мухамеда. (Газета змясціла на сваіх старонках карыкатуры, што з'явіліся ў дацкім друку, выклікаўшы рэакцыю пратэсту ў ісламскім свеце і стаўшы прычынай міжнароднага скандалу).

Па словах начальніка ўпраўлення прававога забеспячэння, інфармацыі і грамадскіх сувязяў Пракуратуры РБ Андрэя Шведа, тым самым рэдакцыя газеты **"Згода"** дапусціла грубыя парушэнні патрабаванняў арт. 5 Закона Рэспублікі Беларусь, які забараняе выкарыстанне СМІ для распальвання нацыянальнай, сацыяльнай, расавай, рэлігійнай нецярпімасці.

Напярэдадні, **21 лютага**, з нагоды публікацыі карыкатур з заявай выступіла МЗС Беларусі. "Міністэрства замежных спраў рашуча асуджае любыя наўмысныя дзеянні, якія могуць пацягнуць распальванне міжрэлігійнай варожасці, распаўсюд... недаверу паміж нацыянальнымі і рэлігійнымі супольнасцямі, якія жывуць у Беларусі", - адзначалася ў заяве.

**22 лютага** з санкцыі намесніка генеральнага пракурора супрацоўнікі КДБ Беларусі правялі ператрус у рэдакцыі **"Згоды".** У той жа дзень была ўзбуджана крымінальная справа па ч.1 арт 130 КК РБ (распальванне расавай, нацыянальнай альбо рэлігійнай варожасці). "Крымінальная справа ўзбуджана па выніках праверкі, праведзенай рэспубліканскай пракуратурай і КДБ. Праверка была праведзена на падставе звароту ў праваахоўныя органы Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасцяў і мусульманскіх абшчын Беларусі", - паведамілі агенцтву "Інтэрфакс" у Пракуратуры РБ. (**http://www.interfax.ru/r/B/politics/2.html?id_issue=11469751**)

Падчас ператрусу былі канфіскаваныя сістэмныя блокі кампутараў ды іншыя носьбіты інфармацыі, некаторыя нумары газеты і фінансавыя дакументы выдання. Заснавальнік **"Згоды"** Аляксей Кароль і намеснік галоўнага рэдактара Аляксандр Здвіжкоў былі дапытаныя КДБ. У кватэры А.Караля таксама быў праведзены ператрус.

Па словах А.Караля, карыкатуры былі надрукаваныя без яго санкцыі, і за гэтыя дзеянні на намесніка галоўнага рэдактара было накладзена спагнанне, а распаўсюд нумару з карыкатурамі спынены.

**23 лютага** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне рэдакцыі газеты **"Згода"** па арт. 5 Закона "Аб друку і іншых СМІ" за публікацыю карыкатур на прарока Мухамеда ў № 6 от 18-26 лютага 2006 г. Гэта было другое цягам году папярэджанне за парушэнне арт. 5 (першае пісьмовае папярэджанне было вынесена выданню 9 лістапада).

**6 сакавіка** Міністэрства інфармацыі падало ў Вышэйшы гаспадарчы суд зыск аб спыненні дзейнасці газеты **"Згода".** У зыскавай заяве гаварылася, што падставай для гэтага з'яўляецца неаднаразовае парушэнне рэдакцыяй патрабаванняў арт. 5 Закона "Аб друку і іншых СМІ". Акрамя гэтага, міністэрства прасіла прыпыніць газету, не чакаючы вынікаў суда, бо за гэты час "адказчык можа груба парушыць патрабаванні закона аб друку".

**7 сакавіка** суддзя ВГС Аксана Міхнюк вырашыла задаволіць хадайніцтва міністэрства і прыпыніць **"Згоду"** "да прыняцця рашэння па сутнасці".

**17 сакавіка** тая ж суддзя А. Міхнюк задаволіла зыск Міністэрства інфармацыі аб спыненні дзейнасці газеты. Між тым, да 17 сакавіка яшчэ не скончыўся тэрмін, адведзены законам на абскарджанне другога па ліку папярэджання.

**З 26 лютага** праграма "Падарожжа дылетанта", якую рыхтаваў і вёў журналіст Юрый Жыгамонт, была знятая з эфіру **Першага нацыянальнага тэлеканала** (БТ). Як заявіў у інтэрвью газеце **"Комсомольская правда" в Белоруссии"** выканаўчы прадусар **Першага нацыянальнага тэлеканалу** Аляксандр Вавілаў, памянёная праграма была нецікавай, бо яе тэлекампанія-вытворца ў апошні час абмежавалася вузкім геаграфічным колам і рабілася "на нізкім выканаўчым узроўні".

Гэта была адзіная перадача, якая на беларускай мове распавядала пра гісторыю беларускіх гарадоў і мястэчак і мела шмат прыхільнікаў.

Тэлевізійны зварот да выбаршчыкаў кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна, паказаны па **Першым нацыянальным тэлеканале 2 сакавіка**, быў адцэнзураваны (скарочаны на 9 хвілін). Як паведаміла прэс-сакратар кандыдата ў прэзідэнты Ніна Шыдлоўская, 2 сакавіка яна ездзіла на БТ узгадняць запіс выступу А.Казуліна, і там ёй заявілі, што некаторыя звесткі, распаўсюджаныя Казуліным, не адпавядаюць рэчаіснасці альбо зневажаюць гонар і годнасць грамадзян Беларусі (у прыватнасці, Віктара Лукашэнкі і Дзмітрыя Лукашэнкі). Як паведаміў выданню **"Комсомольская правда в Белоруссии"** намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Мартыненка, ініцыятыўная група А.Казуліна не змагла прадставіць інфармацыю, якая пацвярджала б факты, згаданыя ў выступе кандыдата.

Радыёвыступы кандыдатаў у прэзідэнты А.Казуліна і А.Мілінкевіча раніцай **6 сакавіка** былі таксама пададзеныя ў эфіры **Першага каналу рэспубліканскага радыё** з купюрамі. Найбольш пацярпеў 30-хвілінны выступ А.Казуліна, які быў скарочаны амаль на 7 хвілін. Выбарчыя штабы абодвух кандыдатаў выступілі з заявамі пратэсту.

**15 сакавіка** ў Мінску спыненая трансляцыя тэлеканала **RTVi** ў сетцы эфірнага і кабельнага вяшчання аператара "Космос ТВ". Як адзначана ў афіцыйная заяве на сайце аператара, трансляцыя тэлеканала была спынена па тэхнічных прычынах - у сувязі з выхадам са строю карты доступу для прыёму тэлесігналу памянёнага тэлеканала. Для набыцця новай карты, паводле заявы, патрэбна некалькі дзён.

Таксама на сайце гэтага аператара было спынена функцыянаванне форуму. У якасці прычыны кіраўніцтва аператара назвала неабходнасць наладоўвання праграмнага забеспячэння.

Тэлеканал **RTVi** ўваходзіць у склад міжнароднага кансорцыюму, які з лютага гэтага году вядзе інфармацыйнае тэле- і радыёвяшчанне для Беларусі, і фінансуецца Еўразвязам.

**У канцы красавіка** шэраг рэдакцый недзяржаўных беларускіх газет атрымалі афіцыйныя лісты з Міністэрства інфармацыі з просьбай напрацягу трох дзён прадаставіць гэтаму ведамству падрабязную інфармацыю пра сваё выданне. Міністэрству спатрэбіліся звесткі пра назву СМІ, імя і прозвішча галоўнага рэдактара (кіраўніка рэдакцыі), перыядычнасць выпуску, тэлефон і e-mail рэдакцыі, адрас інтэрнэт-сайту, фармат газеты, наклад выдання, кошт падпіскі на месяц.

**11 траўня Радыё "Свабода"** паведаміла, што кіраўніцтва FM-станцыі **"Радыё Мінск"** (заснавана Мінгарвыканкамам) закрыла штотыднёвую папулярную музычную

праграму "Тузін гітоў", аўтарам і вядучым якой быў лідэр гурту "Палац" Алег Хаменка. У якасці афіцыйнай падставы закрыцця праграмы кіраўніцтва назвала яе "неадпаведнасць планам далейшага развіцця радыёстанцыі". Аднак сам А. Хаменка лічыць, што рашэнне мае палітычную афарбоўку, бо ў праграме гучала беларуская музыка, папулярная сярод удзельнікаў паслявыбарных акцый пратэсту ў Мінску.

**19 верасня** міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч вынес пісьмовае папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнага літаратурна-мастацкага і навукова-папулярнага часопіса **"ARCHE. Пачатак"** і падпісаў загад аб прыпыненні выхаду выдання тэрмінам на тры месяцы. У абодвух дакументах сцвярджалася, што, надрукаваўшы артыкулы грамадска-палітычнага характару ў № 9 (49) за 2006 г., часопіс **"ARCHE. Пачатак"** змяніў тэматыку (спецыялізацыю), не паведаміўшы аб гэтым у вызначаны тэрмін Мініінфармацыі для ўнясення адпаведнага змянення ў рэгістрацыйнае пасведчанне (парушэнне арт. 11 закона "Аб друку і іншых СМІ).

Фармальнай нагодай для санкцый стала апублікаванне ў рубрыцы "Гісторыя" ўспамінаў пра беларускую палітычную рэальнасьць пачатку 90-х гадоў Сяргея Навумчыка ды іншых дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Аднак, па меркаванні галоўнага рэдактара часопісу Валера Булгакава, сапраўднай прычынай прыпыненьня зьяўляецца вокладка часопісу № 9 (49) за 2006 г. (**http://arche.bymedia.net/2006-9/num906.htm)** з выявамі твараў работнікаў спэцслужбаў, якія выцясняюць дэманстрантаў з праспекту ў Мінску падчас падзеяў 25 сакавіка 2006 г.

Рэдакцыя часопіса звярнулася ў суд з патрабаваннем да Мініінфармацыі адмяніць папярэджанне аб парушэнні закону і ўказ аб прыпыненні выхаду выдання.

**26 верасня** Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" накіравала зварот да міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча ў сувязі з прыпыненнем дзейнасці часопіса. У афіцыйным лісце патрабавалася адмяніць загад аб прыпыненні дзейнасці выдання і пісьмовае папярэджанне рэдакцыі. "Вынясенне санкцый за змест сродку масавай інфармацыі пры адсутнасці з боку рэдакцыі злоўжыванняў свабодай масавай інфармацыі з'яўляецца, на наш погляд, умяшаннем у дзейнасць і парушэннем прафесійнай самастойнасці рэдакцыі, што ў адпаведнасці з арт. 48 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" прызнаецца замахам на свабоду масавай інфармацыі," – гаварылася ў звароце БАЖ. Прадстаўнікі арганізацыі падкрэслілі, што "пазасудовае прыпыненне дзейнасці СМІ органам выканаўчай улады парушае міжнародна-прававыя абавязкі Рэспублікі Беларусь": у првыватнасці, арт. 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Беларуссю, і аналагічныя правілы, замацаваныя ў Канвенцыі СНД аб правах і асноўных свабодах чалавека.

"З'яўленне матэрыялаў грамадска-палітычнага характару ў любым сродку масавай інфармацыі яшчэ не сведчыць аб змяненні яго тэматыкі, -- лічаць прадстаўнікі БАЖ. "У беларускім заканадаўстве не замацавана, які аб'ём нумару можа быць адведзены пад матэрыялы таго ці іншага характару... Гэта пацвярджаецца і тым, што ў арт. 10 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" гаворыцца, што заснавальнік у заяве аб рэгістрацыі СМІ павінен указваць прыкладную, а не дакладную тэматыку і (альбо) спецыялізацыю СМІ".

**18 кастрычніка** адбылося папярэдняе слуханне справы па зыску рэдакцыі часопіса **"ARCHE. Пачатак"** да Міністэрства інфармацыі. **4 лістапада** ў Вышэйшым гаспадарчым судзе пачаўся разгляд справы, а **8 лістапада** суддзя Мікалай Мадудзін вынес рашэнне не задавальняць зыску рэдакцыі.

**У снежні 2006 г.,** пасля сканчэння трохмесячнага тэрміну прыпынення выдання, рэдакцыя **"ARCHE. Пачатак"** выпусціла адразу 3 нумары часопіса - №10, №11 і №12.

**6 кастрычніка** супрацоўнікі радыёстанцыі **"Новое радио"** (98,4 FM)**,** заснавальнікам якой з'яўляецца Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі (ФПБ), у эфіры аб'явілі, што пачынаюць страйк, і звярнуліся да прэзідэнта Беларусі з просьбай

абараніць іх ад самаўпраўства з боку кіраўніцтва ФПБ. Пасля гэтага на хвалі **"Нового радио"** да вечара гучала музыка, а ў 18.00 прагучала абвестка аб прыпыненні працы радыё. Напрацягу месяца радыё не працавала, перастала абнаўляцца яго інтэрнэт-старонка. Па распараджэнні старшыні Федэрацыі Леаніда Козіка месяц адказныя за ўрэгуляванне канфлікту чыноўнікі шукалі замену калектыву. У той жа час на электронныя пошты шэрагу СМІ трапіў ліст за подпісам звольненых супрацоўнікаў радыё, якія называлі ініцыятараў "зачысткі" ў калектыве. Найчасцей узгадвалася прозвішча Ірыны Каганец, якая ў ФПБ адказвае за сувязь з грамадскасцю і курыруе дзейнасць заснаваных арганізацыяй СМІ. Сама спн. Каганец назвала абвінавачанні надуманымі і выказала гатовасць плённа працаваць з новым складам рэдакцыі.

Напярэдадні згаданых падзеяў, **19 верасня**, супрацоўнікі радыёстанцыі напісалі кіраўніку ФПБ ліст са скаргай на дзеянні прэс-сакратара федэрацыі Ірыны Каганец, якая, на іх погляд, умешвалася ў дзейнасць рэдакцыі. **5 кастрычніка** на радыё прыйшлі з праверкаю супрацоўнікі кантрольна-рэвізійнага ўпраўлення ФПБ, якія нібыта выявілі фінансавыя парушэнні, дапушчаныя кіраўніцтвам станцыі. Па выніках праверкі было прынята рашэнне звольніць з працы генеральнага дырэктара радыёстанцыі Віктара Грышанава. На знак пратэсту супраць гэтага рашэння супрацоўнікі **"Нового радио"** і абвесцілі страйк.

**5 снежня** журналісты недзяржаўнай **"Газеты Слонімскай"** Вольга Шынкевіч і Мікола Кананові́ч былі выкліканы ў Слонімскую міжраённую пракуратуру, каб даць тлумачэнні наконт сваіх артыкулаў (матэрыял "Больше всего бабе Наде хочется умереть" распавядае пра 80-гадовую сланімчанку Надзею Пясецкую, а артыкул "Ілля Шундрык: "Пачакаў я месяц, другі - ніхто нічога не робіць" - пра 83-гадовага ветэрана вайны), дзе яны расказваюць пра цяжкае жыццё адзінокіх састарэлых людзей у горадзе. Заяву з патрабаваннем "разабрацца" з аўтарамі, якія нібыта сказілі факты ў сваіх публікацыях, накіравала загадчык аддзела па працы і сацыяльнай абароне райвыканкама Кацярына Руткоўская.

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадастаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі)

Карэспандэнту недзяржаўнай газеты **“Intex-press”** (ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс") адмовілі ў акрэдытацыі пры Баранавіцкім раённым выканаўчым камітэце. У лісце ад **4 студзеня**, які прыйшоў на імя дырэктара ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс" Уладзіміра Янукевіча ад намесніка старшыні райвыканкама І. Сцельмашка, у прыватнасці, гаварылася: "У сувязі з тым, што пры райвыканкаме акрэдытавана нямала журналістаў дзяржаўных мясцовых сродкаў масавай інфармацыі, лічым немэтазгодным акрэдытацыю карэспандэнтаў недзяржаўнай газеты **“Intex-press”.** У выпадку неабходнасці журналісты Вашай газеты будуць запрашацца на раённыя мерапрыемствы".

Канстытуцыйны суд РБ адмовіўся ацэньваць канстытуцыйнасць Закона "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты РБ па пытанні ўзмацнення адказнасці за дзеянні, накіраваныя супраць чалавека і грамадскай бяспекі". Пра гэта гаварылася ў афіцыйным адказе на запыт ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", атрыманым **напачатку студзеня**. У сваім запыце БАЖ прасіў даць ацэнку адпаведнасці Канстытуцыі і міжнародна-прававым абавязальніцтвам Беларусі папраўак у Крымінальны Кодэкс РБ (гл. ніжэй). Намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда сп. Марыскін спасылаецца на тое, што пад час паступлення запыту згаданы нарматыўны акт яшчэ не ўступіў у законную сілу.

Юрысты ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" падкрэсліваюць, што на момант разгляду запыту Канстытуцыйным судом (адказ датаваны **29.12.2005**) праект закона ўжо быў падпісаны Аляксандрам Лукашэнкам і ўступіў у законную сілу раней, чым БАЖ атрымаў адказ.

(**Нагадаем:** 2-га снежня Палата Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ прыняла ў другім чытанні папраўкі ў Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы, якія ўзмацняюць адказнасць “за дзеянні, скіраваныя супраць чалавека і грамадскай бяспекі”. Законапраект паступіў у парламент ад імя А. Лукашэнкі з пазнакаю “тэрмінова”. У Крымінальны кодэкс дадаецца шэраг новых артыкулаў. Арт. 193-1 (незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб’яднання, фонду альбо ўдзел у ім) прадугледжвае, што арганізацыя дзейнасці ці ўдзел у дзейнасці арганізацый і фондаў, у дачыненні да якіх уступіла ў сілу рашэнне аб прыпыненні іх дзейнасці ці ліквідацыі, будуць карацца штрафам, ці арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, ці пазбаўленнем волі тэрмінам да двух гадоў. Падобныя карныя захады тычацца падрыхтоўкі людзей да ўдзелу ў масавых беспарадках, публічных заклікаў да захопу ўлады ці гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу.

Заклікі, звернутыя да замежных дзяржаў, замежнай і міжнароднай арганізацыі, “учыніць дзеянні ў шкоду вонкавай бяспекі Беларусі, яе суверэнітэту, а таксама распаўсюд матэрыялаў, што ўтрымліваюць такія заклікі”, караюцца зняволеннем да трох гадоў. Калі заклікі будуць распаўсюджвацца праз сродкі масавай інфармацыі, прымяняецца пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў. Артыкул Крымінальнага кодэксу “Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь” прадугледжвае пакаранне за “прадастаўленне замежнай дзяржаве, замежнай ці міжнароднай арганізацыі загадзя ілжывых звестак аб палітычным, эканамічным, сацыяльным, ваенным ці міжнародным становішчы РБ, прававым стане грамадзян Беларусі ці яе органаў улады”. Падобныя дзеянні караюцца арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, альбо пазбаўленнем волі на тэрмін да трох гадоў. Акрамя таго, праектам прадугледжваецца магчымасць затрымання органамі крымінальнага пераследу асобаў, што падазраюцца ў тэрарызме і ўчыненні злоснага хуліганства, на тэрмін да 10 дзён да прымянення меры стрымання ці вызвалення з-пад варты).

**12 студзеня** намесніку галоўнага рэдактара недзяржаўнай **“Газеты Слонімскай”** Сяргею Чыгрыну і фотакарэспандэнту Таццяне Плахетцы не дазволілі прысутнічаць на мерапрыемстве па ўшанаванні памяці вязняў канцлагераў, якое праходзіла ў мясцовым доме культуры. Старшыня Савета раённых дэпутатаў Сяргей Рагозік папрасіў Сяргея Чыгрына і Таццяну Плахетку выйсці з будынку дома культуры, матывуючы свае дзеянні тым, што "райвыканкам не сябруе з газетай". Мерапрыемства не пачыналі, пакуль карэспандэнты не пакінулі залу ДК.

Гомельскі аблвыканкам "прыняў да ведама" заяву гомельскай гарадской арганізацыі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" ад **12.01.2006**, якая тычылася пазбаўлення акрэдытацыі карэспандэнткі **БелаПАН** Алены Пасканнай. Пра гэта гаварылася ў пісьмовым адказе за подпісам начальніка ўпраўлення ідэалагічнай працы выканкама Анатоля Каціла. **21 студзеня** на просьбу прадстаўнікоў БАЖ пракаментаваць гэты адказ і паведаміць, што канкрэтна будзе зроблена для аднаўлення нармальных умоваў працы для журналісткі, сп. Каціла заявіў, што ён не абавязаны даваць тлумачэнні. (У афіцыйным паведамленні аб пазбаўленні А. Пасканнай акрэдытацыі, якое ў пачатку **снежня 2005** года **БелаПАН** атрымаў ад намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама Пятра Кірычэнкі, гаварылася, што гэтае рашэнне прынятае "ў сувязі з парушэннем ёю ўстаноўленых правілаў акрэдытацыі").

За зачыненымі дзвярыма завершыўся ў Ганцавічах этап фармавання ўчастковых выбарчых камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ні карэспандэнты мясцовай недзяржаўнай газеты **“Ганцавіцкі час”**(ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс"), ні грамадзяне, вылучаныя на ўдзел у выбарчых камісіях шляхам збору подпісаў, не змаглі патрапіць на паседжанне раённага выканаўчага камітэту **31 студзеня,** паколькі кіраўніцтва раёна не паведаміла час яго правядзення.

З 27 па 31 студзеня ў выканкаме супрацоўнікам памянёнага выдання раілі даведвацца час і месца паседжання ў кіраўніка справамі Мікалая Зажэкі, той скіроўваў да намесніка старшыні выканкама Мікалая Валынца, які, у сваю чаргу, раіў звяртацца да іншых службовых асобаў. Высветлілася, што паседжанне адбылося 31 студзеня і доўжылася 30 хвілін, за якія павінныя былі быць разгледжаныя больш за 250 пратаколаў аб вылучэнні прадстаўнікоў у склад выбарчых камісій.

**3 лютага** журналістку недзяржаўнага выдання **“Газета Слонімская”** Яніну Маславу не пусцілі ў будынак мясцовага дома культуры, дзе адбывалася вылучэнне дэлегатаў на Трэці ўсебеларускі сход.

Вартаўнік дома культуры спаслаўся на распараджэнне загадчыка аддзелу арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама Валерыя Бадзея, які сказаў не пускаць "лішніх" людзей у будынак. Яніна Маслава прасіла сп-ра Бадзея пракаментаваць свой загад, але той адмовіўся гаварыць з карэспандэнтам **“ГС”,** скіраваўшы яе да намесніка старшыні райвыканкама Анатоля Цярэніна. Яніна Маслава нагадала чыноўніку, што ён парушае закон “Аб друку і іншых СМІ”, на што ён адказаў: "Я ведаю, што парушаю закон, але ёсць і іншы закон, які не дазваляе мне дапусціць вас да мерапрыемства: гэта закон тых, хто мае ўладу".

**14 лютага** фотакарэспандэнта недзяржаўнай **“Газеты Слонімскай”** Таццяну Плахетку не пусцілі на мерапрыемства, прысвечанае Дню ўсіх закаханых, якое адбывалася ў мясцовым доме культуры. Адпаведны загад даў дырэктар ДК Мікалай Адамчык. Ён сказаў, што журналістку не пусцяць на мерапрыемства, нават калі яна набудзе квіток. Т. Плахетка пакінула скаргу ў кнізе заўваг і прапаноў ДК.

На цырымоніі рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты **17 лютага,** якая адбылася ў Палацы Рэспублікі ў г. Мінску, не дазволілі прысутнічаць фотакарэспандэнтам шэрагу беларускіх СМІ, а таксама інфармацыйных агенцтваў **“Associated Press”, “Reuters”, ИТАР-ТАСС, “France Press”**. У прэс-службе А.Лукашэнкі ім паведамілі, што пад час цырымоніі рэгістрацыі здымкі могуць рабіць толькі супрацоўнікі дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва **БелТА**.

**19 лютага** старшыня сельсавету ў вёсцы Холмеч Рэчыцкага раёна Сцяпан Юшкевіч адмовіўся прадаставіць інфармацыю незалежнай журналістцы Ірыне Макавецкай, якая збірала матэрыял для публікацыі ў газеце **“Народная воля”.** “Мне ваша газета не падабаецца, мне падабаецца дзейная ўлада, і гаварыць вам я нічога не буду”, - заявіў ён. Аргументы адносна таго, што такія дзеянні парушаюць закон “Аб друку і іншых СМІ”, не паўплывалі на рашэнне старшыні сельсавету. У Рэчыцкім райвыканкаме дзяжурны заявіў журналістцы, што, у адпаведнасці з “новымі правіламі для журналістаў”, карэспандэнт павінен загадзя паінфармаваць райвыканкам пра свой намер сустрэцца з прадстаўнікамі раённых уладаў. У прыватнасці, калі І. Макавецкая хоча паразмаўляць са старшынём Холмецкага сельсавету, ёй давядзецца папярэдне патэлефанаваць загадчыку ідэалагічнага аддзелу райвыканкаму Юрыю Туміловічу.

**1 сакавіка** прадстаўнікоў газеты **“Народная воля”** не пусцілі на прэс-канферэнцыю старшыні Камітэту дзяржаўнай бяспекі Беларусі генерала Сцяпана Сухарэнкі. У Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ рэдакцыі патлумачылі, што “там была невялікая колькасць прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, і нават не ўсе дзяржаўныя выданні былі прадстаўленыя”, пасля чаго прапанавалі чытаць поўныя тэксты выступленняў на сайце КДБ. На пярэчанні журналістаў адносна таго, што прэс-канферэнцыя - гэта адкрытае мерапрыемства, у Цэнтры інфармацыі КДБ заявілі, што “гаворка ідзе пра адміністратыўны будынак, які не прадугледжвае неабмежаванага запрашэння журналістаў”.

**2 сакавіка** падчас выканання сваіх прафесійных абавязкаў у Мінску пацярпелі ад рук прадстаўнікоў праваахоўных органаў шэраг беларускіх і замежных журналістаў. Раніцай - карэспандэнт агенцтва **“Reuters”** (Масква) расійскі грамадзянін Дзмітрый Мадорскі, а таксама журналіст агенцтва **“БелаПАН”** Сяргей Пульша, якія прысутнічалі ў ДК Чыгуначнікаў пры затрыманні кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. Пазней фотажурналісты Сяргей Грыц **(“Associated Press”),** Васіль Фядосенка **(“Reuters”),** Юлія Дарашкевіч **(“Наша ніва”)** былі затрыманыя каля Кастрычніцкага РУУС, куды прывезлі А. Казуліна. У хуткім часе іх адпусцілі.

У той жа дзень каля Кастрычніцкага РУУС былі затрыманыя карэспандэнт **“Комсомольской правды в Белоруссии”** Алег Улевіч, журналіст **”Белгазеты”** Дзмітрый Брушко, а таксама супрацоўнік прэс-службы Аляксандра Казуліна Андрэй Максімаў. Журналісты сталіся сведкамі таго, як група прадстаўнікоў праваахоўных органаў атакавала прыхільнікаў затрыманага кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. А. Улевіч пры затрыманні атрымаў удар у твар: у той жа дзень ён трапіў у шпіталь, дзе яму паставілі дыягназ “чэрапна-мазгавая траўма і пералом касцей носа”. 2 сакавіка А.Улевіч падаў заяву ў міліцыю па факце свайго збіцця.

Фотакарэспандэнта **”Белгазеты”** Дзмітрыя Брушко адпусцілі амаль адразу пасля таго, як прывезлі ў РУУС Ленініскага раёна.

**9 сакавіка** ў судзе Маскоўскага раёна Мінска адбыўся новы інцыдэнт, у часе якога людзі ў цывільным ужылі сілу супраць прадстаўнікоў прэсы. Калі ў залу суда ўводзілі Вінцука Вячорку (затрыманага 8 сакавіка прадстаўніка штабу А. Мілінкевіча),

чалавек у цывільным кінуўся груба адпіхваць усіх людзей з дыктафонамі, якія хацелі наблізіцца да затрыманага.

Як распавяла прэс-службе БАЖ фотакарэспандэнт газеты **“Наша ніва”** Юлія Дарашкевіч, людзі ў цывільным стваралі журналістам перашкоды яшчэ і на вуліцы, перад уваходам у будынак суда, закрываючы сабою аб'ектывы фотакамер. Пазней у будынку суда, калі Ю. Дарашкевіч ішла па калідоры з фотаапаратам, чалавек у цывільным моцна ўдарыў яе ззаду нагой.

Па словах відавочцаў, агрэсія была выказаная толькі ў бок прэсы.

Сярод прысутных былі прадстаўнікі **“Associated press”, “RenTV”, “Нашай нівы”, Радыё “Свабода”** і іншых СМІ.

**20 красавіка** ў Нацыянальным рэестры прававых актаў была зарэгістравана пастанова Мінюсту "Аб парадку прадастаўлення інфармацыі аб дзейнасці агульных судоў РБ для асвятлення ў сродках масавай інфармацыі". Гэты дакумент больш жорстка рэгламентуе дачыненні суддзяў і прэсы і ўводзіць значна больш абмежаванняў у параўнанні з ранейшымі правіламі, якія вынікалі толькі з закона "Аб друку і іншых СМІ" і закона "Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў у РБ", а таксама працэсуальных кодэксаў (ГПК, КПК і г.д.). У адпаведнасці з новай інструкцыяй, суддзя мае права забараніць паказваць сябе на тэлебачанні і публікаваць свае фотаздымкі "у мэтах забеспячэння сваёй бяспекі і прадухілення магчымага ўмяшальніцтва ў вырашэнне судовых справаў"; можа ў любы момант спыніць фота- і відэаздымкі судовага працэсу, "калі гэта перашкаджае ажыццяўленню судавытворчасці" і г.д. Суды абавязаныя "ў выпадках устанаўлення фактаў ціску на суд з боку сродкаў масавай інфармацыі альбо спробаў іх здзяйснення" адразу ж інфармаваць пра гэта Міністэрства юстыцыі. Юрысты БАЖ адзначылі, што гэтая пастанова стварае глебу для абмежавання дзейнасці СМІ ў судах.

**У канцы траўня** ГА “БАЖ” накіраваў міністру юстыцыі В. Галаванаву ліст з просьбай растлумачыць некаторыя палажэнні згаданага дакумента. У прыватнасці, БАЖ указваў на абмежаванні, якіх не прадугледжваюць закон аб друку, а таксама Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Гаспадарча-працэсуальны кодэксы.

**19 чэрвеня** ГА “БАЖ” атрымала адказ з Мінюсту. "Практыка паказвае, што пры рашэнні задач прававой адукацыі насельніцтва СМІ могуць адыгрываць (і адыгрываюць) не толькі станоўчую, але і негатыўную ролю", - гаварылася ў афіцыйным лісце з Міністэрства юстыцыі. Неабходнасць прыняцця гэтай інструкцыі тлумачылася тым, што "нярэдка СМІ робяць паспешлівыя каментары дзеянняў органаў юстыцыі, выказваюць юрыдычна няправільныя ацэнкі дзейнасці судоў".

**4 траўня,** падчас перапынку ў слуханнях па справе моладзевага актывіста А. Фінькевіча, якія праходзілі ў судзе Першамайскага раёна г. Мінска, былі затрыманыя журналісткі Наталля Валакіда (**прэс-служба АГП**) і Таццяна Снітко (**“Наша ніва”, “Прима-news”).** Рэпарцёраў пратрымалі ў Першамайскім РУУС прыкладна паўгадзіны, пасля чаго адпусцілі.

**10 траўня** на слуханні па той жа справе не пусцілі большасць журналістаў. Пры гэтым ахова будынку спаслалася на асабістае распараджэнне суддзі Вікторыі Зайцавай. Акрамя таго, чалавек у цывільным здымаў усіх сабраных каля суда на відэастужку.

**11 траўня** начальнік інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя г. Слоніма і Слонімскага раёна Мікалай Дзегцяроў адмовіўся прадаставіць інфармацыю журналістцы недзяржаўнай **“Газеты Слонімскай”** Вользе Шынкевіч. Карэспандэнтка хацела даведацца пра планы гэтага ведамства на бліжэйшы год, але ж чыноўнік заявіў, што ён супрацоўнічае толькі з дзяржаўнай раённай газетай **”Слонімскі веснік”.** Рэдакцыя недзяржаўнага выдання накіравала афіцыйны запыт на атрыманне інфармацыі ад спадара Дзегцярова.

**23 траўня** журналісты газеты атрымалі адказ ад чыноўніка: ён параіў журналістам газеты браць інфармацыю з той жа дзяржаўнай "раёнкі".

**1 чэрвеня** намеснік галоўнага ўрача Ганцавіцкага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб’яднання Віктар Анікевіч адмовіўся адказваць на пытанні карэспандэнткі газеты **“Ганцавіцкі час”** (ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс") Ірыны Дамарацкай. Журналістка хацела абмеркаваць з ім тэму задоўгага рамонту амбулаторыі ў вёсцы Вялікія Кругавічы. "Інфармацыі па гэтым пытанні я не дам”, – адказаў сп. Анікевіч.

**8 чэрвеня** карэспандэнту недзяржаўнай газеты **“Вечерний Гомель”** Таццяне Якіменцы не дазволілі прысутнічаць на кірмашы вакансій для моладзі і студэнтаў на час летніх вакацый, які ладзіў Гомельскі рэгіянальны цэнтр занятасці насельніцтва. Інфармацыя пра кірмаш была шырока распаўсюджана ў мясцовых СМІ. Журналістку спачатку накіравалі да дырэктара цэнтру занятасці па дазвол, а затым (паколькі той быў заняты) заявілі, што "не могуць узяць на сябе адказнасці ў гэтым пытанні".

**27 чэрвеня** стала вядома, што карэспандэнта незалежнай газеты **“Intex-press”** Руслана Гарбачова (г. Баранавічы) не дапусцілі на сумесны сход сяброў мясцовых арганізацый КПБ і ПКБ. Карэспандэнт мяркуе, што гэта адбылося з прычыны таго, што ролю сяброў ПКБ на сумесным паседжанні маглі выконваць людзі, якія ўжо даўно выйшлі з яе шэрагаў. (Такую інфармацыю прадаставілі журналісту сябры ПКБ).

**5 ліпеня** супрацоўнікі Гомельскай абласной пракуратуры Аляксандр Елісееў і Надзея Самусева адмовіліся прадаставіць інфармацыю журналісту Анатолю Гатоўчыцу. Журналіст хацеў высветліць статус накіраванага пракуратурай у гарвыканкам прадпісання, дзе ішла гаворка пра жорсткае знішчэнне бяздомных катоў і сабак камунальным прадпрыемствам “Спецкамунтранс”). Журналіст атрымаў адказы на свае пытанні, толькі калі патэлефанаваў асабіста пракурору Гомельскай вобласці.

**6 ліпеня** міліцыя не пусціла журналістаў на судовы працэс па справе экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. Перад пачаткам судовага пасяджэння на прыступках будынку суда Маскоўскага раёна г. Мінска журналістаў разам з дыпламатамі, палітыкамі і іншымі, хто жадаў трапіць на судовы працэс, сустрэлі супрацоўнікі міліцыі, перакрыўшы ўваход. Пазней у залу суда пусцілі сваякоў, дыпламатаў, абаронцаў і асобных журналістаў, спаслаўшыся на невялікія памеры памяшкання. Таксама суд адхіліў хадайніцтва А.Казуліна аб дазволе журналістам весці відэазапіс судовага працэсу.

**28 ліпеня** журналістаў не дапусцілі ў суд Цэнтральнага раёна г. Мінска на судовы працэс над актывістамі незарэгістраванай арганізацыі "Партнёрства" Цімафеем Дранчуком, Мікалаем Астрэйкам, Энірай Браніцкай і Аляксандрам Шалайкам. Судовае пасяджэнне праходзіла ў закрытым рэжыме, а будынак суда быў ачэплены супрацоўнікамі міліцыі.

**4 жніўня** журналістаў упусцілі ў судовую залу толькі на абвяшчэнне прысуду актывістам "Партнёрства". Весці відэа-і аўдыёзапіс суддзя забараніў.

**23 жніўня** журналістам недзяржаўнай газеты **"Мясцовы час"** (ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс") забаранілі прысутнічаць у Пінскім гарвыканкаме на прыёме памочніка прэзідэнта, галоўнага інспектара па Брэсцкай вобласці Уладзіміра Пузырэўскага. Супрацоўнік выканкаму, які арганізоўваў сустрэчу, не дазволіў ім увайсці ў залу. Ён матываваў сваё рашэнне тым, што яму не падабаецца, як газета падае інфармацыю і асвятляе працу выканаўчага камітэту. **1 верасня** выданню не далі таксама магчымасці асвятляць адкрыццё Палескага дзяржаўнага універсітэта ў Пінску з удзелам прэзідэнта А. Лукашэнкі. Прысутнічаць на мерапрыемстве карэспандэнтам газеты забараніла служба бяспекі прэзідэнта.

**11 верасня** карэспандэнту недзяржаўнай газеты **"Бобруйский курьер"** Вользе Мар'ясінай ў Гарадскім аддзеле міліцыі Бабруйску адмовіліся паведаміць інфармацыю аб дарожным здарэнні. Па заданні рэдакцыі журналістка звярнулася туды, каб удакладніць інфармацыю, але старшы інспектар штаба АУС гарвыканкама Ігар Шалыгін адмовіўся ад размовы, спаслаўшыся на адпаведнае ўказанне з гарвыканкаму.

**14 верасня** галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты **"Бобруйский курьер"** Анатоль Санаценка даведаўся, што журналістаў выдання адмаўляюцца акрэдытоўваюць на "Дажынкі-2006". Пра гэта яму паведаміў супрацоўнік упраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама Міхаіл Халамаў. Прычынай адмовы М. Халамаў назваў адсутнасць узаемадзеяння газеты з уладамі.

**22 верасня** старшыня Ганцавіцкага раённага савета дэпутатаў Барыс Асаўцоў адмовіўся прадставіць недзяржаўнай газеце **"Ганцавіцкі час"** інфармацыю аб тым, якія пытанні вырашалі дэпутаты на нечарговай сесіі. Сп. Асаўцоў адмовіўся адказаць на пытанні карэспандэнта **"ГЧ"** Пятра Гузаеўскага аб парадку дня сесіі і прынятых на ёй рашэннях. Між тым, як стала вядома **"Ганцавіцкаму часу"**, на сесіі абмяркоўвалася пытанне аб новым падзеле Ганцавіцкага раёна на выбарчыя ўчасткі да выбараў у мясцовыя саветы, прызначаных на студзень 2007 года.

**27 верасня** начальнік гарадской і раённай інспекцый прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Слонімскага райвыканкама Мікалай Дзегцяроў адмовіўся прадаставіць інфармацыю карэспандэнту недзяржаўнай **"Газеты Слонімскай"** Антону Трафімовічу. Чыноўнік заявіў, што не будзе супрацоўнічаць з выданнем, таму што ўсю інфармацыю передае раённай дзяржаўнай газеце.

**2 кастрычніка** рэктар Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта Мечыслаў Часноўскі адмовіўся прадаставіць інфармацыю карэспандэнту недзяржаўнай газеты **"Брестский курьер".** Журналістка Алена Чэб цікавілася, наколькі ў новым навучальным годзе змяніліся кошты за навучанне па розных спецыяльнасцях у БрДУ. Сваю адмову рэктар аргументаваў тым, што **"Брестский курьер"** не з'яўляецца "эканамічным выданнем".

**26 кастрычніка** кіраўніцтва баранавіцкага камунальнага прадпрыемства ЖРЭУ адмовілася адказваць на запыт недзяржаўнай газеты **"Intex-press",** якая даслала прадпрыемству пытанні ад сваіх чытачоў. (Запыт быў зроблены **18 кастрычніка).** Намеснік кіраўніка прадпрыемства Вольга Кудласевіч, якая працуе са СМІ, заявіла, што адказваць на пытанні **"Intex-press"** не збіраецца з прычыны занятасці і дадала, што прадпрыемства супрацоўнічае толькі з дзяржаўнай прэсай.

**16 лістапада** ў Мінску на чыгуначным вакзале падчас разгону акцыі, прымеркаванай да Дня беларускай салідарнасці, былі затрыманы фотарэпарцёры Юлія Дарашкевіч (газета **"Наша Ніва"),** Сергей Грыц (агенцтва **"Associated Press"**), Васіль Федосенка (агенцтва **"Reuters"**) і Аляксей Мацюшкоў (тыднёвік **"Обозреватель").** У аддзяленні міліцыі прадстаўнікі праваахоўных органаў праверылі ў іх дакументы, пасля чаго адпусцілі, патлумачыўшы, што рабіць фотаздымкі на тэрыторыі вакзала без спецыяльнага дазволу забараняецца.

**24 лістапада** журналіст расійскай газеты **"Московский Комсомолец"** Дзяніс Ермакоў не быў дапушчаны на паседжанне Савета кіраўнікоў урадаў СНД у Мінску. Праз некалькі дзён - **28 лістапада -** фотакарэспандэнту газеты **"Коммерсантъ"** Дзмітрыю Азараву, журналісту **"Московского комсомольца"** Наталлі Галімавай і фотакарэспандэнту **"МК"** Аляксандру Астафьеву не дазволілі прысутнічаць на прэсавай канферэнцыі, што праходзіла ў межах саміту кіраўнікоў краін СНД ў Мінску. У абодвух выпадках рашэнне прымалася на ўзроўні прэсавай службы кіраўніка беларускай дзяржавы. Пасля гэтага расійскія журналісты, акрамя карэспандэнтаў двух інфармагенцтваў і некалькіх тэлеканалаў, дэманстратыўна пакінулі гэтае мерапрыемства на знак салідарнасці са сваімі калегамі. У той жа дзень прэс-сакратар прэзідэнта Беларусі Павел Лёгкі заявіў, што дзеянні беларускага боку былі абгрунтаванымі, паколькі незадоўга да саміту ў памянёных выданнях былі апублікаваныя "зневажальныя для кіраўніка беларускай дзяржавы матэрыялы і фотаздымкі".

**29 лістапада** старшы памочнік пракурора Гомельскай вобласці па сувязях з прэсай Надзея Самусева адмовілася прадаставіць інфармацыю карэспандэнту інфармагенцтва **БелаПАН** Анатолю Гатоўчыцу. Журналіст прасіў прадаставіць яму прэс-рэліз аб завяршэнні расследавання і передачы ў суд справы, заведзенай у дачыненні да чатырох бандыцкіх груповак з Рэчыцы. Памочніца пракурора заявіла, што не ведае яго і таму не будзе прадастаўляць яму інфармацыю, і параіла звярнуцца па дакумент у дзяржаўную газету **"Гомельская праўда".**

**14 снежня** намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Валерый Лазіцкі адмовіўся весці ў прысутнасці карэспандэнта недзяржаўнай газеты **"Intex-press"** прыём грамадзян, заклапочаных выпадкамі адстрэлу ў Баранавічах бяздомных жывёл. Чыноўнік запатрабаваў, каб журналістка Людміла Пракопава пакінула памяшканне, нягледзячы на тое, што гараджане настойвалі на яе прысутнасці. Напярэдадні чытачы газеты, абураныя жорсткім абыходжаннем з жывёламі, звярнуліся ў рэдакцыю **"Intex-press"** з просьбай надаць публічнасці гэтай праблеме, а таксама высветліць, ці не парушаецца ў Баранавічах закон "Аб абыходжанні з жывёламі".

# Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ

**27 студзеня** падчас перасячэння беларуска-украінскай мяжы ў здымачнай групы украінскага тэлеканала **"Інтэр"** памежнікі забралі відэаматрыялы для сюжэту аб падрыхтоўцы прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Падставай для гэтага сталі падазрэнні ў наяўнасці там інфармацыі "антыдзяржаўнага характару". З нагоды інцыдэнту прадстаўнік амбасады Беларусі ва Ўкраіне быў выкліканы ў Міністэрства замежных справаў гэтай краіны, дзе беларускаму дыпламату ўручылі афіцыйную ноту пратэсту з просьбай патлумачыць сітуацыю і вярнуць журналістам відэаматэрыялы.

**3 лютага** на літоўска-беларускай мяжы супрацоўнікі Ашмянскай мытні забралі асобнікі беларускага часопіса **"ARCHE. Пачатак" (2006, №1-2)** і украінскага часопісу **"Критика" (2005, №11-12),** знойдзеныя падчас дагляду рэчаў грамадзяніна Беларусі, праваабаронца Юрыя Чавусава. Супрацоўнік мытнай службы І. Г. Чайкоўскі на працягу гадзіны вывучаў матэрыялы дыскусіі "Выбары ў Сатрапіі", змешчаныя ў **"ARCHE. Пачатак",** а таксама датычныя беларускай тэматыкі публікацыі ў **"Критике".** Ён заявіў, што патрабуецца ацэнка гэтых выданняў адмысловым экспертам, які вызначыць, ці не наносяць яны шкоды інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

**6 лютага** беларуская служба Радыё "Свабода" паведаміла, што амбасада РБ у Братыславе адмовіла ў візе журналісту славацкай газеты **"Смэ" ("SME")** Мірэку Тода, які збіраўся асвятляць ход прэзідэнцкіх выбараў у нашай краіне. Паводле беларускага консула ў Братыславе Антаніны Струнеўскай, славацкаму журналісту адмовілі ў візе, бо ён звяртаўся па прыватную візу, збіраючыся займацца прафесійнай дзейнасцю. Яна заявіла, што журналіст павінен быў спачатку атрымаць акрэдытацыю пры МЗС Беларусі і паабяцала перагледзець сваё рашэнне, калі ён яе атрымае. Між тым, сп. Тода сцвярджае, што ў кастрычніку 2005 года ён быў у Мінску па прыватнай візе, хаця ў анкеце таксама пазначаў, што з'яўляецца журналістам газеты **"Смэ".**

Журналіст не выключае, што праблемы ўзніклі пасля яго артыкулаў па беларускай тэматыцы: у прыватнасці, ён пісаў пра адмову беларускай амбасады выдаць візы прадстаўнікам славацкіх няўрадавых арганізацый.

На цырымоніі рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты **17 лютага,** якая адбылася ў Палацы Рэспублікі ў г. Мінску, не дазволілі прысутнічаць фотакарэспандэнтам інфармацыйных агенцтваў **"Associated Press", "Reuters", ИТАР-ТАСС, "France Press"** і шэрагу беларускіх СМІ. У прэс-службе А.Лукашэнкі ім паведамілі, што падчас цырымоніі рэгістрацыі здымкі могуць рабіць толькі супрацоўнікі дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА.

**19 лютага** карэспандэнта польскай **"Газэты выброчай"** (**"Gazety Wyborczej")** Вацлава Радзівіновіча не ўпусцілі ў Беларусь. Супрацоўнікі беларускай памежнай службы паведамілі, што ён знаходзіцца ў ліку асобаў, якія не маюць права ўязджаць на тэрыторыю краіны. Радзівіновіч меў гадавую візу і акрэдытацыю пры беларускім МЗС, тэрмін дзеяння якой сканчаўся толькі ў канцы красавіка, - паведаміла польскае інфармацыйнае агенцтва PAP. Журналіста пасадзілі на цягнік, які вяртаўся ў Беласток, і заявілі, што, калі ён не пакіне Беларусь па ўласнай волі, яго прымусяць сілай. В. Радзівіновіч ехаў у Беларусь, каб сабраць матэрыял для рэпартажу перад сакавіцкімі прэзідэнцкімі выбарамі.

**2 сакавіка** падчас выканання сваіх прафесійных абавязкаў у Мінску пацярпелі ад рук прадстаўнікоў праваахоўных органаў шэраг беларускіх і замежных журналістаў: у тым ліку тэлеаператар агенцтва **"Reuters"** (Масква), расійскі грамадзянін Дзмітрый Мадорскі, які прысутнічаў у Палацы культуры Чыгуначнікаў пры затрыманні кандыдата ў прэзідэнты Алясандра Казуліна. (У той жа дзень Дзмітрый Мадорскі звяртаўся па дапамогу ў 10-ю клінічную лякарню г. Мінска).

Пазней фотажурналісты Сяргей Грыц (**"Associated Press"**) і Васіль Фядосенка (**"Reuters"**) былі затрыманыя каля Кастрычніцкага РУУС, куды міліцыя прывезла А. Казуліна, але ў хуткім часе іх адпусцілі.

**2 сакавіка** на тэрыторыю Беларусі не былі дапушчаныя прадстаўнікі ўкраінскай арганізацыі "Пора". Разам з імі пад пагрозай дэпартацыі апынуліся шасцёра журналістаў, якія таксама прыляцелі з Кіева, – супрацоўнікаў тэлеканалаў **"Тоніс", "1+1"** і **"5 канал".** У аэрапорце украінскую дэлегацыю сустрэлі чатыры супрацоўнікі спецпадраздзялення "Альфа" КДБ Беларусі, якімі кіраваў палкоўнік КДБ Аляксандар Жарскі. Журналісты папрасілі ў яго дазволу ўехаць у Беларусь як звычайныя грамадзяне (без камер), і палкоўнік дазволіў, - паведаміла беларуская служба **Радыё "Свабода".**

**3 сакавіка** карэспандэнта беларускай службы **Радыё "Свабода"**, старшыню Гомельскай арганізацыі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Анатоля Гатоўчыца выклікалі ў Гомельскую абласную пракуратуру, дзе яму ўручылі афіцыйнае папярэджанне. Журналісту інкрымінуюць парушэнне

п. 9 Палажэння аб прафесійнай дзейнасці ў Беларусі карэспандэнтаў замежных СМІ, а таксама арт. 40 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".

У пракуратуры начальнік аддзелу агульнага нагляду А. Елісееў азнаёміў А. Гатоўчыца са скаргамі намесніка кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна Гомеля Н. Малага і намесніка начальніка Цэнтральнага аддзелу ўнутраных спраў С. Яфіменкі на тое, што іх адказы на пытанні журналіста па тэлефоне былі пададзеныя ў эфіры **Радыё "Свабода".** Журналіст патлумачыў, што папярэджваў згаданых асобаў пра выкарыстанне дыктафона. Акрамя гэтага, А. Гатоўчыц паведаміў, што дырэкцыя **Radio Free Europe/ Radio Liberty** неаднаразова (у верасні 2005г. і ў студзені 2006г.) падавала прадстаўленне на яго акрэдытацыю ў Міністэрства замежных спраў РБ, але ў абодвух выпадках афіцыйнага пісьмовага адказу на іх не атрымала.

**12 сакавіка** ў Мінску міліцыя на некалькі гадзін затрымала журналістку украінскага **"5 каналу"** Ганну Гаражэнку падчас выхаду ў прамы эфір з Мінска. Затрыманне адбылося пад час наўпроставага ўключэння з месца сустрэчы з выбаршчыкамі кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча. Журналістку даставілі ў РУУС Фрунзенскага раёна і вызвалілі толькі пасля ўмяшальніцтва украінскага консула, хаця яна мела афіцыйную акрэдытацыю пры беларускім МЗС. Як паведаміла Г. Гаражэнка Радыё "Свабода", пад час затрымання былі пашкоджаныя камера **"5 каналу"** і мікрафон. Па словах журналісткі, міліцыянты, якія здзяйснялі затрыманне, зневажалі яе і іншых прадстаўнікоў здымачнай групы.

**14 сакавіка** беларускія памежнікі без тлумачэння прычынаў высадзілі з цягніка Кіеў-Мінск уначы журналістаў украінскага **"5 каналу"** Андрэя Жыгуліна і Віталя Дарашэнку. Як паведаміў сайт тэлекампаніі (**http://5tv.com.ua**), супрацоўнікі **"5 каналу"** мелі пры сабе дазвол ад Міністэрства замежных спраў Беларусі на ажыццяўленне прафесійнай дзейнасці ў Беларусі падчас прэзідэнцкіх выбараў. Беларускія памежнікі забралі ў журналістаў пашпарты і акрэдытацыйныя карткі,

пратрымалі дзве гадзіны на мяжы, а потым вярнулі дакументы і пасадзілі на зваротны цягнік Мінск-Кіеў.

**17 сакавіка** двух польскіх журналістаў **Радыё "Беласток"** - Юрку Ляшчынскага і Марэка Заброцкага, якія накіроўваліся асвятляць прэзідэнцкія выбары, - не пусцілі ў Беларусь. Абодва мелі сапраўдныя беларускія візы і акрэдытацыю пры МЗС Беларусі. Пасля праверкі дакументаў на памежным пераходзе Баброўнікі-Бераставіца журналістам вярнулі пашпарты зануляванымі візамі.

**17 сакавіка** грамадзяніна Расійскай Федэрацыі, журналіста і палітолага Андрэя Суздальцава запрасілі ў аддзел грамадзянства і міграцыі Фрунзенскага раёна г.Мінска, дзе анулявалі яго від на жыхарства, абвінаваціўшы ва ўмяшанні ва ўнутраныя справы Беларусі, і загадалі да 23 сакавіка з'ехаць з краіны. У пастанове аб дэпартацыі гаварылася, што ён "ставіць пад пагрозу нацыянальную бяспеку Рэспублікі Беларусь". **24 сакавіка** А. Суздальцаву паўторна аб'явілі, што да 5 красавіка ён павінен пакінуць тэрыторыю Беларусі, і напрацягу пяці наступных год забаранілі ўязджаць у краіну. **5 красавіка** журналіст пакінуў Беларусь.

Сам Суздальцаў лічыць гэта помстай за артыкулы, прысвечаныя перадвыбарнай сітуацыі ў нашай краіне, якія змяшчаліся ў інтэрнэце і на старонках недзяржаўных выданняў.

Андрэй Суздальцаў пражыў у Беларусі 13 гадоў. У яго расійскае грамадзянства, а ў жонкі і дзяцей, якія засталіся ў Мінску, - беларускае.

**18 сакавіка** супрацоўнікі Гомельскага аддзелу ўнутраных справаў на транспарце затрымалі падчас выхаду з цягніка трох расійскіх студэнтаў - Аляксандра Гальмакова, Аляксея Навасёлава і Андрэя Хачатурава, якія мелі пры сабе пасведчанні карэспандэнтаў расійскай газеты **"Правое дело".** Праз некалькі гадзін быў затрыманы таксама Дзмітрый Волаў, які таксама меў пры сабе пасведчанне супрацоўніка газеты **"Правое дело".** У міліцыі яны прабылі больш за 5 гадзін. Затрыманых абшукалі і папярэдзілі, што іх знаходжанне на тэрыторыі Беларусі непажаданае. Пасля гэтага маладых людзей суправодзілі да вакзалу, дзе пасадзілі на цягнік Гомель-Навазыбкаў (Бранская вобл., РФ). Па словах журналістаў, яны мелі намер асвятляць у дзень прэзідэнцкіх выбараў ход галасавання на выбарчых участках Гомеля.

У ноч з **19** на **20 сакавіка** ў Мінску невядомыя збілі і абкралі рэпарцёра чэшскай газеты **"Mlada Fronta Dnes"** Яна Рыбаржа. Журналіст атрымаў страсенне мозгу і пералом носу. Сам Я. Рыбаж упэўнены, што гэта былі не рабаўнікі, паколькі яны скралі ў яго не грошы, а ноўтбук і фотаапарат. Ён лічыць, што звярнуў на сябе ўвагу нападнікаў, калі падчас вулічнай акцыі перад Палацам Рэспублікі запісваў на пераносным кампутары рэпартаж і адсылаў яго з дапамогай спадарожнікавага тэлефона. Пасля заканчэння мітынгу журналіст пайшоў разам з яго ўдзельнікамі па цэнтры горада. Ён кажа, што ненадоўга зайшоў у цёмны пад'езд, дзе і адбыўся напад на яго.

**21 сакавіка** ўвечары ў Мінску быў затрыманы Зміцер Гурневіч - пазаштатны карэспандэнт беларускай службы **Радыё "Палёнія" (Radio Polonia)**, які рабіў рэпартажы з Кастрычніцкай плошчы – месца збору апанентаў улады пад час прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. З.Гурневіча адвезлі ў Фрунзенскае РУУС, а потым асудзілі на 10 сутак адміністратыўнага арышту нібыта за дробнае хуліганства (арт. 156 КаАП).

**22 сакавіка** ўначы міліцыя затрымала ў Мінску карэспандэнта украінскай газеты **"Карпацкі голас"** Андрэя Любку. У той жа дзень суд Фрунзенскага раёна г.Мінска асудзіў яго на 15 сутак адміністратыўнага арышту, звінаваціўшы ў дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП). Журналіст асвятляў паслявыбарныя падзеі на Кастрычніцкай плошчы. Падчас слуханняў у судзе А. Любка распавёў, што людзі, якія яго затрымлівалі, плявалі яму ў твар, зневажалі яго нацыянальную годнасць і годнасць прэзідэнта Украіны.

**23 - 24 сакавіка** пад час ліквідацыі намётавага гарадка на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску былі затрыманыя некалькі журналістаў замежных СМІ: кіраўнік расійскага інфармацыйнага агенцтва **"Прима-news"** Аляксандр Падрабінек (15 сутак арышту), карэспандэнтка гэтага ж агенцтва Таццяна Снітко (штраф – 30 базавых велічыняў), прадстаўнікі расійскай газеты **"Правое дело"** Алег Казлоўскі і Эдуард Глезін (па 15 сутак арышту), карэспандэнтка польскай **"Gazety Wyborczej"** Вераніка Самаліньска (10 сутак арышту), а таксама журналіст канадскай газеты **"La Presse"** Фрэдэрык Левуа (15 сутак арышту). Усіх іх звінавацілі ў парушэнні арт. 167 КаАП (удзел у несанкцыянаванай акцыі) альбо 156 КаАП (дробнае хуліганства).

У сувязі з асуджэннем канадскага журналіста **27 сакавіка** міністр замежных спраў Канады Пітэр МакКей сустрэўся з беларускім амбасадарам у гэтай краіне і запатрабаваў, каб Ф. Левуа вызвалілі і дазволілі пакінуць краіну. Беларускае знешнепалітычнае ведамства адрэагавала на патрабаванні міністра замежных спраў Канады **28 сакавіка** афіцыйным каментаром, заявіўшы, што "на жаль, канадскі бок спрабуе дамагацца вызвалення свайго грамадзяніна метадамі палітычнага ціску і шантажу". Начальнік аддзелу прэс-службы МЗС Марыя Ваньшына паведаміла, што заяўлены канадскім журналістам тэрмін знаходжання ў Беларусі скончыўся 23 сакавіка. "Беларускі суд даў адэкватную прававую ацэнку дзеянням канадскага грамадзяніна", - заявіла М. Ваньшына.

**24 сакавіка** ў Мінску супрацоўнікі КДБ затрымалі здымачную групу **Грамадскага тэлебачаня Грузіі** Ніно Гіоргабіані і Георгія Лагідзэ ў той час, як яны бралі інтэрв'ю ў людзей, чыіх блізкіх затрымалі на Кастрычніцкай плошчы. Пасля затрымання яны змаглі звязацца з кіраўніцтвам тэлебачання па тэлефоне і распавесці, што да іх падышлі "супрацоўнікі службы бяспекі" і папрасілі прад'явіць дакументы аб рэгістрацыі. Нягледзячы на наяўнасць усіх патрэбных дакументаў, журналістаў усё роўна затрымалі "для высвятлення сітуацыі". Потым іх тэлефоны перасталі адказваць.

Напрацягу некалькіх дзён з патрабаваннямі вызваліць журналістаў выступалі самыя розныя структуры Грузіі. Як паведаміла інфармацыйнае агенцтва REGNUM, сваё абурэнне ў сувязі з затрыманнем здымачнай групы выказалі генеральны дырэктар тэлебачання Тамар Кінцурашвілі, прэм'ер-міністр Грузіі Зураб Нагаідэлі. Кіраўніцтва Грамадскага тэлебачання Грузіі накіравала звароты да міжнародных арганізацый з просьбай пасадзейнічаць вызваленню журналістаў, якія асвятлялі прэзідэнцкія выбары ў Беларусі. МЗС Грузіі "выказаў крайняе абурэнне ў сувязі з затрыманнем грузінскіх тэлежурналістаў, якое адбылося без усялякіх на тое падставаў". Амбудсмэн Грузіі Созар Субары звярнуўся да беларускіх уладаў і акрэдытаваных у Мінску міжнародных арганізацый з патрабаваннем зрабіць усё магчымае для вызвалення затрыманай здымачнай групы. У заяве гэты факт характарызуецца як "адкрыты пераслед прадстаўнікоў свабодных медыяў і праява дыктатарскага рэжыму беларускіх уладаў".

Нягледзячы на пратэсты міжнароднай грамадскасці, **27 сакавіка** суд Савецкага раёна Мінска асудзіў на 5 сутак арышту журналістку Грамадскага тэлебачання Грузіі Ніно Гіоргабіані і на 15 сутак - аператара Георгія Лагідзэ, звінаваціўшы іх у дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП).

**24 сакавіка** на Кастрычніцкай плошчы Мінска міліцыя ненадоўга затрымала карэспандэнтку французскай газеты **"Liberation"** Ларэн Мілё. У той жа вечар журналістку адпусцілі на волю.

**25 сакавіка** пад час вулічнай акцыі ў Мінску пацярпеў амерыканскі журналіст: па звестках радыёстанцыі "Эхо Москвы", гэта Алан Каллісан, супрацоўнік **"Wall street journal"** (ЗША). Паводле агенцтва БелаПАН, амерыканскі журналіст быў збіты ў цэнтры Мінска (каля ГУМа). Агенцтва «Інтэрфакс» паведаміла, што ў яго «нязначныя траўмы».

**25 сакавіка** пад час вулічнай акцыі ў цэнтры Мінска быў затрыманы кіраўнік аддзелу спецыяльных праектаў **"Первого канала"** (Расія) Павел Шарамет.

П. Шарамета затрымалі на вул. Леніна ў Мінску пад час акцыі з нагоды Дня Волі. Як паведаміў пазней журналіст, "гэта было сілавое затрыманне ў вельмі жорсткай форме".

Па словах журналіста, яго прывезлі ў цэнтральны РУУС, дзе склалі пратакол аб тым, што П. Шарамет нібыта здзейсніў дробнае хуліганства: лаяўся, зневажаў супрацоўнікаў міліцыі і кіраўніка дзяржавы. У пратаколе ў якасці сведкаў фігуруюць оперупаўнаважаныя Строганаў і Баравікоўскі.

Пасля гэтага П. Шарамет па ўласным патрабаванні быў дастаўлены ў Мінскую гарадскую інфекцыйную лякарню, дзе ў яго была зафіксаваная двухбаковая пнеўманія.

**26 сакавіка** прэс-служба Міністэрства ўнутраных справаў паведаміла, што перавезены ў спецпрымальнік на вуліцы Акрэсціна. У той жа дзень П. Шарамета вызвалілі з умовай, што ён пакіне Беларусь.

**21 красавіка** ў цэнтры Мінска каля 13.00 затрымалі карэспандэнта расійскай газеты **"Коммерсантъ",** беларускага журналіста Вадзіма Доўнара. В. Доўнар ішоў па вуліцы К. Маркса, калі яго спынілі людзі ў цывільным (як пазней высветлілася – супрацоўнікі прэзідэнцкай аховы). Праверыўшы ў журналіста дакументы, яны выклікалі міліцэйскую машыну, і В. Доўнара даставілі ў Ленінскае РУУС Мінска. Журналіста пратрымалі ў міліцыі некалькі гадзін і толькі каля 18.00 выклікалі да следчага, дзе склалі рапарт аб тым, што журналіст нібыта быў у нецвярозым стане, зневажаў кіраўніка дзяржавы і выкрыкваў антыўрадавыя лозунгі. Пасля гэтага В. Доўнара зноў змясцілі ў камеру, забраўшы рэмень і матузкі ад абутку. Праз некаторы час журналісту прад'явілі іншы пратакол, у якім яго звінавачвалі ў нецэнзурнай лаянцы (арт. 156 КаАП – дробнае хуліганства). Затым журналіста адпусцілі, прадпісаўшы праз некалькі дзён з'явіцца для судовага разгляду справы.

**28 красавіка** суддзя Ленінскага раённага суда адтэрмінавала слуханні, адправіўшы матэрыялы справы на дапрацоўку ў РУУС Ленінскага раёна г. Мінска. У судзе выявілася, што дадзеныя рапартаў і пратакола разыходзяцца (першыя ўказваюць на артыкул Крымінальнага кодэксу, другія - на адміністратыўнае правапарушэнне). **21 чэрвеня** суд Ленінскага раёна г. Мінска пастанавіў аштрафаваць Вадзіма Доўнара на 1 базавую велічыню (31 тысяча рублёў), прызнаўшы яго вінаватым у дробным хуліганстве.

**25 красавіка** ў Беларусь не ўпусцілі журналістаў польскага тэлебачання. Яцэка Гасіньскага з аператарам Рышардам Шміткоўскім выслалі з мінскага аэрапорту, а Яраслава Каміньскага не прапусцілі праз пункт Кузніца Беластоцкая - Брузгі. Журналісты скіроўваліся ў Мінск, каб асвятляць акцыю апазіцыі, прымеркаваную да 20-х угодкаў Чарнобылю.

Гасіньскі, журналіст **Тэлевізійнага інфармацыйнага агенцтва (Telewizyjnej Agencji Informacyjnej),** меў акрэдытацыю пры беларускім МЗС і візу, сапраўдную да лістапада 2006 г. У Гасіньскага забралі пашпарт пад час пашпартнага кантролю, а пазней паабяцалі зладзіць яму сустрэчу з начальнікам памежных службаў аэрапорту. Аднак потым яго правялі адразу ў залу адлётаў, дзе ён даведаўся ад прадстаўніка польскай авіякампаніі "LOT", што ён дэпартаваны і павінен вяртацца ў Варшаву. Калі журналіст пачаў пратэставаць, да яго падышоў беларускі памежнік, які аформіў пастанову аб дэпартацыі.

Яраслаў Каміньскі, публіцыст праграмы 1-й праграмы **TVP (Telewizja Polska S.A.)** "Bialorus, Bialorus", таксама меў сталую акрэдытацыю пры беларускім МЗС і візу да лістапада 2006 г. На пункце пропуску Кузніца Беластоцкая - Брузгі памежнікі заявілі, што ён з'яўляецца "непажаданай асобай" у Беларусі, і анулявалі яму візу без тлумачэння прычын.

**4 траўня** ўвечары каля чыгуначнага вакзалу ў Мінску былі на пэўны час затрыманыя фотакарэспандэнты інфармацыйных агенцтваў **"Associated Press" і "Reuters"** Сяргей Грыц і Васіль Фядосенка. Яны былі на вакзале ў звязку з планаваным там флэш-мобам, які, відавочна, з прычыны вялікай канцэнтрацыі супрацоўнікаў міліцыі, так і не адбыўся. Карэспандэнтаў пратрымалі ў лінейным аддзяленні міліцыі каля паўгадзіны, пасля чаго, без усялякіх тлумачэнняў, адпусцілі.

**10 лістапада** Міністэрства замежных спраў Беларусі без тлумачэння прычын адмовіла ў выдачы ўязных візаў замежным журналістам: кіраўніку беларускай рэдакцыі радыё "Нямецкая хваля" Карнэліі Рабіц і нямецкаму журналісту Інгу Петсу. Таксама ўехаць у Беларусь не дазволілі некалькім еўрапейскім палітыкам і дэпутатам нямецкага Бундэстагу. Усе яны збіраліся прыняць удзел у 9-м Беларуска-нямецкім эканамічным форуме.

**16 лістапада** ў Мінску на чыгуначным вакзале падчас разгону акцыі, прымеркаванай да Дня беларускай салідарнасці, прадстаўнікі правахоўных органаў на пэўны час затрымалі фотарэпарцёраў Сергея Грыца (агенцтва **"Associated Press"),** Васіля Фядосенку (агенцтва **"Reuters"**). У аддзяленні міліцыі міліцыянты праверылі ў іх дакументы, пасля чаго адпусцілі, патлумачыўшы, што рабіць фотаздымкі на тэрыторыі вакзала без спецыяльнага дазволу забараняецца.

**24 лістапада** журналіст расійскай газеты **"Московский Комсомолец"** Дзяніс Ермакоў не быў дапушчаны на паседжанне Савета кіраўнікоў урадаў СНД у Мінску. Праз некалькі дзён - **28 лістапада -** фотакарэспандэнту газеты **"Коммерсантъ"** Дзмітрыю Азараву, журналісту **"Московского комсомольца"** Наталлі Галімавай і фотакарэспандэнту **"МК"** Аляксандру Астаф'еву не дазволілі прысутнічаць на прэсавай канферэнцыі, што праходзіла ў межах саміту кіраўнікоў краін СНД ў Мінску. У абодвух выпадках рашэнне прымалася на ўзроўні прэсавай службы кіраўніка беларускай дзяржавы. Пасля гэтага расійскія журналісты, акрамя карэспандэнтаў двух інфармагенцтваў і некалькіх тэлеканалаў, дэманстратыўна пакінулі гэтае мерапрыемства на знак салідарнасці са сваімі калегамі. У той жа дзень прэс-сакратар прэзідэнта Беларусі Павел Лёгкі заявіў, што дзеянні беларускага боку былі абгрунтаванымі, паколькі незадоўга да саміту ў памянёных выданнях былі апублікаваныя "зневажальныя для кіраўніка беларускай дзяржавы матэрыялы і фотаздымкі".

# Эканамічная палітыка ў галіне СМІ

**Напачатку студзеня**, пасля выхаду першага ў 2006 годзе нумару недзяржаўнага выдання **"Витебский курьер М",** РУП "Белпошта" адмовілася распаўсюджваць гэтую газету па падпісцы. Рэдакцыя выдання даведалася пра гэта з ліста, падпісанага кіраўніком Віцебскай філіі "Белпошты" Мікалаем Смунёвым, з якім за месяц да гэтага ўзгадняла ўмовы падпіскі.

**4 студзеня** выканаўца абавязкаў начальніка вытворчасці "Мінская пошта" Валянціна Пугач даслала распараджэнне начальнікам паштовых аддзяленняў г. Мінска з прадпісаннем працягнуць падпіску на газету Адміністрацыі прэзідэнта **"Советская Белоруссия"** да 10 студзеня - "у сувязі з тым, што не аднoўленыя наклады да ўзроўню 01.01.2005 г.". Кожнаму паштоваму аддзяленню прадпісана "дадаткова аформіць падпіску на газету **"Советская Белоруссия"** ў сярэднім на 50 асобнікаў". "У выпадку невыканання дадзенага распараджэння газета **"Советская Белоруссия"** будзе накіроўвацца ў аддзяленне паштовай сувязі для поўнай рэалізацыі раздробна", – гаварылася ў лісце, які трапіў у распараджэнне журналістаў.

**З пачатку 2006 г.** Брэсцкі філіял РУП "Белпошта" адмовіўся заключаць дамову з рэдакцыяй недзяржаўнай газеты **"Брестский курьер"** на экспедыяванне, перавозку і дастаўку выдання для раённых аддзяленняў РУП "Брэстаблсаюздрук". Дырэктар філіялу Генадзь Цітоў заявіў, што лічыць заключэнне такой дамовы "немэтазгодным". Рэдакцыя газеты звярнулася ў Брэсцкі філіял РУП "Белпошта" з прапановай заключыць дамову, бо з пачатку 2006 году газета не паступала ў кіёскі ў некаторых рэгіёнах Брэсцкай вобласці (у дамове адсутнічаў адпаведны пункт). Падпіска на **"Брестский курьер"** была аднoўлена ў канцы 2005 года.

З **10 лютага** Наваполацкі гарадскі вузел паштовай сувязі (Віцебскі філіял РУП "Белпошта") адмовіўся распаўсюджваць недзяржаўную рэгіянальную газету **"Химик"**. Пра гэта гаварылася ў афіцыйным лісце, які даслала **ў пачатку лютага** ў рэдакцыю начальнік наваполацкага гарадскога вузла паштовай сувязі Алена Клімава. Аналагічнае пасланне атрымаў **"Химик"** і з Полацкага раённага вузла паштовай сувязі: начальнік РВПС (раённы вузел паштовай сувязі) сп. Парамонаў папрасіў "лічыць несапраўднай" дамову на экспедыяванне, перавозку і дастаўку падпіснога накладу газеты на 2006 г. Наваполацкія паштары спасылаліся на "невысокий удельный вес реализации" і вялікі працэнт спісання выдання. Полацкі РВПС ніяк не патлумачыў прычыны прынятага рашэння. З 1 студзеня 2006 г. газета **"Химик"** была даступная толькі па падпісцы, бо мясцовае аддзяленне "Віцебскаблсаюздруку" адмовілася заключаць дамову на распаўсюд газеты праз кіёскі.

**У ліпені** стала вядома, што газета **"Химик"** прыпыніла выхад з фінансавых прычын. З-за немагчымасці правесці паўнавартасную падпісную кампанію газета страціла больш за палову сваіх падпісчыкаў: у снежні 2005 года наклад газеты складаў 4.500 асобнікаў, а на момант прыпынення выхаду - крыху больш за 300.

**22 сакавіка** выдавец і галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты **"БДГ. Деловая газета"** Пётр Марцаў паведаміў пра прынятае рашэнне прыпыніць выхад выдання "да ўдакладнення умоваў працы". Часовае прыпыненне было выклікана патрэбаю высветліць умовы друку, увозу газеты ў Беларусь і яе распаўсюду. 13 сакавіка ААТ "Смаленскі паліграфічны камбінат", дзе з 2003 года друкавалася выданне, адмовілася надрукаваць чарговы нумар газеты. Таксама **21 сакавіка** выданне сутыкнулася з

праблемай увозу накладу чарговага нумару на тэрыторыю краіны. Хаця нумар трапіў да чытача, рэдакцыі "далі зразумець, што на гэтым справа не скончыцца", - паведаміў сп. Марцаў.

**23 траўня** на сустрэчы з дэпутатамі Нацыянальнага Сходу РБ А. Лукашэнка пракаментаваў інфармацыю аб прыпыненні выпуску некаторых недзяржаўных газет (у прыватнасці, **"БДГ. Деловая газета"**): "Выбары прайшлі, мы іх не чапалі, а сёння, відаць, фінансаванне іх скончылася". Кіраўнік дзяржавы заявіў, што ўсе апазіцыйныя газеты "займаліся поўнай фальсіфікацыяй фактаў і тэндэнцыйнасцю". Ён таксама выказаў гатовасць дэтальна разабрацца ў сітуацыі, якая склалася з выхадам і распаўсюдам шэрагу недзяржаўных СМІ, таму што ён "не ведаў, што гэтыя газеты не выходзяць".

Каментуючы гэтыя выказванні прэс-службе ГА "БАЖ", галоўны рэдактар **"БДГ. Деловая газета"** Пётр Марцаў адзначыў, што, "відаць, прэзідэнт і насамрэч не поўнасцю інфармаваны: у прыватнасці, пра тое, што нашу газету пазбавілі магчымасці друкавацца і распаўсюджвацца ў Беларусі. А калі ў яе няма такой магчымасці, то, адпаведна, у яе проста няма грошай, каб існаваць".

З пачатку 2006 г. чытачы былі пазбаўлены магчымасці атрымліваць шэраг недзяржаўных выданняў праз сістэму "Белпошты" і "Белсаюздруку". З **"БДГ. Деловая газета"** РУП "Белпошта" скасавала дамову яшчэ ў канцы 2003 года.

**30 траўня** недзяржаўная газета **"Народная воля"** паведаміла чытачам, што больш не будзе распаўсюджвацца бясплатна. У артыкуле "Не разлучымся!" рэдакцыя падкрэсліла, што газету зможа чытаць толькі той, хто своечасова зробіць перадаплату за будучыя нумары. Газета заклікала чытачоў не паддавацца на правакацыі, калі ў некаторых філіях "Беларусбанка" альбо ў паштовых аддзяленнях ім будуць па надуманых прычынах адмаўляць у пераводзе грошай на рахунак рэдакцыі.

**31 траўня** сайт Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый (**www.belngo.info**) паведаміў, што работнікаў светлагорскага вытворчага аб'яднання "Хімвалакно" змушаюць падпісвацца на газету **"Юный спасатель"** (выдавец - моладзевая грамадская арганізацыя выратавальнікаў-пажарных). Па словах рабочых "Хімвалакна", з іх збіраюць грошы і афармляюць "калектыўную падпіску" на цэх. Яны мяркуюць, што кіраўніцтва "Хімвалакна" пайшло на гэта, каб супрацоўнікі інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду звярталі менш увагі на парушэнні правілаў пажарнай бяспекі.

**6 чэрвеня** суд Горацкага раёна пакараў прыватнага прадпрымальніка і грамадскага актывіста Дзям'яна Франкоўскага штрафам у 600 тысяч рублёў (20 базавых велічынь) за наяўнасць у яго гандлёвым пункце аднаго асобніка **"Народнай волі".** Напярэдадні пад час праверкі падатковая інспекцыя знайшла не афармлены згодна з заканадаўствам адзін асобнік газеты **"Народная Воля"** і склала акт парушэння правілаў гандлю друкаванай прадукцыяй. Паводле Д. Франкоўскага, інспектары пакінулі без увагі тое, што **"Народная воля"** на той момант яшчэ распаўсюджвалася бясплатна.

**15 чэрвеня** дырэктар ЗАТ "Выдавецкі дом "Витебский курьер" Валерый Іскібаеў паведаміў ГА "БАЖ", што на арандадаўцаў аказваюць ціск гарадскія ўлады з мэтаю выселіць рэдакцыю недзяржаўнай газеты **"Витебский курьер М"** з памяшкання. З-за фінансавых цяжкасцяў газета затрымала арэндную плату за 2 месяцы, і гэта ледзьве не

стала нагодай для скасавання дамовы, аднак кіраўніцтву прадпрыемства ўдалося пагасіць запазычанасць у апошні момант.

Пазбаўленае падпіскі і продажу ў кіёсках выданне апынулася на мяжы выжывання: у рэдакцыі няма чым плаціць заробак супрацоўнікам, і некаторыя з іх пачалі звальняцца.

**26 чэрвеня** суд Чыгуначнага раёна Віцебска аштрафаваў грамадскіх актывістаў Барыса Хамайду і Алеся Мудрычэнку на адну базавую велічыню (31 тыс. рублёў) кожнага за “гандаль у неналежным месцы”. Іх затрымалі пры распаўсюдзе нумару выдання **"Витебский курьер М".**

**28 чэрвеня** прадстаўнікі ААТ "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс" распаўсюдзілі інфармацыю, што рэкламнае агенцтва "Аранжавы дэльфін" падчас падпісной кампаніі адмовілася размяшчаць рэкламную прадукцыю недзяржаўнай газеты **“Мясцовы час”** на тумбах аб'яваў і ў аўтобусах Пінска. Пасля пераліку Выдавецкім домам грошай на рахунак РА "Аранжавы дэльфін" яно нечакана адмовілася выконваць свае абавязальніцтвы: прадстаўнік агенцтва заявіў, што гарадскія ўлады не рэкамендавалі размяшчаць рэкламу **“Мясцовага часу”** на падведамасных ім плошчах.

**28 чэрвеня** праваабарончы цэнтр “Вясна” паведаміў, што прадстаўнікі РКЦ (разлікова-касавы цэнтр) №1 Аршанскага аддзялення "Белінвестбанку" ў г. Барані папрасілі старшыню Свабоднага прафсаюзу металістаў Васіля Леўчанкова забраць грашовыя сродкі, які ён пералічыў у падтрымку газеты **“Наша Ніва”.** На пытанне, якія праблемы маглі ўзнікнуць з пералікам грошай (рахунак **“Нашай Нівы”** адкрыты якраз у гэтым банку), адна з супрацоўніц папрасіла “зразумець іх”, дадаўшы: “давайце жыць дружна...". Пералічыць ахвяраванні **“Нашай Ніве”** спадару В. Леўчанкову ўдалося праз аддзяленне "Беларусбанку".

**3 ліпеня** віцебскі грамадскі актывіст Алесь Мудрычэнка быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі на плошчы Свабоды ў Віцебску з рэкламным шчытом недзяржаўнай газеты **"Витебский курьер М".** У Кастрычніцкім РАУС на спадара Мудрычэнку склалі пратакол, а праз некалькі гадзін адпусцілі. Шчыт у яго забралі нібыта для экспертызы.

**30 жніўня** рэдакцыя недзяржаўнай газеты **“Товарищ”** атрымала лісты, у якіх паведамлялася, што РУП "Белпошта" адмовілася ўключыць выданне ў падпісны каталог на першае паўгоддзе 2007 года, а "Мінаблсаюздрук" - распаўсюджваць праз кіёскі. Пры гэтым прычыны адмовы ў іх указаныя не былі. У рэдакцыі заявілі, што газета, як і раней, будзе распаўсюджвацца бясплатна ўласнымі намаганнямі яе супрацоўнікаў. Напрыканцы 2005 года РУП "Белпошта" адмовілася ўключыць **”Товарищ”**, разам з цэлым шэрагам іншых недзяржаўных газет, у падпісны каталог на наступны год, а прадпрыемства "Белсаюздрук" скасавала з выданнем дамову на распаўсюд праз кіёскі.

**7 верасня** галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты **“Витебский курьер М”** Уладзімір Базан паведаміў, што на фестывалі кнігі і прэсы, які ладзіўся **3 верасня** ў рамках Дня беларускай пісьменнасці ў Паставах, мелі магчымасць экспанавацца толькі дзяржаўныя СМІ. На стэндзе, дзе выстаўлялася абласная і раённая прэса Віцебскага рэгіёна, выданню **“Витебский курьер М”** у размяшчэнні было адмоўлена. Гэтае рашэнне прыняў начальнік упраўлення ідэалагічнай работы Віцебскага аблвыканкама Міхаіл Кузьміч, які заявіў, што кіёск прызначаны выключна для дзяржаўных выданняў. Напярэдадні мерапрыемства начальнік упраўлення друкаваных СМІ і знешніх сувязяў

Міністэрства інфармацыі Уладзімір Матусевіч сцвярджаў, што ў фестывалі будуць браць удзел усе газеты Віцебскага рэгіёна.

**13 верасня** стала вядома пра спыненне выхаду адзінай рэгіянальнай беларускамоўнай **радыёпраграмы "Люблю наш край",** якая выходзіла на мясцовым радыё ў Баранавічах. Апошняя перадача выйшла ў эфір напрыканцы ліпеня, а затым калектыў сышоў у адпачынак. У жніўні аўтары праграмы хацелі аднавіць працу, але даведаліся, што нацыянальны аператар электрасувязі РУП "Белтэлекам", якому належыць памяшканне і абсталяванне баранавіцкага радыё, зрабіла платнымі 30-хвілінны выхад у жывы эфір і выкарыстанне студыі для запісу праграм. Агулам у месяц сума аплаты складае 130 тысяч рублёў.

Праграма "Люблю наш край" выходзіла на працягу апошніх дзесяці гадоў (са студзеня 1996 года) і рыхтавалася сябрамі мясцовай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". Старшыня Баранавіцкага аддзялення ТБМ Віктар Сырыца ў інтэрв'ю "Еўрапейскаму радыё для Беларусі" заявіў, што "перадачу па сутнасці закрылі... менавіта таму, што беларуская мова і беларуская культура зараз не ў пашане не толькі на ўзроўні кіраўніцтва краіны, але і ў мясцовых вертыкальшчыкаў".

**5 кастрычніка** стала вядома, што пінскія гарадскія ўлады настойліва "раяць" кіраўніцтву крамаў адмовіцца ад гандлю недзяржаўнай газетай **"Мясцовы час"** (ААТ "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс"). У сувязі з гэтым адміністрацыя крамы "Асторыя" ўжо накіравала ў рэдакцыю выдання ліст з просьбай скасаваць дамову на продаж **"Мясцовага часу"**. Супрацоўнік Пінскага гарвыканкама заявіў кіраўніцтву крамаў, што непажадана, каб у гандлёвай зале побач з дзяржаўнымі выданнямі знаходзілася недзяржаўная газета. Раней з рэдакцыяй скасавала дамову Пінская рэгіянальная друкарня, адмовілася ад супрацоўніцтва аддзяленне РУП "Белсаюздрук", не ўключыла ў падпісны каталог "Белпошта".

**5 кастрычніка** стала вядома, што недзяржаўную газету **"Информ-прогулка"** (г. Лунінец) забаронена прадаваць у кіёску "Брэстаблсаюздруку", які знаходзіцца ў будынку Лунінецкага райвыканкама. Адпаведнае распараджэнне, нягледзячы на тое, што паміж рэдакцыяй і прадпрыемствам "Брэстаблсаюздрук" існуе афіцыйная дамова на распаўсюд газеты, паступіла непасрэдна ад старшыні райвыканкама В. Гаргуна.

**12 кастрычніка** галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты **"Вестник культуры"** Алег Зайцаў паведаміў, што прадпрыемства "Белсаюздрук" адмовілася распаўсюджваць яго выданне. Рэдакцыя атрымала ліст за подпісам дырэктара РУП "Белсаюздрук" І. Дудзіча, у якім сцвярджаецца, што дамова на рэалізацыю газеты скасавана. У папярэднім лісце "Белсаюздрук" тлумачыў сваё рашэнне разарваць дамову эканамічнай немэтазгоднасцю. Рэдактар лічыць, што яго газета "трапіла пад агульную зачыстку".

**12 кастрычніка** рэдакцыя недзяржаўнай газеты **"Брестский курьер"** атрымала ліст за подпісам дырэктара Брэсцкага філіяла РУП "Белпошта" Георгія Цітова, у якім гаварылася, што "дамова на распаўсюд і дастаўку **"Брестского курьера"** заканчваецца 31 снежня 2006 года і далей працягнута не будзе. У сувязі з гэтым на новы падпісны перыяд газета будзе выключана з каталогу перыядычных выданняў. Аб прычынах непадаўжэння дамовы ў лісце нічога не паведамлялася. У 2005 годзе РУП "Белпошта" таксама адмаўлялася ўключаць газету ў каталог і зрабіла гэта толькі за 5 дзён да заканчэння падпісной кампаніі, а на пачатку 2006 года скасавала дамовы з **"Брестским курьером"** на рознічны гандаль і дастаўку ў раёны Брэсцкай вобласці.

**27 кастрычніка** дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ Вольга Абрамава прапанавала ўраду разгледзець сітуацыю з недзяржаўнымі СМІ. Яна зазначыла, што “недзяржаўная прэса церпіць ад астракізму з боку дзяржавы”. У якасці прыкладу яна выклала сітуацыю з выданнямі **“Народная воля”, “Товарищ”, “БДГ. Деловая газета”, “Витебский курьер М”** і **“Борисовские новости”**, якія не былі ўключаныя ў падпісныя каталогі і не могуць распаўсюджвацца праз сістэму “Белсаюздруку”. Таксама дэпутат прапанавала заканадаўча абмежаваць памеры штрафаў і тэрміны падачы зыскаў па справах абароны дзелавой рэпутацыі, якія выстаўляюцца да журналістаў і выданняў.

**13 лістапада** да кіраўніцтва Міністэрства сувязі і Міністэрства інфармацыі быў накіраваны зварот удзельнікаў 9-га Мінскага форума. Яны заклікалі міністраў садзейнічаць узнаўленню супрацоўніцтва дзяржаўных прадпрыемстваў “Белпошта” і “Саюздрук” (падведамасных гэтым міністэрствам) з недзяржаўнымі грамадска-палітычнымі газетамі. Свае подпісы пад зваротам паставілі 34 удзельнікі мерапрыемства.

**16 лістапада** стала вядома, што вядучыя недзяржаўныя нацыянальныя і рэгіянальныя грамадска-палітычныя газеты не трапілі ў падпісны каталог РУП “Белпошта” на першае паўгоддзе 2007 года. Дзяржаўнае прадпрыемства-манапаліст паштовай сувязі адмовілася супрацоўнічаць з выданнямі **“Народная воля”, “Наша Ніва”, “Товарищ”, “СНплюс. Свободные новости плюс”, “Брестский курьер”, “Витебский курьер”, “Борисовские новости”, “Газета Слонимская”, “Intex-press” (Баранавічы), “Ляхавіцкі час”, “Вольнае Глыбокае”, “Ганцавіцкі час”, “Мясцовы час” (Пінск).** Такім чынам, гэтыя газеты губляюць адзіную магчымасць распаўсюджвацца праз падпіску, а іх чытачы - атрымліваць іх у паштовую скрыню. Кіраўніцтва “Белпошты” патлумачыла гэта тым, што, “паколькі абавязак па ўключэнні друкаванага выдання ў каталог не прадугледжаны заканадаўствам, выбар друкаваных выданняў для фармавання каталогу з мэтай далейшага іх распаўсюду праз падпіску з’яўляецца правам РУП “Белпошта”, якое рэалізуецца ім у адпаведнасці з заканадаўствам.” Між тым, закон “Аб паштовай сувязі” сцвярджае, што любая газета, якая выдаецца на тэрыторыі Беларусі і зарэгістравана Мініінфармацыі, мае права на размяшчэнне яе ў Каталогу для арганізацыі падпіскі і дастаўкі адрасату шляхам аказання універсальных паслуг паштовай сувязі.

**6 снежня** стала вядома, што недзяржаўную газету **“Витебский курьер М”** папрасілі вызваліць памяшканне за 46 гадзін. Кіраўніцтва віцебскага прадпрыемства “Элсан”, у якога газета з кастрычніка 2006 г. арандавала памяшканне для офісу, тэрмінова скасавала дамову арэнды. Дакумент палічылі несапраўдным “у сувязі з адсутнасцю ўзгаднення Адміністрацыі раёна аб размяшчэнні суб’екта гаспадарання на тэрыторыі Першамайскага раёна г. Віцебска”. Між тым, паводле Палажэння аб дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі суб’ектаў гаспадарання, якое ўтрымлівае вычарпальны пералік неабходных дакументаў і зацверджана Дэкрэтам №11 Прэзідэнта РБ, згода мясцовай выканаўчай улады на размяшчэнне на падведамаснай ёй тэрыторыі юрыдычнай асобы не патрабуецца.

У той жа дзень рэдакцыя атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі на падставе таго, што яе заснавальнік не паведаміў “у вызначаны месяцовы тэрмін аб змяненні адрасу рэдакцыі”.

**7 снежня** выканаўчы дырэктар ЗАТ “Выдавецкі дом “Витебский курьер” Жанна Папова і галоўны рэдактар газеты **“Витебский курьер М”** Уладзімір Базан наведалі намесніка старшыні адміністрацыі Першамайскага раёна Віцебска Віктара Уласава.

Нагодай для візіту стала тое, што напрацягу паўтара месяцаў супрацоўнікі адміністрацыі адмаўляліся прыняць у іх дакументы для перарэгістрацыі статута. В. Уласаў пацвердзіў, што супрацоўнікам было забаронена прымаць дакументы, і заявіў, што кіраўніцтва газеты парушыла мясцовае заканадаўства, бо павінна было папярэдне ўзгадніць размяшчэнне рэдакцыі на тэрыторыі Першамайскага раёна з яго адміністрацыяй.

"У законе "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні...", на які спасылаўся В. Уласаў і раіў нам пачытаць, няма нормы, якая абавязвае ўзгадняць размяшчэнне на тэрыторыі раёна юрыдычнай асобы, зарэгістраванай гарвыканкамам", -- паведаміў прадстаўнік Беларускага Хельсінскага камітэта Павел Левінаў, які абараняў інтарэсы газеты.

**8 снежня** ў рэдакцыю газеты **"Витебский курьер М"** прыйшлі супрацоўнікі падатковай інспекцыі, якія распачалі комплексную праверку дзейнасці выдання за апошнія пяць гадоў.

# Перашкоды ў вырабе прадукцыі СМІ

**13 сакавіка** ААТ "Смаленскі паліграфічны камбінат" скасавала дамовы на друк з недзяржаўнымі беларускімі выданнямі **"Народная воля" і "Товарищ".** Свае дзеянні генеральны дырэктар прадпрыемства А. Гучаў у тэлеграме, дасланай на адрас рэдакцый, патлумачыў тэхнічнымі праблемамі і адсутнасцю абаротных сродкаў. Галоўны рэдактар газеты **"Товарищ"** Сяргей Вазняк лічыць, што на кіраўніцтва паліграфкамбінату аказалі ціск беларускія ўлады, паколькі 13 сакавіка бухгалтэрыя Смаленскага паліграфкамбіната даслала ў рэдакцыю выдання рахунак-фактуру аб аплаце друку нумару за 14 сакавіка, і размовы пра магчымае скасаванне дамовы не вялося.

Рэдакцыя **"Народнай волі"** ў той жа дзень, 13 сакавіка, здолела заключыць дамову з "Друкарняй Міхайлава" у Смаленску.

**15 сакавіка** прадстаўнікі АМАП, КДБ, а таксама Крычаўскага РУУС пад кіраўніцтвам начальніка міліцыі падпалкоўніка Алясандра Рабыкі (агулам больш за 20 чалавек) правяліператрус ў прыватнай кватэры крычаўскага прадпрымальніка Уладзіміра Кудраўцава - заснавальніка і выдаўца незарэгістраванай газеты **"Вольны горад",** канфіскаваўшы ўсю аргтэхніку, на якой рыхтавалася выданне.

Прадстаўнікі праваахоўных органаў патлумачылі свае дзеянні падазрэннямі, што гэта менавіта тая аргтэхніка, што была нядаўна скрадзеная з цэнтральнай крычаўскай лякарні. Рэдактар газеты Сяргей Няроўны, са свайго боку, бачыць у гэтым жаданне паралізаваць выхад незарэгістраванага выдання, якое распаўсюджвалася ў трох раёнах.

**22 сакавіка** выдавец і галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты **"БДГ. Деловая газета"** Пётр Марцаў паведаміў пра рашэнне прыпыніць выхад выдання "да ўдакладнення умоваў працы". Часовае прыпыненне выклікана патрэбаю высветліць умовы друку, увозу газеты ў Беларусь і яе распаўсюду. 13 сакавіка ААТ "Смаленскі паліграфічны камбінат", дзе з 2003 года друкавалася выданне, адмовілася надрукаваць чарговы нумар газеты (хоць дамова з рэдакцыяй выдання не была разарваная, у адрозненне ад **"Народнай волі"** і **"Товарища").** Таксама 21 сакавіка выданне сутыкнулася з праблемай увозу накладу чарговага нумару на тэрыторыю краіны. Хаця нумар трапіў да чытача, рэдакцыі "далі зразумець, што на гэтым справа не скончыцца", – паведаміў сп. Марцаў.

**18 красавіка** гродзенская журналістка Інэс Тодрык (супрацоўніца газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі")** даведалася, што яе звінавачваюць у адміністратыўным правапарушэнні (арт. 172 КаАП - парушэнне правілаў адкрыцця паліграфічных і штэмпельна-гравёрных прадпрыемстваў, набыцця, збыту, выкарыстання, уліку і захоўвання памнажальнай тэхнікі. Незаконны распаўсюд друкаваных выданняў). Пра гэта журналістцы паведамілі супрацоўнікі міліцыі, якія прынеслі ёй на працу пратакол аб нібыта здзейсненым парушэнні.

Інэс Тодрык затрымалі **24 сакавіка:** міліцыянты абшукалі аўтамабіль, у якім яна знаходзілася, і забралі 400 асобнікаў газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"** і 80 асобнікаў **"Magazyn Polski" ў эміграцыі".**

**17 кастрычніка** галоўныя рэдактары пяці недзяржаўных газет - **"Народная воля", "Товарищ", "БДГ. Деловая газета", "Витебский курьер М", "Борисовские**

**новости”** - звярнуліся з лістом да прэзідэнта Беларусі. У ім яны прасілі кіраўніка краіны пасадзейнічаць ў вырашэнні праблем, звязаных с друкаваннем і распаўсюдам недзяржаўных выданняў, нагадаўшы, што ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ён заявіў аб сваёй гатоўнасці дэтальна разгледзець сітуацыю.

# Перашкоды ў распаўсюдзе прадукцыі СМІ

**Напачатку студзеня**, пасля выхаду першага ў 2006 годзе нумару недзяржаўнага выдання **“Витебский курьер М”,** РУП “Белпошта” адмовілася распаўсюджваць гэтую газету па падпісцы. Рэдакцыя выдання даведалася пра гэта з ліста, падпісанага кіраўніком Віцебскай філіі “Белпошты” Мікалаем Смунёвым, з якім за месяц да гэтага ўзгадняла ўмовы падпіскі.

**3 студзеня** падчас перасячэння расійска-беларускай мяжы супрацоўнікі аддзелу кантрабанды мытнай службы затрымалі ўвесь наклад першага ў новым годзе падвойнага нумару недзяржаўнага выдання **“Народная воля”,** надрукаванага ў ААТ “Смаленскі паліграфічны камбінат”. Яны спасласіся на неналежнае афармленне аднаго з суправаджальных дакументаў. Наклад быў перавезены ў Дубровенскі РАУС. **4 студзеня**, пасля прадастаўлення дакументаў, што пацвердзілі законнасць выхаду газеты, наклад быў вызвалены.

**5 студзеня** ў рэдактара мясцовага выдання **“Рэгіянальныя навіны”** (наклад – 299 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна) Тэльмана Маслюкова міліцыя забрала 297 асобнікаў газеты. Маслюкоў быў дастаўлены ў раённае аддзяленне міліцыі для складання пратаколу. Паводле намесніка начальніка аддзялення маёра Пятра Зыкуна, калі міліцэйская праверка высветліць, што змест друкаванай прадукцыі не супярэчыць заканадаўству, то асобнікі выдання яму вернуць.

Разам з газетай міліцыянты забралі ў Т. Маслюкова 1289 віншавальных паштовак “Новы год – новыя магчымасці” з віншаваннем ад лідэра дэмакратычнай апазіцыі Аляксандра Мілінкевіча і тры календары “Любі Беларусь”.

**9 студзеня** на расійска-беларускай мяжы быў затрыманы ўвесь наклад падвойнага (№№3 і 4) нумару газеты **“Народная воля”.** Намеснік начальніка Віцебскай мытні паведаміў рэдактару выдання Іосіфу Сярэдзічу, што падставай для затрымання стала напісанне нумару таварна-транспартнай накладной ад рукі. Акрамя таго, супрацоўнікі міліцыі запатрабавалі ад рэдакцыі пацвярджэння права перавозчыка на аказанне транспартных паслуг **“Народнай волі”.** 27 тысяч асобнікаў выдання былі перавезеныя ў Дубровенскі РАУС. Пасля 7-гадзінных кансультацый галоўнага рэдактара газеты Іосіфа Сярэдзіча з намеснікам начальніка РАУС Віктарам Кахноўскім **11 студзеня** наклад выдання быў вызвалены.

**12 студзеня** ў распаўсюдніцы ваўкавыскай **“Местной газеты”** Маргарыты Макавей міліцыянты забралі 69 нумароў выдання і склалі пратакол, пасля чаго адпусцілі. Яна мела дазвол Ваўкавыскага райвыканкама на гандаль газетай на міні-рынку “Дружба”, дзе яе затрымалі, а таксама адрыўныя талоны. За некалькі тыдняў да гэтага ў Ваўкавыску была затрыманая яшчэ адна распаўсюдніца гэтага выдання, якая таксама гандлявала ў вызначаным месцы, але без адрыўных талонаў: яе аштрафавалі на 80 тысяч рублёў.

Брэсцкі філіял РУП "Белпошта" адмовіўся заключаць дамову з рэдакцыяй недзяржаўнай газеты **“Брестский курьер”** на экспедыяванне, перавозку і дастаўку выдання для раённых аддзяленняў РУП "Брэстаблсаюздрук". Дырэктар філіялу Генадзь Цітоў заявіў, што лічыць заключэнне такой дамовы "немэтазгодным". Рэдакцыя газеты звярнулася ў Брэсцкі філіял РУП "Белпошта" з прапановай заключыць дамову, бо з **пачатку 2006 году** газета не паступала ў кіёскі ў некаторых рэгіёнах Брэсцкай вобласці

(у дамове адсутнічаў адпаведны пункт). Падпіска на **“Брестский курьер”** была адноўленая ў канцы 2005 года.

**13 студзеня** на беларуска-расійскай мяжы быў затрыманы мытнікамі наклад незарэгістраванай крычаўскай газеты **“Вольны горад”.** Затрыманне адбылося на мытным пераездзе "Звянчатка", што на мяжы Клімавіцкага раёна і Смаленскай вобласці. Падставай для затрымання і вымання газеты стала перавышэнне заяўленага накладу выдання. Наклад перавозіў сам рэдактар газеты Сяргей Няроўны на прыватным мікрааўтобусе. Супрацоўнікі Клімавіцкага РАУС і людзі ў цывільным пералічылі ўсе асобнікі **“Вольнага горада”,** налічыўшы іх каля тысячы. Гэтая колькасць не супадала з заяўленай у выходных дадзеных газеты - 299 асобнікаў (гэткую колькасць, паводле беларускага заканадаўства, можна выпускаць без рэгістрацыі).

**13 сакавіка** суд Клімавіцкага раёна пастанавіў спагнаць з рэдактара **“Вольнага горада”** Сяргея Няроўнага штраф памерам 20 базавых велічыняў (620 тысяч рублёў). Суддзя Ірына Гурыновіч прызнала яго вінаватым у парушэнні арт. 172 ч.1 п.8 КаАП (выраб і распаўсюд друкаванага выдання звыш устаноўленага накладу).

**15 сакавіка** прадстаўнікі АМАПу, КДБ, а таксама Крычаўскага РАУС пад кіраўніцтвам начальніка міліцыі падпалкоўніка Алясандра Рабыкі (агулам больш за 20 чалавек) ў прыватнай кватэры крычаўскага прадпрымальніка Уладзіміра Кудраўцава - заснавальніка і выдаўца газеты **“Вольны горад”** і канфіскавалі ўсю аргтэхніку, на якой рыхтавалася выданне. Прадстаўнікі праваахоўных органаў патлумачылі свае дзеянні падазрэннямі, што гэта менавіта тая аргтэхніка, што была напярэдадні скрадзеная з цэнтральнай крычаўскай лякарні. Рэдактар газеты Сяргей Няроўны ўбачыў у гэтым жаданне паралізаваць выхад незарэгістраванага выдання, якое распаўсюджвалася ў трох раёнах.

**17 студзеня** пад Скідзелем (Гроденская вобл.) міліцыя затрымала машыну, у якой знаходзіўся рэдактар часопіса **“Magazyn Polski” ў эміграцыі”** Андрэй Пачобут, а таксама яго калега Анджэй Лісоўскі. Пад час дагляду ў машыне міліцыя знайшла і забрала 50 асобнікаў выдання. Журналістаў даставілі ў Ленінскі РАУС г. Гродна, дзе ім выдалі копію пратаколу аб выманні часопіса, пасля чаго адпусцілі.

**24 студзеня** калегія Гомельскага абласнога суду адхіліла касацыйную скаргу Уладзіміра Няпомняшчых на адмову суду Чыгуначнага раёну г. Гомеля разглядаць яго зыск да РУП “Белпошта”. У.Няпомняшчых хацеў прыцягнуць “Белпошту” да адказнасці за тое, што не змог выпісаць недзяржаўнае выданне **“Народная воля”** на першае паўгоддзе 2006 года, паколькі гэтай газеты на было ў падпісным каталогу “Белпошты”. У сваім зыску У. Няпомняшчых патрабаваў спагнаць з “Белпошты” 100 млн. рублёў у якасці кампенсацыі маральных страт з-за немагчымасці чытаць **“Народную волю”.**

Суд Чыгуначнага раёну адмовіўся разглядаць зыск чытача, спаслаўшыся на тое, што прадпрыемства “Белпошта” знаходзіцца ў Мінску.

**30 студзеня** супрацоўнікі РАУС г. Жлобіна (Гомельская вобласць) забралі 694 асобнікі газеты **“Товарищ”** і 282 асобнікі **“Народнай волі”** з машыны грамадскага актывіста Уладзіміра Кацоры. Каля 21.00 на трасе Мінск-Гомель блізу Жлобіна дарожная інспекцыя спыніла машыну сп-ра Кацоры і, пасля таго, як ён адмовіўся без складання пратаколу паказваць салон і багажнік аўтамабіля, суправадзілі яго ў раённы аддзел міліцыі. Там пры даглядзе машыны ў яго знайшлі частку накладу згаданых газет, якія У. Кацора вёз у Гомель для бясплатнага распаўсюду. **31 студзеня** галоўны

рэдактар газеты **"Товарищ"** Сяргей Вазняк накіраваў на імя начальніка Жлобінскага РАУС падпалкоўніка міліцыі Алега Прахарэнкі заяву з патрабаваннем вярнуць газеты і пакараць за перавышэнне службовых паўнамоцтваў міліцыянтаў, якія затрымалі выданні. Абедзьве газеты выходзяць легальна, маюць усе неабходныя выходныя дадзеныя і пазнаку "Для рэкламных мэтаў".

**31 студзеня** сайт Аб'яднанай грамадзянскай партыі (**www.ucpb.org**) распавёў пра марныя спробы пенсіянеркі Галіны Ганчарык адстаяць сваё права на атрыманне інфармацыі. Яна падала зыск у суд Кастрычніцкага раёна Мінска з патрабаваннем прызнаць яе права на атрыманне інфармацыі праз набыццё газеты **"Народная воля"** (якую яна не можа атрымліваць ні праз падпіску, ні набываць у кіёсках "Саюздруку"). У адказе суда адзначалася, што заяву трэба падаваць не па месцы жыхарства, а па месцы знаходжання адказчыка - РУП "Белпошта". У судзе Ленінскага раёна Г. Ганчарык таксама заявілі, што яе патрабаванні непадведамасныя гэтай установе, а таксама запатрабавалі выплаціць за падачу заявы 5 базавых велічыняў. Паколькі вызначаную суму яна не змагла сплаціць, зыскавую заяву вярнулі пенсіянерцы.

**3 лютага** на літоўска-беларускай мяжы супрацоўнікі Ашмянскай мытні забралі асобнікі беларускага часопіса **"ARCHE. Пачатак" (2006, №1-2)** і украінскага часопісу **"Критика" (2005, №11-12),** знойдзеныя падчас дагляду рэчаў грамадзяніна Беларусі, праваабаронца Юрыя Чавусава. Супрацоўнік мытнай службы І. Г. Чайкоўскі на працягу гадзіны вывучаў матэрыялы дыскусіі "Выбары ў Сатрапіі", змешчаныя ў **"ARCHE. Пачатак"** а таксама датычныя беларускай тэматыкі публікацыі ў **"Критике".** Ён заявіў, што патрабуецца ацэнка гэтых выданняў адмысловым экспертам, які павінен вызначыць, ці не наносяць яны шкоды інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

**9 лютага** ПЦ "Вясна" паведаміў, што адміністратыўная камісія Ленінскага раёну г.Гродна пастанавіла накласці штраф на Уладзіміра Леванеўскага за распаўсюд бюлетэню **"Прадпрымальнік".** У. Леванеўскі быў прызнаны вінаватым у распаўсюдзе 22 снежня 2005 года бюлетэню, які, па меркаванні камісіі, быў выраблены з парушэннем вызначанага парадку і не меў выходных дадзеных, а яго змест быў скіраваны на нанясенне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму ладу, правам і законным інтарэсам грамадзян. Распаўсюднік выдання быў пакараны штрафам у 3 базавыя велічыні (87 тысяч рублёў) за парушэнне ч.3 арт 172 КаАП.

З **10 лютага** Наваполацкі гарадскі вузел паштовай сувязі (Віцебскі філіял РУП "Белпошта") адмовіўся распаўсюджваць недзяржаўную рэгіянальную газету **"Химик"**. Пра гэта гаварылася ў афіцыйным лісце, які даслала **ў пачатку лютага** ў рэдакцыю начальнік наваполацкага гарадскога вузла паштовай сувязі Алена Клімава. Аналагічнае пасланне атрымаў **"Химик"** і з Полацкага раённа вузла паштовай сувязі: начальнік РУПС сп. Парамонаў папрасіў "лічыць несапраўднай" дамову на экспедыяванне, перавозку і дастаўку падпіснога накладу газеты на 2006 г. Наваполацкія паштары спасылаліся на "невысокий удельный вес реализации" і вялікі працэнт спісання выдання. Полацкі РУПС ніяк не патлумачыў прычыны прынятага рашэння. З 1 студзеня 2006 г. газета **"Химик"** была даступная толькі па падпісцы, бо мясцовае аддзяленне "Віцебскаблсаюздруку" адмовілася заключаць дамову на распаўсюд газеты праз кіёскі.

**7 лютага** міліцыя затрымала дэпутата гомельскага гарсавету Юрыя Глушакова, які перавозіў у прыватным мікрааўтобусе 11 тысяч улётак з карыкатурамі на беларускае тэлебачанне і налепкі "Они лгут". На дэпутата Глушакова склалі пратакол паводле артыкулу 172 ч. 3 КаАП (Распаўсюд друкаваных выданняў, выраблены з парушэннем вызначанага парадку, якія не маюць выходных дадзеных, змест якіх

накіраваны на нанясенне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян).

**10 лютага** Юрыя Глушакова выклікалі ў пракуратуру Чыгуначнага раёну г.Гомеля. Намеснік пракурора Аляксей Скараход узяў у дэпутата тлумачэнне наконт знойдзеных у яго ўлётак. Пазней суддзя па адміністратыўных справах суда Чыгуначнага раёна Гомеля Яраслаў Парэмскі пакараў Юрыя Глушакова штрафам памерам 10 базавых велічынь (290 тысяч рублёў), угледзеўшы ў друкаванай прадукцыі заўчасную агітацыю не галасаваць на выбарах за дзейнага прэзідэнта і прызнаўшы дэпутата вінаватым у парушэнні заканадаўства аб выбарах - у прыватнасці, арт. 167 ч.3 КаАП.

Рэдактары недзяржаўных выданняў **“Народная воля”** і **“Товарищ”** Іосіф Сярэдзіч і Сяргей Вазняк **14 лютага** звярнуліся з адкрытым лістом да мінстра ўнутраных спраў Беларусі Уладзіміра Навумава. У лісце яны прапаноўвалі дапамагчы міністру арганізаваць навучальна-метадычны семінар з удзелам начальнікаў РАУСаў па вывучэнні патрабаванняў закона “Аб друку і іншых СМІ”. Рэдактары зазначаюць, што нагодай для напісання ліста стала “сістэматычнае свавольства” супрацоўнікаў міліцыі ў адносінах да выданняў **“Народная воля”** і **“Товарищ”**, частку накладу якіх добраахвотнікі раздаюць бясплатна ў грамадскіх месцах. Кіраўнікі незалежных выданняў зазначалі, што супрацоўнікі міліцыі сістэматычна затрымліваюць распаўсюднікаў і канфіскуюць выданні. І.Сярэдзіч і С.Вазняк выказалі надзею, што правядзенне адукацыйна-метадычнага семінару дазволіць выключыць магчымыя інцыдэнты з затрыманнем выданняў.

**21 лютага** ў Рагачове супрацоўнікі міліцыі Сяргей Бугаёў і Сяргей Гурэвіч затрымалі старшыню Жлобінскай раённай арганізацыі Партыі Камуністаў Беларускай Валерыя Рыбчанку. Ён на сваім асабістым аўтамабілі прывёз у Рагачоў для распаўсюду газеты **“Народная воля”** і **“Товарищ”,** маючы пры сабе неабходныя дакументы ад рэдакцый. Пад час дагляду машыны міліцыянты па распараджэнні намесніка начальніка райаддзелу Юрыя Астаповіча забралі ў актывіста 3985 асобнікаў газеты **“Товарищ”** і 600 асобнікаў **“Народнай Волі”** - нібыта для вывучэння зместу і сапраўднасці выданняў. У міліцыі сп-ра Рыбчанку пратрымалі больш за 3 гадзіны. Грамадскі актывіст звярнуўся са скаргай у пракуратуру на незаконныя дзеянні міліцыі.

**21 лютага** ў Магілёве быў затрыманы кіраўнік абласнога штабу адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў Уладзімір Шанцаў, які прывёз з Мінску ў вобласць 26 000 афіцыйных перадвыбарных улётак А.Мілінкевіча і 400 асобнікаў газеты **“Товарищ”.** Актывіста прывезлі ў Ленінскі РАУС Магілёва, дзе 36 супрацоўнікаў міліцыі да раніцы пералічвалі ўсю друкаваную прадукцыю. Улёткі і газеты забралі, патлумачыўшы гэта неабходнасцю праверкі іх зместу. На тым жа тыдні ўсе ўлёткі былі вернутыя, але асобнікі выдання засталіся ў міліцыі.

**21 лютага** ў раённым цэнтры Ветка міліцыя затрымала грамадскіх актывістак Марыю Багдановіч і Людмілу Судзілоўскую з Гомеля, якія раздавалі жыхарам райцэнтру газеты **“Народная воля”** і **“Товарищ”.** Затрыманне міліцыянты патлумачылі тым, што не ведаюць такіх выданняў. Праз пэўны час распаўсюдніц адпусцілі.

**25 лютага** ў Мінску міліцыя забрала 58 асобнікаў газеты **“Glos znad Niemna” ў эміграцыі”.** Выданне было знойдзена падчас дагляду аўтамабіля, у якім знаходзіліся галоўны рэдактар часопіса **“Magazyn Polski” ў эміграцыі”** Андрэй Пачобут, а таксама яго калегі Юзэф Пажэцкі і Антон Борыс. Супрацоўнікі спецназу паведамілі, што ім

паступіла ананімнае тэлефанаванне адносна таго, што ў машыне нібыта перавозіцца зброя. Зброю міліцыянты не знайшлі, але машыну даставілі ў Фрунзенскае РУУС, дзе склалі пратакол аб выманні выдання, якое не мае выходных дадзеных.

**26 лютага** "Радыё "Свабода" паведаміла пра затрыманне ў Віцебску двух распаўсюднікаў недзяржаўнага выдання **"Народная воля"** - Дзяніса Дзянісава і Максіма Волкава. Яны раздавалі газету на скрыжаванні праспекта Фрунзэ і Самленскай вуліцы. У аддзяленні міліцыі з распаўсюднікаў узялі пісьмовыя тлумачэнні і адпусцілі, а 415 асобнікаў газеты забралі.

**26 лютага** ў Рагачове падчас раздачы буклетаў з інфармацыяй пра кандыдата ў прэзідэнты А.Мілінкевіча міліцыя затрымала агітатара гомельскага абласнога штаба Уладзіміра Хадасевіча. На яго быў складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні, прадугледжаным ч.3 арт. 167 КаАП (парушэнне парадку агітацыі). Акрамя гэтага, у яго забралі 560 агітацыйных буклетаў і 60 асобнікаў выдання **"Народная воля". 6 сакавіка** суд на падставе складзенага пратакола пакараў агітатара штрафам у памеры 10 базавых велічыняў (310 тысяч рублёў).

**3 сакавіка** ўвечары каля Дуброўна (Віцебская вобласць) беларускія мытныя службы спынілі 2 грузавікі з поўным накладам **"Народнай волі"** (№ 39) - агулам 250 тысяч асобнікаў. Рэдакцыя цалкам прысвяціла яго падзеям 2 сакавіка ў Мінску: збіццю кандыдата ў прэзідэнты А. Казуліна і ўсім падзеям, што спадарожнічалі гэтаму інцыдэнту, а таксама сустрэчы з выбаршчыкамі А. Мілінкевіча. Сярод іншага ў затрыманым нумары быў надрукаваны тэкст выступу кандыдата ў Прэзідэнты А.Казуліна па тэлебачанні і тэкст, які ён меў намер прачытаць перад дэлегатамі Трэцяга ўсебеларускага сходу.

Увесь наклад у той жа дзень перавезлі ў Віцебскае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў. Як заявіў І. Сярэдзічу 4 сакавіка начальнік упраўлення грамадскага парадку УУС Сяргей Іваноў, у міліцыі ўзніклі падазрэнні, што **"Народная воля"** парушыла артыкулы 45 і 48 Выбарчага кодэксу (у якіх ідзе гаворка пра прадастаўленне няроўных магчымасцяў агітацыі для кандыдатаў).

У сувязі з затрыманнем накладу выдання кіраўніцтва рэдакцыі **"Народнай волі"** накіравала на імя Генеральнага пракурора і кіраўніка МУС лісты з патрабаваннем вярнуць газеты.

**6 сакавіка** начальнік упраўлення грамадскага парадку Віцебскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Сяргей Іваноў накіраваў у Цэнтрвыбаркам запыт з просьбай даць ацэнку зместу затрыманага нумару.

**6 сакавіка** намеснік старшыні ЦВК Мікалай Лазавік заявіў, што Цэнтрвыбаркам не будзе займацца ацэнкай публікацый у затрыманым міліцыяй нумары **"Народнай волі"**. М. Лазавік перакананы, што такія пытанні мусіць разглядаць Міністэрства інфармацыі.

Два наступныя здвоеныя нумары **"Народнай волі"** (№№ 40-41 ад 09-10.03.06 і №№ 42-43 ад 11-12.03.06) бесперашкодна трапілі ў Мінск **7 сакавіка** і былі распаўсюджаныя сярод чытачоў. Частка матэрыялаў у іх дублявала змест папярэдняга нумару.

**14 сакавіка** ў Мсціслаўскім раёне быў затрыманы мікрааўтобус, які перавозіў 60 тысяч асобнікаў надрукаванага ў Смаленску падробленага нумару газеты **"Советская**

**Белоруссия".** У аўтамабілі знаходзіўся намеснік старшыні партыі БНФ Алесь Міхалевіч, які заявіў, што БНФ не мае дачынення да выпуску гэтага выдання. Падробленае выданне ўтрымлівала лагатыпы і стылістыку сапраўднай газеты. Яго артыкулы, напісаныя ў сатырычным стылі, былі падпісаныя прозвішчамі сапраўдных супрацоўнікаў **"СБ".**

**14 сакавіка** былі затрыманыя два нумары газеты **"Народная воля",** якую перавозілі ў Беларусь з Расійскай Федэрацыі. Напярэдадні ААТ "Смаленскі паліграфічны камбінат" паведаміла пра адсутнасць магчымасці друкаваць гэтае ды шэраг іншых беларускіх недзяржаўных выданняў. **13 сакавіка** рэдакцыя газеты падпісала дамову на друк са смаленскай "Друкарняй Міхайлава", якая выпусціла два здвоеныя нумары **"Народнай волі"** (№44-45 і №№46-47), накладам па 27 000 асобнікаў кожны. Затрыманыя асобнікі выдання былі перавезеныя ў Віцебскае абласное УУС, дзе з рэдактара газеты І. Сярэдзіча ўзялі пісьмовыя тлумачэнні адносна таго, дзе друкавалася газета, якім накладам, як перавозілася, хто затрымліваў і г.д.

**15 сакавіка** ў Мінску была спыненая трансляцыя тэлеканала **RTVi** у сетцы эфірнага і кабельнага вяшчання аператара "Космос ТВ". Як адзначана ў афіцыйная заяве на сайце аператара, трансляцыя тэлеканала была спынена па тэхнічных прычынах - у сувязі з выхадам са строю карты доступу для прыёму тэлесігналу памянёнага тэлеканала. Для набыцця новай карты, паводле заявы, патрэбна некалькі дзён.

Таксама на сайце гэтага аператара было спынена функцыянаванне форуму. У якасці прычыны кіраўніцтва аператара назвала неабходнасць наладоўвання праграмнага забеспячэння.

Тэлеканал **RTVi** уваходзіць у склад міжнароднага кансорцыюму, які з лютага 2006 году вядзе інфармацыйнае тэле- і радыёвяшчанне для Беларусі і фінансуецца Еўразвязам.

**17 сакавіка** ўначы быў затрыманы наклад (50 000 асобнікаў) **"Народнай волі",** які везлі ў Мінск са смаленскай "Друкарні Міхайлава". Затрыманая газета зноў была дастаўленая ва Ўпраўленне ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама.

Як паведаміў прэс-службе ГА "БАЖ" Іосіф Сярэдзіч, рэдакцыя паўторна надрукавала здвоены №№ 44-45 **"Народнай волі",** у якім быў змешчаны поўны тэкст тэлевыступу кандыдата ў прэзідэнты А. Казуліна 2 сакавіка.

**17 сакавіка** ў Мінску міліцыя затрымала 200-тысячны наклад газеты Партыі камуністаў Беларускай **"Товарищ",** які прывезлі з Масквы на вялікагрузнай машыне з расійскімі нумарамі. (Частку накладу паспелі выгрузіць у асабісты гараж лідэра партыі Сяргея Калякіна. Дзверы гаража міліцыя апламбавала). Змест нумару складала перадвыбарчая праграма кандыдата ў прэзідэнты А.Мілінкевіча і паведамленні пра ход выбарчай кампаніі. 85 тыс. 600 асобнікаў газеты **"Товарищ"** былі перададзеныя на "адказнае захаванне" на Мінскі паліграфкамбінат імя Я. Коласа. Праз пэўны час наклад вярнулі. Адзіная прэтэнзія, якую пасля папярэдняй праверкі выставілі прадстаўнікам **"Товарища"** супрацоўнікі Савецкага РУУС, - гэта разгрузка накладу газеты не па юрыдычным адрасе рэдакцыі.

**22 сакавіка** выдавец і галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты **"БДГ. Деловая газета"** Пётр Марцаў паведаміў аб рашэнні прыпыніць выхад выдання "да ўдакладнення умоваў працы". Часовае прыпыненне выкліканае патрэбаю высветліць умовы друку, увозу газеты ў Беларусь і яе распаўсюду. 13 сакавіка ААТ "Смаленскі

паліграфічны камбінат", дзе з 2003 года друкавалася выданне, адмовілася надрукаваць чарговы нумар газеты. Таксама **21 сакавіка** выданне сутыкнулася з праблемай увозу накладу чарговага нумару на тэрыторыю краіны. Хаця нумар трапіў да чытача, рэдакцыі "далі зразумець, што на гэтым справа не скончыцца", - паведаміў сп. Марцаў.

**23 сакавіка** ў Гродна міліцыя затрымала частку накладу газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"** (дакладная колькасць асобнікаў невядомая). Міліцыянты затрымалі машыну, у якой некалькі актывістаў непрызнанага ўладамі Саюзу палякаў (у тым ліку журналістка **"Glos znad Niemna"** Інэс Тодрык) перавозілі газету. Усіх затрыманых даставілі ў аддзяленне міліцыі мікрараёну Дзевятоўка: газету забралі, Інэс Тодрык дапыталі і адпусцілі, актывіста СПБ А. Лісоўскага асудзілі на 10 сутак арышту, а машыну пакінулі "для правядзення экспертызы".

**24 сакавіка** Інэс Тодрык затрымалі паўторна: міліцыянты абшукалі аўтамабіль, у якім яна знаходзілася, і забралі 400 асобнікаў газеты **"Glos znad Niemna" ў эміграцыі"** і 80 асобнікаў **"Magazyn Polski" ў эміграцыі".**

**18 красавіка** журналістка даведалася, што яе звінавачваюць у адміністратыўным правапарушэнні (арт. 172 КаАП - парушэнне правілаў адкрыцця паліграфічных і штэмпельна-гравёрных прадпрыемстваў, набыцця, збыту, выкарыстання, уліку і захоўвання памнажальнай тэхнікі. Незаконны распаўсюд друкаваных выданняў). Пра гэта журналістцы паведамілі супрацоўнікі міліцыі, якія прынеслі ёй на працу пратакол аб нібыта здзейсненым парушэнні.

**21 красавіка** галоўны рэдактар **"Газеты Слонімскай"** Віктар Валадашчук даведаўся пра пагрозы з боку чыноўнікаў мясцовага райвыканкаму (у прыватнасці, начальніка аддзелу гандлю і бытавых паслуг Ігара Трафімовіча) на адрас індывідуальных прадпрымальнікаў, якія ўзялі на рэалізацыю газету, зліквідаваць іх гандлёвыя кропкі. Па гэтай прычыне некаторыя ІП ужо скасавалі дамовы з **"Газетай Слонімскай"** на распаўсюд выдання праз раздробны гандаль.

**22 траўня** гомельскія грамадскія распаўсюднікі газет Андрэй Аксёнаў і Марыя Багдановіч звярнуліся да кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёна Гомеля Сяргея Краўцова з просьбай даць афіцыйны адказ на пытанне, ці маюць яны права на падставе Закона РБ "Аб друку і іншых СМІ" распаўсюджваць недзяржаўныя газеты **"Товарищ" і "Народная воля"** на тэрыторыі раёна. У іх ёсць адпаведныя пасведчанні і дамовы з рэдакцыямі, аднак міліцыя раёна затрымлівае іх, забараняючы бясплатную раздачу незалежных газет.

**6 чэрвеня** суд Горацкага раёна пакараў прыватнага прадпрымальніка і грамадскага актывіста Дзям'яна Франкоўскага штрафам у 600 тысяч рублёў (20 базавых велічыняў) за наяўнасць у яго гандлёвым пункце аднаго асобніка **"Народнай волі".** Пад час праверкі падатковая інспекцыя знайшла не аформлены згодна з заканадаўствам адзін асобнік газеты **"Народная Воля"** і склала акт парушэння правілаў гандлю друкаванай прадукцыяй. Паводле Д. Франкоўскага, інспектары пакінулі без увагі тое, што **"Народная воля"** на той момант яшчэ распаўсюджвалася бясплатна.

**26 чэрвеня** віцебскіх грамадскіх актывістаў Барыса Хамайду і Алеся Мудрычэнку, якія ў цэнтры горада распаўсюджвалі недзяржаўныя газеты **"Витебский курьер М", "Наша ніва"** і часопіс **"ARCHE. Пачатак",** затрымалі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Іх адвезлі ў райаддзелы міліцыі, дзе склалі пратаколы за гандаль у неналежным месцы, пасля чаго суд Чыгуначнага раёна аштрафаваў кожнага з іх на адну базавую велічыню (31 тыс. рублёў).

**3 ліпеня** віцебскі грамадскі актывіст Алесь Мудрычэнка зноў быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі на плошчы Свабоды з рэкламным шчытом недзяржаўнай газеты **"Витебский курьер М".** У Кастрычніцкім РАУС на спадара Мудрычэнку склалі пратакол, а праз некалькі гадзін адпусцілі. Шчыт забралі для правядзення экспертызы.

**11 ліпеня** пры распаўсюджванні апошняга нумара выдання **"Витебский курьер М"** быў затрыманы Барыс Хамайда быццам бы за гандаль у неналежным месцы. Крыху пазней суд Чыгуначнага раёна Віцебска аштрафаваў яго на 31 тыс. рублёў (1 базавую велічыню).

**10 жніўня** за распаўсюд недзяржаўнай газеты **"Народная воля"** ў Пінску быў затрыманы грамадскі актывіст Аляксандр Рамановіч. Супрацоўнікі міліцыі Пінскага ГАУС забралі ў яго 261 асобнік газеты, а спадара Рамановіча адвезлі ў аддзяленне. На затрыманага быў складзены пратакол, у якім паведамлялася, што ў А.Рамановіча не было пры сабе афіцыйнага дазволу на распаўсюд газеты. Праз нейкі час пасля затрымання супрацоўнік газеты **"Мясцовы час"** (ААТ "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс") прывёз ў аддзел міліцыі дакументы, згодна якім А.Рамановічу дазволена распаўсюджваць газеты, аднак супрацоўнік міліцыі адмовіўся зрабіць у пратаколе адпаведны запіс. **25 жніўня** стала вядома, што пінская міліцыя вярнула Аляксандру Рамановічу ўсе забраныя нумары газеты **"Народная воля".** Гэта адбылося пасля таго, як актывіст звярнуўся ў гарадскую пракуратуру і да кіраўніцтва Пінскага ГАУС са скаргай на незаконныя дзеянні супрацоўнікаў міліцыі.

**30 жніўня** рэдакцыя недзяржаўнай газеты **"Товарищ"** атрымала лісты, ў якіх паведамлялася, што РУП "Белпошта" адмовілася ўключыць выданне ў падпісны каталог на першае паўгоддзе 2007 года, а РУП "Мінаблсаюздрук" - распаўсюджваць яго праз кіёскі. Прычыны адмовы ў іх указаны не былі.

**19 верасня** суд Чыгуначнага раёна Віцебска аштрафаваў распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы Барыса Хамайду на 0,5 базавай велічыні (15 з паловай тысяч рублёў) за незаконны гандаль газетамі. Яго затрымалі на вуліцы, калі ён праваноўваў мінакам набыць **"Витебский курьер М"**, **"Нашу ніву"** і часопіс **"ARCHE. Пачатак".**

**5 кастрычніка** стала вядома, што пінскія гарадскія ўлады настойліва "раяць" кіраўніцтву крамаў адмовіцца ад гандлю недзяржаўнай газетай **"Мясцовы час"** (ААТ "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс"). У сувязі з гэтым адміністрацыя крамы "Асторыя" ўжо накіравала ў рэдакцыю выдання ліст з просьбай скасаваць дамову на продаж **"Мясцовага часу**". Як высветлілася, супрацоўнік Пінскага гарвыканкама заявіў кіраўніцтву крамаў, што непажадана, каб у гандлёвай зале побач з дзяржаўнымі выданнямі знаходзілася недзяржаўная газета. Раней з рэдакцыяй скасавала дамову Пінская рэгіянальная друкарня, адмовілася ад супрацоўніцтва аддзяленне РУП "Белсаюздрук", не ўключыла ў падпісны каталог РУП "Белпошта".

**5 кастрычніка** стала вядома, што недзяржаўную газету **"Информ-прогулка"** (г. Лунінец) забаронена прадаваць у кіёску "Брэстаблсаюздруку", які знаходзіцца ў будынку Лунінецкага райвыканкама. Адпаведнае распараджэнне, нягледзячы на тое, што паміж рэдакцыяй і прадпрыемствам "Брэстаблсаюздрук" існуе афіцыйная дамова на распаўсюд газеты, паступіла непасрэдна ад старшыні райвыканкама В. Гаргуна.

**11 кастрычніка** паступіла інфармацыя, што невядомыя асобы забралі ў адной з мінскіх крамаў 20 асобнікаў газеты **"Наша Ніва"** (№36). Трое мужчын, якія назваліся супрацоўнікамі КДБ, патлумачылі свае дзеянні тым, што **"Наша Ніва"** забаронена для распаўсюду ў Мінску. Між тым, газета зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі і мае

права распаўсюджваца на ўсёй тэрыторыі Беларусі. А з крамай, у якой забралі асобнікі выдання, існавала адпаведная дамова на продаж.

**12 кастрычніка** галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты **"Вестник культуры"** Алег Зайцаў паведаміў, што "Белсаюздрук" адмаўляецца распаўсюджваць выданне. Рэдакцыя атрымала ліст за подпісам дырэктара РУП "Белсаюздрук" І. Дудзіча, у якім сцвярджаецца, што дамова на рэалізацыю газеты скасавана. У папярэднім лісце "Белсаюздрук" тлумачыў сваё рашэнне разарваць дамову эканамічнай немэтазгоднасцю. Рэдактар лічыць, што газета "трапіла пад агульную зачыстку".

**12 кастрычніка** рэдакцыя недзяржаўнай газеты **"Брестский курьер"** атрымала ліст за подпісам дырэктара Брэсцкага філіяла РУП "Белпошта" Георгія Цітова, у якім гаворыцца, што "дамова на распаўсюд і дастаўку **"Брестского курьера"** заканчваецца 31 снежня 2006 года і далей працягнута не будзе. У сувязі з гэтым на новы падпісны перыяд газета будзе выключана з каталога перыядычных выданняў". Аб прычынах скасавання дамовы ў лісце нічога не паведамлялася. У 2005 годзе РУП "Белпошта" таксама адмаўлялася ўключаць газету ў каталог і зрабіла гэта толькі за 5 дзён да заканчэння падпісной кампаніі, а на пачатку 2006 года скасавала дамовы з **"Брестским курьером"** на рознічны гандаль і дастаўку ў раёны Брэсцкай вобласці.

**17 кастрычніка** галоўныя рэдактары пяці недзяржаўных газет **– "Народная воля", "Товарищ", "БДГ. Деловая газета", "Витебский курьер М", "Борисовские новости"** - звярнуліся з лістом да А.Лукашэнкі. У ім яны прасілі кіраўніка краіны пасадзейнічаць ў вырашэнні праблем, звязаных с друкаваннем і распаўсюдам недзяржаўных выданняў, нагадаўшы, што ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ён заявіў аб сваёй гатовасці дэтальна разглядзець сітуацыю.

**27 кастрычніка** дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ Вольга Абрамава прапанавала ўраду разгледзець сітуацыю з недзяржаўнымі СМІ. Яна зазначыла, што "недзяржаўная прэса церпіць ад астракізму з боку дзяржавы". У якасці прыкладу яна выклала сітуацыю з выданнямі **"Народная воля", "Товарищ", "БДГ. Деловая газета", "Витебский курьер М" і "Борисовские новости"**, якія не былі ўключаныя ў падпісныя каталогі і не могуць распаўсюджвацца праз сістэму "Белсаюздруку". Таксама дэпутат прапанавала заканадаўча абмежаваць памеры штрафаў і тэрміны выстаўлення зыскаў па справах абароны дзелавой рэпутацыі, якія выстаўляюцца да журналістаў і СМІ.

**3 лістапада** ў Магілёве быў затрыманы адзін з выдаўцоў незарэгістраванай газеты **"Наш Магілёў"** Андрусь Дзвігун. У цэнтры горада да яго падышлі двое мужчын у цывільным, якія прадставіліся супрацоўнікамі Ленінскага РУУС і заявілі, што А. Двігун знешне падобны на злачынцу, які нядаўна здзейсніў крадзеж. На гэтай падставе спадара Дзвігуна затрымалі і суправадзілі ў пастарунак.

У сумцы, якую меў пры сабе Андрусь Дзвігун, міліцыянеры знайшлі частку накладу першага нумару газеты **"Наш Магілёў".** Усе асобнікі выдання міліцыя забрала "да высвятлення абставін", што было адзначана ў складзеным пратаколе.

Першы нумар газеты пабачыў свет **30 кастрычніка.** Наклад выдання складае 299 асобнікаў.

**8 лістапада** стала вядома, што дзяржаўнае прадпрыемства "Белпошта" адмовілася ўключыць у падпісны каталог на першае паўгоддзе 2007 года недзяржаўную грамадска-палітычную газету **"Витебский курьер М".** "...Выбар друкаваных выданняў для

фармавання каталогу з мэтай наступнага іх распаўсюджання праз падпіску з’яўляецца правам РУП “Белпошта”, якое рэалізуецца ім ў адпаведнасці з заканадаўствам”, - паведамлялася ў лісце на адрас рэдакцыі. Напачатку 2006 года Віцебскі філіял РУП “Белпошта” скасаваў дамову з рэдакцыяй газеты **“Витебский курьер М**” на распаўсюд і экспедыяванне выдання.

**13 лістапада** да кіраўніцтва Міністэрства сувязі і Міністэрства інфармацыі быў накіраваны зварот удзельнікаў 9-га Мінскага форума. Яны заклікалі міністраў садзейнічаць узнаўленню супрацоўніцтва дзяржаўных прадпрыемстваў “Белпошта” і “Саюздрук” (падведамасных гэтым міністэрствам) з недзяржаўнымі грамадска-палітычнымі газетамі. Свае подпісы пад зваротам паставілі 34 удзельнікі мерапрыемства.

**16 лістапада** стала вядома, што вядучыя недзяржаўныя нацыянальныя і рэгіянальныя грамадска-палітычныя газеты не трапілі ў падпісны каталог РУП “Белпошта” на першае паўгоддзе 2007 года. Дзяржаўнае прадпрыемства-манапаліст паштовай сувязі адмовілася супрацоўнічаць з выданнямі **“Народная воля”, “Наша Ніва”, “Товарищ”, “СНплюс. Свободные новости плюс”, “Брестский курьер”, “Витебский курьер М”, “Борисовские новости”, “Газета Слонимская”, “Intex-press” (Баранавічы), “Ляхавіцкі час”, “Вольнае Глыбокае”, “Ганцавіцкі час”, “Мясцовы час” (Пінск).** Такім чынам, гэтыя газеты згубілі адзіную магчымасць распаўсюджвацца праз падпіску, а іх чытачы - атрымліваць іх у паштовую скрыню. Кіраўніцтва “Белпошты” патлумачыла гэта тым, што, “паколькі абавязак па ўключэнні друкаванага выдання ў каталог не прадугледжаны заканадаўствам, выбар друкаваных выданняў для фармавання каталогу з мэтай наступнага іх распаўсюджання праз падпіску з’яўляецца правам РУП “Белпошта”, якое рэалізуецца ім ў адпаведнасці з заканадаўствам.” Між тым, закон “Аб паштовай сувязі” сцвярджае, што любая газета, якая выдаецца на тэрыторыі Беларусі і зарэгістравана Мінінфармацыі, мае права на размяшчэнне яе ў Каталогу для арганізацыі падпіскі і дастаўкі адрасату шляхам аказання ўніверсальных паслуг паштовай сувязі.

**28 лістапада** на рабочага Гомельскага завода пускавых рухавікоў Анатоля Паплаўнага склалі пратакол за тое, што ён прынёс на працу два асобнікі малафарматнай незарэгістраванай газеты **“Свабода”.** Намеснік дырэктара па кадрах і ідэалогіі А. Мінчук з гэтай нагоды выклікаў на прадпрыемства ўчастковага інспектара. Таксама ён запрасіў начальніка інструментальнага аддзела, майстра і некалькі рабочых, якія вымушаны былі даць тлумачэнні, адкуль у аддзеле з’явіліся асобнікі газеты. На спадара Паплаўнага быў складзены пратакол на падставе артыкула 172 КаАП (распаўсюд друкаваных выданняў, выробленых з парушэннем вызначанага парадку, якія не маюць выходных дадзеных, змест якіх накіраваны на нанясенне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку…). Артыкул прадугледжвае штраф у памеры пяці мінімальных заробкаў з канфіскацыяй выдання.

**1 снежня** ў Магілёве на актывістку Аб’яднанай грамадзянскай партыі Хрысціну Шацікаву склалі пратакол аб парушэнні артыкула 172 КаАП (распаўсюд друкаваных выданняў, выробленых з парушэннем вызначанага парадку, якія не маюць выпускных даных, змест якіх накіраваны на нанясенне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку…). Супрацоўнікі міліцыі затрымалі Х.Шацікаву напярэдадні, калі яна вярнулася з Мінску. Міліцыянты настойліва прапанавалі ёй прайсці з імі ў пастарунак - нібыта каб праверыць змесціва яе сумкі на прадмет “спрычыненасці да тэрарызму”. У Ленінскім РУУС міліцыя знайшла ў Х. Шацікавай асобнікі газеты **“Народная Воля”**, праваабарончага бюлетэню “Белорусский вестник” і раздрукоўкі інтэрнэт-дайджэсту “6 кв. мэтраў”.

**8 снежня** ў Віцебску ў чарговы раз быў затрыманы і аштрафаваны распаўсюднік недзяржаўнай прэсы Барыс Хамайда. Як звычайна, ён распаўсюджваў выданні **“Народная воля”, “Наша Ніва”, “ARCHE. Пачатак”, “Свабода”** ў цэнтры горада на вуліцы Леніна. Да сп. Хамайды падышлі два супрацоўнікі міліцыі і прапанавалі яму прайсці ў РУУС Чыгуначнага раёна. Там на распаўсюдніка быў складзены акт аб парушэнні артыкула 148 КаАП (гандаль у неналежным месцы), пасля чаго суд аштрафаваў яго на 0,5 базавай велічыні (15.500 рублёў). Затрыманне адбылося ў дзень візіту ў Віцебск беларускага прэм’ер-міністра С. Сідорскага.

**13 снежня** ў Гомелі кандыдат у дэпутаты абласнога Савета ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Аляксандр Процка атрымаў афіцыйнае папярэджанне за тое, што, збіраючы подпісы за сваё вылучэнне, раздаваў недзяржаўныя газеты **“Народная воля”** і **“Товарищ”** (афіцыйна зарэгістраваныя выданні). Акруговая камісія студэнцкай выбарчай акругі №15, якую ўзначальваў намеснік старшыні адміністрацыі Савецкага раёна Гомеля Мікалай Малы, палічыла гэта парушэннем выбарчага заканадаўства.

# Ідэалогія і прапаганда

**6 лютага** сакратар ЦВК Мікалай Лазавік паведаміў БелаПАН, што Цэнтравыбаркам Беларусі не разглядае акцыю тэлеканала **ОНТ (ЗАТ “Другі нацыянальны тэлеканал)** “За Беларусь!” у якасці агітацыйнай кампаніі. Як адзначыў сакратар Цэнтарвыбаркама, акцыя “За Беларусь!” скіраваная на тое, каб “павысіць палітычную актыўнасць грамадзян і іх інтарэс да выбарчай кампаніі” і не з’яўляецца агітацыяй. Акцыя пачалася ў Гродна **5 лютага** і доўжылася 6 тыдняў. Канцэрты, у якіх бралі ўдзел зоркі расійскай і беларускай эстрады, прайшлі ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі. У канцэрце, паказаным **19 лютага** каналам **ОНТ**, прысутнічала агітацыя на карысць А.Лукашэнкі: артысты і гледачы выкрыквалі заклікі “За бацьку!”.

(Заклік “За Беларусь!” актыўна выкарыстоўваўся ў часе падрыхтоўкі да рэферэндума 2004 г. па ўнясенні зменаў у Канстытуцыю, якія дазволілі А.Лукашэнку балатавацца неабмежаваную колькасць разоў на пасаду прэзідэнта краіны).

Амбасадар Літвы ў Рэспубліцы Беларусь Петрас Вайтэкунас абверг інфармацыю, якую **7 лютага** падалі дзяржаўныя газеты **“Звязда”** і **“Рэспубліка”.** У артыкулах згаданых выданняў ішла гаворка пра тое, што на тэрыторыі Літвы нібыта праходзяць навучанне баевікі для беларускай апазіцыі. “З усёй адказнасцю заяўляю, што Вашыя цверджанні ў згаданым артыкуле пра нібыта дзейныя на тэрыторыі Літвы лагеры па навучанні моладзевых груп метадам правядзення вулічных акцый і аказанню супраціву праваахоўным органам не адпавядаюць рэчаіснасці”, - гаварылася ў лісце П.Вайтэкунаса галоўнаму рэдактару **“Звязды”** Уладзіміру Наркевічу. Падобнага зместу ліст быў накіраваны таксама галоўнаму рэдактару **“Рэспублікі”** Анатолю Лемяшонку.

**7 лютага** ў праграме "Комментарий дня" на **Першым нацыянальным тэлеканале (Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія)** была агучана інфармацыя пра тое, што "на базе амбасады Польшчы дастаткова працяглы час дзейнічае рэзідэнтура нацыянальных спецслужбаў". Было заяўлена, што, "выкарыстоўваючы дыпламатычны імунітэт", яны "ажыццяўляюць легальную выведку" і іншыя дзеянні, "накіраваныя на ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Рэспублікі Беларусь". Гэта прагучала з вуснаў чалавека, якога прадставілі як супрацоўніка ўпраўлення контрвыведкі КДБ.

**8 лютага** ў інтэрв'ю **БелаПАН** прэс-сакратар амбасады Польшчы Моніка Садкоўска заявіла, што такія выказванні адпавядаюць агульнай палітыцы беларускіх уладаў у дачыненні да суседняй краіны. "Гэта ўжо не першая праграма, у якой беларускія ўлады спрабуюць прадставіць Польшчу як ворага Беларусі. Падобныя абвінавачанні таксама неаднаразова гучалі на адрас амбасадаў іншых краін Еўрапейскага Саюзу". Спн. Садкоўска не выключае, што гэта "ў нейкай ступені звязана з выбарамі прэзідэнта, якія пройдуць у Беларусі ў сакавіку".

**8 лютага** актывіст грамадскага аб’яднання “Саюз палякаў Беларусі”, рэдактар часопіса **“Magazyn Polski” ў эміграцыі”** Андрэй Пачобут звярнуўся ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Ён патрабаваў тлумачэнняў з нагоды зместу праграмы "Комментарий дня", паказанай напярэдадні ў эфіры **Першага нацыянальнага тэлеканала** Беларусі. А.Пачобут прасіў пракуратуру прыцягнуць да адказнасці за распальванне нацыянальнай варожасці аўтара праграмы Юрыя Пракопава.

“У кадрах гэтай перадачы быў паказаны знявечаны чорнымі зоркамі герб Польскай Рэспублікі. Гэта непавага да нацыянальных сімвалаў суседняй краіны, гэта закранула мяне як этнічнага паляка. Я лічу, што такія кадры і каментары да іх спрыяюць распальванню нацыянальнай варожасці”, - заявіў А.Пачобут.

**14 лютага** амбасада ЗША на Беларусі выступіла з афіцыйнай заявай, у якой выказала глыбокую занепакоенасць у сувязі з нядаўнімі артыкуламі і передачамі, у якіх беларускія дзяржаўныя СМІ зрабілі некаторыя заявы і высновы ў дачыненні да ўраду ЗША. Найбольшае незадавальненне выказанае на адрас праграмы **Першага нацыянальнага тэлеканала** “Агент 590”, якая выйшла ў эфір **7 лютага** і ў якой ішла гаворка пра нібыта фінансаванне ўрадам ЗША дзеянняў, скіраваных на дыскрэдытацыю Беларусі ў вачах сусветнай супольнасці. Амбсада ЗША нагадала, што ўся дыпламатычная дзейнасць вядзецца адкрыта і празрыста, а беларускі ўрад рэгулярна атрымлівае інфармацыю аб праграмах і дзеяннях амбасады. Таксама амбасада ЗША выказала шкадаванне, што ўрад Беларусі імкнецца да фактычнага захавання манаполіі на прадастаўленне інфармацыі беларускаму грамадству.

**20 лютага** амбасада Чэхіі распаўсюдзіла прэс-рэліз, у якім выказала глыбокую занепакоенасць з нагоды агучаных беларускім тэлебачаннем "ілжывых сцвярджэнняў і высноваў адносна дзейнасці дыпламатычнай місіі ў Мінску". Нагодай для заявы была агучаная **19 лютага** інфармацыя, якая дыскрэдытавала Чэхію і амбасаду Чэхіі ў Рэспубліцы Беларусь. Журналісты БТ гаварылі пра распаўсюд амбасадай агітацыйных матэрыялаў для прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Амбасада ж сцвярджала, што яна распаўсюджвала буклеты з тэкстам Рэзалюцыі ААН № 13/2005 на беларускай мове, раней надрукаваным і ўзгодненым Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый. У сваёй заяве амбасада Чэхіі падкрэсліла, што праўдзівая і незалежная інфармацыя з’яўляецца ўмовай дэмакратыі, і заклікала беларускае тэлебачанне даносіць да беларусаў аб'ектыўную інфармацыю.

**21 лютага** з 18.30 да 19 гадзін у эфіры **Першага нацыянальнага тэлеканала** павінен быў трансляваціца тэлезварот да выбарнікаў кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі. Аднак кіраўнік дзяржавы адмовіўся ад тэлевыступу. Прычыны такога кроку прэс-сакратар ініцыятыўнай групы А.Лукашэнкі Дзмітрый Косцін патлумачыць не змог. У заяўлены час замест тэлевыступу **Першы нацыянальны тэлеканал** дэманстраваў стужку "Теория заговора. Управляемый хаос" з прапагандысцкага тэлецыклу Юрыя Азаронка "Духовная война".

Ад **21 лютага** тэлеканал **СТВ (ЗАТ “Сталічнае тэлебачанне”)** аднавіў паказ беларускага прапагандысцкага серыялу "Новейшая история" на частотах расійскага тэлеканала "Россия". У прыватнасці, 21 лютага замест прэм’еры дакументальнай стужкі "Мир после Освенцима" была прадэманстравана першая серыя беларускага серыяла. Таксама замест штодзённай выніковай праграмы навін тэлеканала "Россия" "Вести+" у эфір была выпушчана новая беларуская праграма "Политика", якую вядзе Юрый Казіятка.

**26 лютага** ў эфіры **Першага нацыянальнага тэлеканала** былі паказаныя загадзя падрыхтаваныя пратаколы апытанняў, якія мусілі праводзіцца падчас будучых прэзідэнцкіх выбараў 19 сакавіка. Бюлетэні exit-polls, нібыта праведзеныя Балтыйскім філіялам службы Гэлапа, былі канфіскаваныя ў офісе незарэгістраванай арганізацыі “Партнёрства”. Паводле бюлетэняў, А.Мілінкевіч набраў 53,7% галасоў, А.Лукашэнка - 41,3% галасоў, А.Казулін – 3,8%, а С.Гайдукевіч – 1, 2%.

Дырэктар Балтыйскага філіялу "Gallup Organization" Раса Алішаўскене заявіла агенцтву "Балтыйская служба навінаў BNS", што кіраваны ёй цэнтр не мае ніякага дачынення да дадзеных экзіт-полаў, якія дэманстраваліся па беларускім тэлебачанні. Прадэманстраваны тэлебачаннем бланк не з'яўляецца бланкам, які выкарыстоўвае Балтыйскі філіял службы Гэлапа. Гэтая служба, паводле Расы Алішаўскене, не збіраецца праводзіць экзіт-полаў падчас прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

**8 сакавіка Першы нацыянальны тэлеканал** паказаў канцэрт беларускага гурта "Сябры", які выканаў песню "Слушай Батьку!" Кіраўнік калектыва Анатоль Ярмоленка адмовіў палітычны падтэкст песні і заявіў, што яна была напісаная загадзя, а яе выкананне проста супала з кампаніяй па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*(Тэкст песні "Слушай Батьку!" напісаў расійскі паэт Яўген Мураўёў:*

Ладно сшит и крепко сложен,
Он плохому не научит.
Батька всех построить может,
Батька всех других покруче.
Разведет легко обиды,
Он надежен и спокоен.
Только глянет — сразу видно,
Кто у нас хозяин в доме.
Прыпеў:
На-на-на-на-на-на…
Слушай батьку!
Утром, ночью, и днем…
Слушай батьку!
Если плохо тебе…
Слушай батьку!
Если все хорошо…
Слушай батьку!)

Газета **"Брестский вестник"** напярэдадні выбараў выйшла накладам 100 тысяч асобнікаў. Гэтае выданне, заснавальнікам якой з'яўляецца Брэсцкі гарвыканкам, фінансуецца за кошт гарадскога бюджэту, і яго звычайны наклад не перавышае 4 тысяч асобнікаў. Нумар, які выйшаў **у сярэдзіне сакавіка**, быў надрукаваны 100-тысячным накладам і распаўсюджваўся бясплатна па паштовых скрынках жыхароў гораду.

**15 сакавіка** газета **"Советская Белоруссия"** выйшла накладам 800 тысяч асобнікаў замест звычайных 502 тысяч. Нумар газеты, адным з заснавальнікаў якой выступае Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, атрымалі нават тыя, хто яе не выпісвае. Згаданы выпуск быў прысвечаны Дню Канстытуцыі. Прамых заклікаў галасаваць за А.Лукашэнку ці супраць апазіцыйных кандыдатаў у ім не было, аднак матэрыялы ўтрымлівалі выказванні наступнага характару: "...У сённяшняй Беларусі ствараюцца і ўдасканальваюцца ўмовы для добрага і чыстага жыцця... І вось усё гэта – спакойнае жыццё сёння і ясную перспектыву на заўтра – у нас хочуць забраць. Не, не вайной, як гэта было ў 1941 годзе, а праз выбарчую скрыню, з дапамогай "палітычных тэхналогій", якія прасоўваюцца тымі, хто атрымаў за мяжой квіток і замову на змену нашага жыцця. Яны, зрэшты, з усіх сіл спрабуюць пераканаць, што іх намеры чыстыя, што імі рухае ўсяго толькі адданасць дэмакратыі, што яны здольныя змяніць жыццё да лепшага. Але хто ў гэта здольны паверыць? Альбо неадукаваны чалавек, альбо такі ж авантурыст, альбо недасведчаны падлетак".

**13 красавіка** Міністэрства замежных спраў Беларусі заявіла, што лічыць спыненне рэтрансляцыі праграм **БТ** на літоўскай тэрыторыі парушэннем двухбаковых

пагадненняў. А гэта, як гаварылася ў заяве, супярэчыць Дэкларацыі аб прынцыпах добрасуседскіх дачыненняў і Дамове аб добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж РБ і Літоўскай Рэспублікай, у адпаведнасці з якімі літоўцам у Беларусі беларусам у Літве прадастаўляюцца правы і свабоды, роўныя правам і свабодам грамадзян абедзьвюх краін.

(Камісія па тэлебачанні і радыё Літвы ў красавіку 2006 г. забараніла аператарам кабельнага тэлебачання рэтрансляцыю беларускага дзяржаўнага тэлебачання ў сувязі з “негатыўнымі каментарамі аб Літоўскай рэспубліцы і яе кіруючых асобах, а таксама дэзынфармацыяй тэлегледачоў”).

**13 чэрвеня** візавы аддзел Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Гродна адмовіўся выдаць візу кіраўнікам карпункту **АТН** (Агенцтва тэлевізійных навінаў, Першы нацыянальны канал) Мікалаю Мельячэнку. Не атрымаў візы і кіраўнік упраўлення ідэалогіі Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Амелька. М. Мельячэнка з'яўляецца аўтарам шматлікіх тэлесюжэтаў, якія, на думку польскага боку, распальваюць міжнацыянальную варожасць. Таксама ён выступаў сведкам па крымінальнай справе ў дачыненні да актывістаў непрызнанага ўладамі Саюзу палякаў Беларусі (у прыватнасці, журналістаў Андрэя Пачобута і Анжэя Пісальніка).

**24 кастрычніка** студэнтку другога курса факультэта журналістыкі БДУ Дар’ю Румянцаву выклікала на размову намеснік дэкана па ідэалогіі Ганна Курэйчык. Сярод іншага яна папрасіла студэнтку напісаць тлумачальную пра адсутнасць на занятках з 2 па 6 кастрычніка: Д. Румянцава ў гэтыя дні брала ўдзел у трэнінгу, што праводзіла ў Варшаве Беларуская школа журналістыкі. Аднак такі змест тлумачальнай не задаволіў кіраўніцтва журфака, і ў прысутнасці дэкана факультэта Сяргея Дубовіка студэнтка мусіла напісаць новую, дзе пазначыла, што наўмысна прагуляла заняткі, чым парушыла ўнутраны распарадак установы. Таксама з яе ўзялі пісьмовае тлумачэнне, што яна не пакіне межаў Беларусі без адмысловага дазволу Міністэрства адукацыі. Падобныя распіскі напісалі яшчэ каля 10 студэнтаў, якія навучаліся на трэнінгу ў Польшчы.

**14 лістапада** стала вядома, што міністр інфармацыі Беларусі ўручыў ганаровы знак "Выдатнік друку Беларусі" начальніку ўпраўлення ідэалагічнай работы Гродзенскага аблвыканкаму Уладзіміру Амельку. Пры гэтым раней чыноўнік не быў заўважаны як практыкуючы журналіст, але ж за час яго знаходжання на гэтай пасадзе спынілі выхад практычна ўсе недзяржаўныя газеты вобласці: **“Пагоня”, “День”, “Биржа информации”, “Новая газета Сморгони”, ваўкавыская “Местная газета”, “Тэлескоп”** і іншыя.

(Упраўленне ідэалогіі на чале з У. Амелькам брала непасрэдны ўдзел у правядзенні паўторнага з'езду і абранні лаяльнага да ўладаў кіраўніцтва Саюзу палякаў Беларусі. Асабіста сп. Амелька курыруе дзейнасць СМІ і грамадскіх арганізацый).

# Гучныя справы

# Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ

**У канцы лютага** старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька накіраваў у суд Першамайскага раёна Мінска зыск аб абароне гонару, годнасці, дзелавой рэпутацыі і кампенсацыі маральных стратаў да **Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі** і аўтараў дакументальнага фільма "Теория заговора. Управляемый хаос". Нагодай для звароту ў суд стаў паказ на Першым нацыянальным тэлеканале **20 і 21 лютага** згаданага фільма, адной з дзеючых асобаў якога з'яўляецца А. Лябедзька. Палітык палічыў паклёпніцкімі і зневажальнымі для сябе фразы: "Теперь уже белорусские оппозиционеры подобострастно выслушивают инструкции разжиревших на революции кавказских парней", "Камера фиксирует его встречу с Анатолием Лебедько, который тоже хочет попробовать вывести на улицу обезумевшую толпу", а таксама агучанае дыктарам нібыта яго выказванне: "Мы не остановимся перед тысячами жертв". Лідэр АГП патрабаваў прызнаць распаўсюджаныя ў стужцы звесткі не адпаведнымі рэчаіснасці, абавязаць аўтараў фільма іх абвергнуць, а таксама спагнаць з Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі і аўтараў фільма 1 млрд. рублёў у якасці кампенсацыі маральных стратаў.

**6 красавіка** суд Першамайскага раёна г. Мінска пачаў разгляд зыску і задаволіў хадайніцтва А. Лябедзькі аб выкліку на слуханні старшыні Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі А. Зімоўскага.

**7 красавіка** ў судзе А. Зімоўскі прызнаў, што з'яўляецца адным з аўтараў згаданага фільма, аднак заявіў, што не прызнае зыскавых патрабаванняў А. Лябедзькі. Ён палічыў, што распаўсюджаныя звесткі не з'яўляюцца зневажальнымі для лідэра АГП, паколькі "не звязаныя ні з А. Лябедзькам, ні з яго дзейнасцю". На просьбу паведаміць суду, адкуль у распараджэнне БТ трапіла выкарыстаная ў фільме відэастужка, сп. Зімоўскі заявіў, што яе прадаставіў невядомы яму дагэтуль грамадзянін "на ўмовах ананімнасці". У судзе быў таксама прадэманстраваны фрагмент зыходнага відэаматэрыялу, які быў выкарыстаны ў фільме. У ім А. Лябедзька размаўляе за сталом з двума людзьмі (як патлумачыў палітык у судзе - з грузінскімі парламентарамі). Размова вялася па-руску, аднак фрагмент "зыходніка" суправаджаўся закадравым тэкстам на англійскай мове. 7 красавіка супрацоўнікі БТ прадаставілі па просьбе суда пераклад гэтага тэксту.

А. Лябедзька звярнуў увагу суддзі на тое, што гэты тэкст не супадае з тым, які пачулі гледачы фільма з вуснаў дыктара ў фільме "Теория заговора…". На пытанне, чаму аўтары не далі героям фільма самастойна агучыць свае думкі, сп. Зімоўскі заявіў, што гутарку па-руску немагчыма было "выцягнуць" тэхнічна, і таму журналісты самастойна выклалі яе змест, "прычым стараліся рабіць гэта нейтральна".

**10 красавіка** зыск лідэра АГП быў адхілены ў поўным аб'ёме. Суд вырашыў, што адказчыкі даказалі праўдзівасць звестак, распаўсюджаных імі ў фільме "Теория заговора. Управляемый хаос", і палічыў, што гэтая інфармацыя не была зневажальнай для А. Лябедзькі.

**20 красавіка** ў гаспадарчым судзе Віцебскай вобласці пачаўся разгляд зыску аб абароне дзелавой рэпутацыі Віцебскага домабудаўнічага камбіната да недзяржаўнай газеты **"Витебский курьер М"**. Нагодай для зыску стаў артыкул у нумары ад

21.03.2006 "Дыктатура ўлады". Яго аўтарка, журналістка Таццяна Чабатарова, сцвярджала, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў на прадпрыемстве выйшаў адмысловы загад №153, у якім дырэктар Анатоль Стрык даваў кіраўнікам розных службаў указанні весці агітацыйную прапаганду за "мэтазгоднасць датэрміновага галасавання і аказання падтрымкі дзейнаму прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку". Юрысконсульт дзяржаўнага прадпрыемства сцвярджаў, што такога загаду ніколі не існавала. Карэспандэнтка, у сваю чаргу, заявіла, што валодае ксеракопіяй гэтага дакумента, хаця і не можа назваць імя чалавека, які прынёс яго. (Ксеракопія дагэтуль размешчана на сайце: **http://www.belnews.info/2006/03/17/zagad_pa_vtsebskamu_dsk**).

**5 траўня** зыск Віцебскага домабудаўнічага камбіната быў адхілены.

**21 чэрвеня** суд Ленінскага раёна г. Мінска пастанавіў аштрафаваць карэспандэнта расійскай газеты **"Коммерсантъ",** беларускага журналіста Вадзіма Доўнара на 1 базавую велічыню (31 тысяча рублёў), прызнаўшы яго вінаватым у дробным хуліганстве.

Журналіст быў затрыманы **21 красавіка** ў цэнтры Мінска: ён ішоў па вуліцы К. Маркса, калі яго спынілі людзі ў цывільным (як пазней высветлілася – супрацоўнікі прэзідэнцкай аховы). Праверыўшы ў журналіста дакументы, яны выклікалі міліцэйскую машыну, і В. Доўнара даставілі ў РУУС Ленінскага раёна г. Мінска. Журналіста пратрымалі ў міліцыі некалькі гадзін, а пасля выклікалі да следчага, які склаў рапарт аб тым, што журналіст нібыта быў у нецвярозым стане, зневажаў кіраўніка дзяржавы і выкрыкваў антыўрадавыя лозунгі. Пасля гэтага В. Доўнара зноў змясцілі ў камеру, забраўшы рэмень і матузкі ад абутку. Праз некаторы час журналісту прад'явілі іншы пратакол, у якім яго звінавачвалі ў нецэнзурнай лаянцы (арт. 156 КаАП – дробнае хуліганства). Затым журналіста адпусцілі, прадпісаўшы праз некалькі дзён з'явіцца для судовага разгляду справы.

**28 красавіка** суддзя Ленінскага раённага суда адтэрмінавала слуханні, накіраваўшы матэрыялы справы на дапрацоўку ў РУУС Ленінскага раёна г. Мінска. У судзе выявілася, што дадзеныя рапартаў і пратакола разыходзяцца (першыя ўказваюць на артыкул Крымінальнага кодэксу, другія - на адміністратыўнае правапарушэнне).

Канчатковае рашэнне было прынята толькі праз 2 месяцы - **21 чэрвеня.** Судовыя слуханні доўжыліся не больш за 7 хвілін: суддзя заслухала паказанні супрацоўніка прэзідэнцкай аховы Іллі Плотнікава, які 21 красавіка спыніў журналіста і выклікаў міліцыю. (Пра тое, дзе афіцыйна працуе сп. Плотнікаў, журналіст даведаўся з міліцэйскага рапарту: у судзе той заявіў, што "гэта службовая таямніца"). Сп. Плотнікаў заявіў, што В. Доўнар на вуліцы лаяўся матам і зневажаў кіраўніка дзяржавы.

**18 траўня** суд Ленінскага раёна г. Мінска спыніў вытворчасць па адміністратыўнай справе ў дачыненні да моладзевай актывісткі Алесі Сіўчыкавай, якая падазравалася ў знявазе журналіста БТ Дзяніса Бальшакова. У сакавіку Д. Бальшакоў быў аўтарам шэрагу сюжэтаў на **Першым нацыянальным тэлеканале** - у тым ліку і таго, у якім сцвярджалася, што жыхары намётавага гарадку на Кастрычніцкай плошчы нібыта мелі пры сабе порначасопісы і наркотыкі. А. Сіўчыкава напісала яму SMS-паведамленне наступнага зместу: "Дзяніс. Выдатная ідэя з наркотыкамі і порна. Студэнты журфаку на Акрэсціна цябе ніколі не забудуць!" Журналіст палічыў, што гэтае паведамленне зневажае яго, пасля чаго была ўзбуджана адміністратыўная справа па артыкуле 156 ч.3 КаАП (дробнае хуліганства). Аднак суддзя не ўбачыла ў дзеяннях адказчыцы складу правапарушэння.

**22 чэрвеня** суд Савецкага р-на г. Мінска часткова задаволіў зыск кіраўніка Дзяржаўнага мытнага камітэту Беларусі Аляксандра Шпілеўскага да выдаўца газеты **“Комсомольская правда в Белоруссии”** - ЗАТ "БелКП-ПРЕСС", пастанавіўшы спагнаць з яго 60 млн. рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды. Нагодай для зыску сталася памылковае апублікаванне фотаздымку А. Шпілеўскага ў "таўстушцы" ад **4 траўня**. У рубрыцы "Цытата тыдня" было змешчана выказванне Мікалая Шпілеўскага (агента беларускага футбаліста Аляксандра Глеба), якое з-за тэхнічнай памылкі праілюстравалі фотаздымкам Аляксандра Шпілеўскага. Кіраўніцтва рэдакцыі адразу ж звязалася з прэс-службай А. Шпілеўскага і папрасіла прабачэння. У наступным нумары "таўстушкі" былі апублікаваныя пісьмовыя тлумачэнні гэтай недарэчнай сітуацыі - у той форме, у якой пажадаў іх убачыць "пакрыўджаны бок".

Канфлікт нібыта быў улагоджаны, і таму для журналістаў стала поўнай нечаканасцю, калі праз некалькі тыдняў А. Шпілеўскі падаў зыск аб абароне гонару, годнасці, дзелавой рэпутацыі і кампенсацыі маральнай шкоды на суму 80 млн. рублёў. Выказванне М. Шпілеўскага, каля якога памылкова з'явіўся фотаздымак кіраўніка мытнага камітэту, было цалкам нейтральным і тычылася выключна спартовай тэматыкі. У рэдакцыі не разумеюць, чым газета нанесла такі "каласальны маральны ўрон" дзяржаўнаму чыноўніку.

Касацыйная скарга рэдакцыі была адхіленая судом **24 жніўня.**

**11 ліпеня** газета **“Комсомольская правда в Белоруссии”** са спасылкай на Пракуратуру РБ паведаміла пра ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць кіраўніка тэлеканала **ОНТ** (ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал") Рыгора Кісяля. "Размова ідзе ці то аб прысваенні, ці то аб растраце дзяржаўных грошай - дакладную фармулёўку і артыкул, па якім узбуджана крымінальная справа, у пракуратуры пакуль не называюць", - паведаміла **"КП в Белоруссии".** Выданне звязала гэты факт з фінансавай праверкай ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал" і кампаніі "Тэлефільм".

**19 ліпеня** дзяржаўнае агенцтва БелТА паведаміла, што Рыгор Кісель падаў у суд Савецкага раёна г. Мінска зыск да заснавальніка газеты **“Комсомольская правда в Белоруссии”** (ЗАТ "БелКП-ПРЕСС") аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі. Ён запатрабаваў абвяржэння распаўсюджаных у газеце звестак, а таксама кампенсацыі маральнай шкоды: з заснавальніка выдання – 1 мільярд рублёў, а з аўтаркі нашумелай публікацыі Наталлі Крывец – 10 рублёў.

Аднак судовага разгляду справы так і не адбылося.

**26 ліпеня** суд Кастрычніцкага раёна г. Віцебска пачаў разглядаць зыск да выдаўца недзяржаўнай газеты **“Витебский курьер М”** і журналіста гэтага выдання. З зыскам аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі ў суд звярнуўся віцебскі прадпрымальнік Аляксандр Данілаў. Нагодай для зыску стаў артыкул "Плошча Свабоды для вузкага кола асоб", надрукаваны ў нумары газеты ад 14.04.2006. Яго аўтар - Сцяпан Старажыл - паставіў пад сумнеў законнасць рашэння гарвыканкама аб адводзе зямельнага ўчастка грамадзяніну А. Данілаву для будаўніцтва Цэнтра моладзевага адпачынку. А.Данілаў заявіў, што гэтыя звесткі не адпавядаюць рэчаіснасці, і запатрабаваў абвергнуць інфармацыю, ацаніўшы свой маральны ўрон у 35 мільёнаў рублёў.

**6 верасня** суд часткова задаволіў зыск, пастанавіўшы спагнаць з выдаўца газеты 1 мільён 500 тысяч рублёў, а з журналіста - 150 тысяч рублёў. Таксама выданне абавязалі кампенсаваць судовыя выдаткі і надрукаваць абвяржэнне.

**16 жніўня** разгляд судовай справы па зыску супраць рэдакцыі недзяржаўнай газеты **“Intex-press”** (Баранавічы) скончыўся на карысць выдання. Суд адхіліў зыск, з якім звярнуўся да рэдакцыі выдання дырэктар ААТ "Баранавіцкая абутковая фабрыка" Вячаслаў Тумашчык.

Нагодай для звароту ў суд стала публікацыя ў рубрыцы "Служба 02" паведамлення аб узбуджэнні супраць В. Тумашчыка крымінальнай справы (паведамленне рыхтавалася на падставе інфармацыі прэс-службы Баранавіцкага ГАУС і аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Брэсцкага аблвыканкама).

В. Тумашчык палічыў, што **“Intex-press”** зняважыла яго гонар і годнасць, распаўсюдзіўшы гэтую інфармацыю. Ён сцвярджаў, што ніколі не прыцягваўся да адказнасці, і за маральныя страты патрабаваў 10 мільёнаў рублёў кампенсацыі. Першае судовае слуханне па гэтай справе адбылося **3 жніўня**.

**28 жніўня** старшыня асацыяцыі "Сталічнае таксі" Ігар Верхавец падаў у суд Ленінскага раёна г. Мінска зыск аб абароне гонару і годнасці да рэдакцыі газеты **“Товарищ”** і прафсаюзнага актывіста Паўла Паддубскага. Нагодай для звароту ў суд стаў артыкул П.Паддубскага пад назвай "Прыехалі ў прыгоннае права", апублікаваны ў нумары выдання ад 9.06.2006. У сваім матэрыяле прафсаюзны актывіст расказваў аб праблемах, з якімі сутыкнуліся таксісты ў Мінску пасля змянення правілаў перавозкі пасажыраў, і выказваў меркаванне, што новыя правілы выгадныя толькі буйным манапалістам на гэтым рынку працы. І.Верхавец згадваўся ў артыкуле ў наступным кантэксце: "...Сярод таксістаў існуе меркаванне, што сітуацыя, якая склалася, яму (І. Верхаўцу - прым. прэс-службы БАЖ) выгадная". Зыскоўца палічыў такое меркаванне абразлівым і запатрабаваў кампенсацыю: 15 млн. рублёў ад газеты і 15 млн. рублёў - ад аўтара артыкула.

**4 кастрычніка** судовая справа па зыску скончылася на карысць адказчыкаў. Суддзя Таццяна Жулкоўская прыняла рашэнне адхіліць зыск, матывоваўшы гэта тым, што Канстытуцыя гарантуе кожнаму свабоду меркаванняў і палічыўшы, што газета **“Товарищ”** дала магчымасць выказаць свой пункт гледжання некаторым мінскім таксістам.

**8 лістапада** Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск рэдакцыі часопіса **“ARCHE. Пачатак”** да Міністэрства інфармацыі. Нагодай для зыску стала пісьмовае папярэджанне рэдакцыі і прыпыненне выхаду выдання тэрмінам на тры месяцы загадам міністра інфармацыі ад **19 верасня**. У абодвух дакументах сцвярджалася, што, надрукаваўшы артыкулы грамадска-палітычнага характару ў № 9 (49) за 2006 г., часопіс **“ARCHE. Пачатак”** змяніў тэматыку (спецыялізацыю), не паведаміўшы аб гэтым у вызначаны тэрмін Мінінфармацыі для ўнясення адпаведнага змянення ў рэгістрацыйнае пасведчанне (парушэнне арт. 11 закона “Аб друку і іншых СМІ). Фармальнай нагодай для санкцый стала апублікаванне ў рубрыцы “Гісторыя” ўспамінаў пра беларускую палітычную рэальнасць пачатку 90-х гадоў Сяргея Навумчыка ды іншых дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12-га склікання. Аднак, па меркаванні галоўнага рэдактара часопісу Валера Булгакава, сапраўднай прычынай прыпынення з’яўляецца вокладка часопісу № 9 (49) за 2006 г. (**http://arche.bymedia.net/2006-9/num906.htm)** з выявамі твараў работнікаў спецслужбаў, якія выціскаюць дэманстрантаў з праспекту ў Мінску падчас падзеяў 25 сакавіка 2006 г.

Рэдакцыя часопіса звярнулася ў суд з патрабаваннем да Мінінфармацыі адмяніць папярэджанне аб парушэнні закону і ўказ аб прыпыненні выхаду выдання.

**18 кастрычніка** адбылося папярэдняе слуханне па зыску. **4 лістапада** ў Вышэйшым гаспадарчым судзе пачаўся разгляд, а **8 лістапада** суддзя Мікалай Мадудзін прыняў рашэнне адхіліць зыск.

(**Нагадаем: 26 верасня** Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" накіравала зварот да міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча ў сувязі з прыпыненнем дзейнасці часопіса. У афіцыйным лісце патрабуецца адмяніць загад аб прыпыненні дзейнасці выдання і пісьмовае папярэджанне рэдакцыі. "Вынясенне санкцый за змест сродку масавай інфармацыі пры адсутнасці з боку рэдакцыі злоўжыванняў свабодай масавай інфармацыі з'яўляецца, на наш погляд, умяшаннем у дзейнасць і парушэннем прафесійнай самастойнасці рэдакцыі, што ў адпаведнасці з арт. 48 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" прызнаецца замахам на свабоду масавай інфармацыі," – гаварылася ў звароце БАЖ. Прадстаўнікі арганізацыі падкрэслівалі, што "пазасудовае прыпыненне дзейнасці СМІ органам выканаўчай улады парушае міжнародна-прававыя абавязкі Рэспублікі Беларусь": у прыватнасці, арт. 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Беларуссю, і аналагічныя правілы, замацаваныя ў Канвенцыі СНД аб правах і асноўных свабодах чалавека.

"З'яўленне матэрыялаў грамадска-палітычнага характару ў любым сродку масавай інфармацыі яшчэ не сведчыць аб змяненні яго тэматыкі, - лічаць прадстаўнікі БАЖ. "У беларускім заканадаўстве не замацавана, які аб'ём нумару можа быць адведзены пад матэрыялы таго ці іншага характару... Гэта пацвярджаецца і тым, што, паводле арт. 10 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", што заснавальнік у заяве аб рэгістрацыі СМІ павінен указваць прыкладную, а не дакладную тэматыку і (альбо) спецыялізацыю СМІ".)

# Справа Дзмітрыя Завадскага

Дзмітрый Завадскі, аператар расійскага тэлеканала "ОРТ", знік без вестак **7 ліпеня 2000 г.** Ён паехаў у аэрапорт "Мінск-2" сустрэць свайго калегу - журналіста Паўла Шарамета. Аднак на стаянцы аэрапорту Шарамет знайшоў толькі пустую машыну Завадскага. **14 сакавіка 2002 г.** Мінскі абласны суд прызнаў вінаватай у выкраданні журналіста групу былога супрацоўніка спецпадраздзялення "Алмаз" Валерыя Ігнатовіча, асудзіўшы двух чалавек (В. Ігнатовіча і М. Маліка) на пажыццёвае зняволенне, а яшчэ некалькіх - на розныя тэрміны пазбаўлення волі. (Паводле абвінавачання, матывам злачынства сталася помста: Завадскі публічна абвінаваціў Ігнатовіча ва ўдзеле ў чачэнскай вайне на баку баявікоў). Асуджаныя не прызналі сваёй віны ні па адным з эпізодаў. **27 лістапада 2003 г.** суд Фрунзенскага раёна г. Мінска прыняў рашэнне аб прызнанні зніклага журналіста памерлым. Следства па справе Завадскага некалькі разоў прыпынялі і зноў аднаўлялі, аднак выніку яно не прынесла.

**31 сакавіка** расследаванне крымінальнай справы аб выкраданні журналіста Дзмітрыя Завадскага было ў чарговы раз прыпынена. Пра гэта маці журналіста Вольга Завадская даведалася толькі **ў траўні** - з ліста намесніка начальніка аддзелу па расследаванні справаў аб карупцыі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, малодшага дарадцы юстыцыі Івана Бранчаля. Паводле дакумента, “уголовное дело, возбужденное по факту исчезновения Дмитрия Завадского, приостановлено **31 марта** 2006 по п.6 ч.1 ст. 246 УПК РБ в связи с необнаружением бесследно исчезнувшего лица”.

**10 траўня** Міжнародная праваабарончая арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" выказала абурэнне з нагоды чарговага прыпынення расследавання справы. Праваабаронцы нагадалі, што неаднаразова заклікалі беларускія ўлады пачаць незалежнае расследаванне.

**30 траўня** на прэс-канферэнцыі ў Мінску генеральны пракурор РБ Пётр Міклашэвіч заявіў, што падначаленае яму ведамства "працягвае пошукі Дзмітрыя Завадскага". "На гэты момант месцазнаходжанне Дзмітрыя Завадскага не ўстаноўлена, але пракуратура Беларусі працягвае яго пошук. І раней праводзіліся праверкі шэрагу эпізодаў па дадзенай справе, і яны праводзяцца і цяпер. Месцазнаходжанне Дзмітрыя Завадскага высветліць не ўдалося", - адзначыў П. Міклашэвіч на сустрэчы з журналістамі 30 траўня.

Каментуючы гэтае выказванне, намеснік старшыні ГА “БАЖ”, юрыст Андрэй Бастунец падкрэсліў, што Пракуратура РБ не звяртае ўвагі на рашэнне суда аб прызнанні Завадскага памерлым (27 лістапада 2003 г., суд Фрунзенскага раёна) і не ставіць пытання аб узбуджэнні справы аб забойстве журналіста: "Генеральны пракурор, здаецца, наўмысна акцэнтуе ўвагу на пошуках "месцазнаходжання Завадскага", быццам бы гаворка ідзе пра жывога чалавека. Складваецца ўражанне, што пытанне аб яго магчымым забойстве (а тым самым - аб прыцягненні да адказнасці вінаватых у гэтым злачынстве) пракуратурай ігнаруецца".

**30 чэрвеня** ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” распаўсюдзіла заяву напярэдадні 6-й гадавіны бясследнага знікнення журналіста Дзмітрыя Завадскага. “…ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", выказваючы меркаванне больш як тысячы сваіх сябраў, настойліва патрабуе ад кампетэнтных праваахоўных органаў узбудзіць і правесці ў поўным аб'ёме расследаванне ўсіх абставін знікнення журналіста Дзмітрыя Завадскага. Мы не супакоімся да таго часу, пакуль не даведаемся ўсёй праўды пра гэтае агіднае злачынства, пакуль не будуць названыя імёны яго натхняльнікаў і выканаўцаў. Мы памятаем і заўсёды будзем памятаць свайго калегу і сябра Дзіму Завадскага”, - гаварылася ў заяве (**http://www.baj.ru/news/?id=2**).

**7 ліпеня,** у 6-ю гадавіну знікнення журналіста, у Мінску прайшла акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей": каля 18.30 некалькі дзесяткаў чалавек - калегі, знаёмыя, блізкія Дзмітрыя Завадскага, сябры моладзевых арганізацый - сабраліся на Кастрычніцкай плошчы і паспрабавалі разгарнуць партрэты журналіста і зніклых без вестак апазіцыйных палітычных дзеячоў. Аднак байцы міліцэйскага спецназу ў форме і ў цывільным выціснулі сабраных з плошчы.

Акцыю падтрымалі і ў іншых гарадах краіны: у Магілёве на рэкламных шчытах і тумбах грамадскія актывісты расклеілі ўлёткі з напамінам аб тым, што злачынцы, якія выкралі журналіста, не знойдзеныя і не пакараныя.

У Брэсце паўтара дзесяткі актывістаў апазіцыі расцягнуліся ўздоўж адной з цэнтральных вуліц горада - Пушкінскай, трымаючы ў руках партрэты журналіста. Яны раздавалі мінакам кніжку "Рэаліі беларускай журналістыкі", выдадзеную Фондам імя Дзмітрыя Завадскага.

У Гродна па ініцыятыве актывістаў Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі 7 ліпеня была зладжана акцыя "Салідарнасць у імя свабоды". Каля 17.30 дзесятак маладых людзей з запаленымі свечкамі стаялі на Савецкай плошчы. Амаль адразу ж да іх падышлі супрацоўнікі міліцыі і загадалі разыходзіцца. Удзельнікі акцыі не падпарадкаваліся, і сямёра з іх былі затрыманыя міліцыяй. Яны правялі 2 гадзіны ў РУУС Ленінскага раёна Гродна: з іх узялі тлумачэнні, пасля чаго адпусцілі.

**30 жніўня** расійскі **"Первый канал"** агучыў імёны лаўрэатаў штогадовай прэміі імя Дзмітрыя Завадзкага "За мужнасць і прафесіяналізм": у 2006 годзе імі сталі беларускія журналісты Андрэй Дынько (галоўны рэдактар газеты **"Наша Ніва"),** Юлія Дарашкевіч (фотакарэспандэнт газеты **"Наша Ніва"**) і Алег Улевіч (карэспандэнт газеты **"Комсомольская правда в Белоруссии"**). Прэмію заснавала шэсць гадоў таму ААТ **"Первый канал",** дзе працаваў Дзмітрый. Гэтую ідэю падтрымала таксама ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", якая штогод бярэ ўдзел у абмеркаванні кандыдатаў на лаўрэаты: спачатку кандыдатуры абмяркоўваюцца Праўленнем БАЖ, а потым іх разглядае Рада дырэктараў **"Первого канала".**

Уручэнне прэміі адбылося ў Мінску **11 верасня.** Прэміі ўручаў Павел Шарамет, кіраўнік аддзела спецпраектаў **"Первого канала"**, калега Д. Завадскага.

# Справа Веранікі Чаркасавай

Журналістка недзяржаўнай газеты **"Салідарнасць" Вераніка Чаркасава** была жорстка забітая **20 кастрычніка 2004 г.** у сваёй кватэры ў Мінску. Яе цела са шматлікімі нажавымі раненнямі знайшлі 15-гадовы сын журналісткі Антон Філімонаў і яе айчым Уладзімір Мялешка. На допыце **19 лістапада** ім паведамілі, што са сведкаў яны сталі падазраванымі. У пастанове пракуратуры было пазначана, што апэратыўным шляхам атрыманая інфармацыя, якая сведчыць пра дачыненне Філімонава і Мялешкі да забойства журналісткі. Асноўнай версіяй было вызначана забойства на побытавай глебе. Між тым, у выніку журналісцкага расследавання, якое правёў журналіст Сяргей Сацук, была здабытая інфармацыя, якая дае падставы меркаваць, што забойства В. Чаркасавай здзейсніў прафесійны кілер, які інсцэнаваў забойства на бытавой глебе. (Артыкул С. Сацука называўся **"Страх как достаточное основание, или Кто расправился с Вероникой Черкасовой?"**)

**18 красавіка** начальнік следчага аддзела пракуратуры г. Мінска С. Іваноў пастанавіў спыніць крымінальны перапслед Антона Філімонава і Уладзіміра Мялешкі "за адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства". Пастанова прынятая на падставе таго, што падчас папярэдняга расследавання па справе "не здабыта дастатковых доказаў" спрычыненасці Мялешкі і Філімонава да злачынства, а "ўсе магчымасці для збору дадатковых доказаў вычарпаныя".

**У канцы снежня 2005 г.** папярэдняе расследаванне справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай было прыпынена "ў сувязі з невысвятленнем асобы, якая падлягае прыцягненню ў якасці абвінавачанага".

2006 год заўважнага прагрэсу ў расследаванні справы аб забойстве журналісткі газеты **“Салідарнасць”** Веранікі Чаркасавай не прынёс. Аднак “справа Чаркасавай” па-ранейшаму заставалася ў цэнтры ўвагі грамадскасці з прычыны крымінальнай справы, узбуджанай у дачыненні да сына забітай журналісткі - Антона Філімонава.

16-гадовы падлетак быў затрыманы **27 снежня 2005 году** супрацоўнікамі Першамайскага РУУС па падазрэнні ў вырабе фальшывых беларускіх грашовых купюраў. У яго і яшчэ чатырох яго знаёмых знайшлі некалькі купюраў па 5 і па 10 тысяч беларускіх рублёў, і ў дачыненні да іх была ўзбуджана крымінальная справа па ч.2 арт. 221 КК РБ (незаконны выраб, захаванне альбо распаўсюд падробленых грошай, здзейсненыя паўторна арганізаванай групай асобаў па папярэдняй дамоўленасці). Усе пяцёра правялі некалькі сутак у следчым ізалятары часовага ўтрымання, аднак 30 снежня ўсіх, акрамя А. Філімонава, адпусцілі. Мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай была ўжытая толькі да яго.

**6 студзеня** бабуля і дзядуля Антона Філімонава, Уладзімір Мялешка і Дыяна Чаркасава, зладзілі прэс-канферэнцыю і заявілі, што ў СІЗА на падлетка аказваюць ціск. Па словах Д.Чаркасавай, да А.Філімонава ў ізалятар часовага ўтрымання прыходзілі невядомыя людзі, якія прапаноўвалі напісаць прызнанне ў забойстве маці.

**10 студзеня** суд Першамайскага раёна г. Мінска адхіліў скаргу Уладзіміра Мялешкі (законнага прадстаўніка А. Філімонава) аб змяненні меры стрымання яго ўнуку. **17 студзеня** суд г. Мінска пацвердзіў гэтае рашэнне, адхіліўшы скаргу на рашэнне суда першай інстанцыі.

**2 лютага** Дыяна Чаркасава і Уладзімір Мялешка апублікавалі адкрыты зварот да грамадскасці, у якім заявілі, што за больш як месяц знаходжання ў СІЗА-1 г. Мінска з іх унукам не было праведзена ніводнага следчага дзеяння па справе аб фальшывых грашовых знаках. Блізкія Антона заявілі, што праваахоўныя органы прызналі факты наведвання падлетка ў СІЗА асобамі, якія не маюць дачынення да справы аб

фальшывых грашовых знаках. Сваякі А.Філімонава звярнуліся да грамадскасці па дапамогу ў справе абароны падлетка - у прыватнасці, у змяненні яму меры стрымання.

У той жа час да пракурора г. Мінска Мікалая Кулікова звярнуліся некалькі дзесяткаў беларускіх журналістаў з просьбай змяніць меру стрымання Антону Філімонаву і вызваліць яго з-пад варты. (Збор подпісаў ініцыявала жонка зніклага ў 2000 годзе аператара ОРТ, сябра ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Святлана Завадская). Тым не менш, пракуратура не ўбачыла падставаў для змянення падлетку меры стрымання. Пра гэта гаварылася ў афіцыйным лісце намесніка пракурора г.Мінска Л. Літвінюка ад **16 лютага** на адрас ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” і Святланы Завадскай.

**17 лютага** газета **"Рэспубліка"** апублікавала выказванне намесніка Генеральнага пракурора Віктара Пруса на паседжанні калегіі рэспубліканскай пракуратуры: ён выказаў занепакоенасць тым фактам, што забойцы журналісткі Веранікі Чаркасавай дагэтуль не прыцягнутыя да адказнасці. Ён катэгарычна адмовіў існаванне сувязі паміж гэтай справай і затрыманнем яе сына Антона.

Тым не менш, у канцы лютага расследаванне справы аб забойстве журналісткі было адноўлена. Гэтую інфармацыю пацвердзіў ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” кіраўнік следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры г. Мінска Сяргей Іваноў.

**22 лютага** намеснік пракурора г. Мінска Л. Літвінюк працягнуў тэрмін папярэдняга следства па справе А. Філімонава і тэрмін утрымання падлетка пад вартай да 27 сакавіка (да 3 месяцаў).

**7 сакавіка** суд Цэнтральнага раёна г. Мінска пакінуў без зменаў меру стрымання А. Філімонаву ў выглядзе заключэння пад варту, адхіліўшы скаргу адваката на незаконнасць яе прымянення.

**13 сакавіка** Антону Філімонаву была змененая мера стрымання - з утрымання пад вартай на “меру стрымання ў выглядзе закладу”. Паводле пастановы, следчыя органы ўзялі пад увагу, што пад час папярэдняга расследвання па згаданай крымінальнай справе “неаднаразова паступалі хадайніцтвы аб змене ў дачыненні да Філімонава А.Д. меры стрымання ў выглядзе заключэня пад варту на іншую, не звязаную з пазбаўленнем волі, а таксама тое, што абвінавачаны Філімонаў А.Д. пакутуе на хранічныя захворванні”. А.Філімонаў быў вызвалены пад заклад 7,5 тысяч доляраў ЗША, які ўнеслі яго сваякі. У следчым ізалятары ён правёў 2,5 месяцы.

**14 сакавіка** "ў сувязі з невысвятленнем асобы, якая падлягае прыцягненню ў якасці абвінавачанага" расследаванне справы аб забойстве В. Чаркасавай было ў чарговы раз прыпынена.

**10 красавіка** суд Першамайскага раёна пачаў разгляд крымінальнай справы, узбуджанай у дачыненні да Антона Філімонава і іншых падлеткаў, абвінавачаных у парушэнні другой часткі артыкула 221 КК РБ. **11 красавіка** пракурор запатрабавала для 16-гадовага А. Філімонава пакарання ў выглядзе 4 гадоў пазбаўлення волі, а для астатніх абвінавачаных - па 3 гады. Суддзя ж не ўбачыла ў гэтай справе прыкметаў паўторнасці і вынесла падлеткам прысуд па першай (больш мяккай) частцы арт. 221 КК. Для Антона Філімонава было вызначана пакаранне -- 2,5 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай.

**10 красавіка** на сайце **"Беларускі партызан"** з'явіўся артыкул пад назвай "Цана жыцця (новая версія прычын забойства Веранікі Чаркасавай)", аўтарства якога належыць Творчай майстэрні "Агенцтва журналісцкіх расследаванняў" (Матэрыял можна таксама знайсці на сайце Агенцтва **http://www.agentby.com/?q=node/22**). "У адрозненні ад следчых, за мінулы год журналісты... змаглі здабыць новыя факты, якія ўказваюць на тое, што забойства Веранікі магло быць звязана з яе прафесійнай дзейнасцю", - гаварылася ва ўступнай частцы публікацыі.

Па меркаванні аўтараў артыкула, Вераніка, сама таго не ўсведамляючы, магла трапіць на самы "гарачы край" барацьбы паміж дзвюма кланавымі групаўкамі краіны. Яны лічаць, што Вераніка магла валодаць інфармацыяй, апублікаванне якой пагражала аднаму з канфліктуючых бакоў стратай вялікіх грошай.

У красавіку ў Інтэрнэце з'явіўся сайт, прысвечаны справе аб забойстве Веранікі Чаркасавай: **http://www.veronikacherkasova.org**. На сайце змяшчаецца інфармацыя датычна ходу расследавання яе забойства, публікацыі на гэтую тэму ў беларускай і замежнай прэсе, заявы беларускіх і міжнародных арганізацый па гэтай справе і г.д. Забойства Веранікі разглядаецца аўтарамі сайту ў кантэксце беларускай сітуацыі, і таму яны прапануюць шмат дадатковай інфармацыі датычна становішча з мас-медыя ў нашай краіне. Па звестках ГА "БАЖ", да з'яўлення сайту мелі дачыненне калегі і сябры Веранікі, якія цяпер жывуць у ЗША.

**18 красавіка** газета **"Звязда"** надрукавала інтэрв'ю з начальнікам следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры Мінска Сяргеем Івановым, у якім ён заявіў, што расследаванне забойства журналісткі Веранікі Чаркасавай прыпынена ў сувязі з нявысвятленнем асобаў, якія здзейснілі злачынства. Але, на яго думку, "гэтая крымінальная справа - не безнадзейная, і яе расследаванне можа быць даведзена да лагічнага канца". Галоўны следчы сталіцы лічыць, што злачынства не было дакладна прадуманым і загадзя падрыхтаваным.

Але кіраўнік агенцтва журналісцкіх расследаванняў Сяргей Сацук, які з калегамі таксама расследаваў забойства В. Чаркасавай, упэўнены, што гэта быў прафесійны кілер, які інсцэнаваў забойства на побытавай глебе.

**20 кастрычніка** – на другую гадавіну забойства журналісткі – была разгорнута грамадская кампанія па пошуку і прыцягненні да адказнасці забойцаў. Акцыя пачалася са звароту Генеральнага сакратара Міжнароднай федэрацыі журналістаў (IFJ) Айдана Уайта да Аляксандра Лукашэнкі. "МФЖ, якая аб'ядноўвае звыш 500.000 журналістаў з розных краін, заклікае Вас аднавіць расследаванне справы аб забойстве журналісткі Веранікі Чаркасавай, знайсці і пакараць яе забойцаў у судовым парадку... Мяркую, што працяглая няздатнасць беларускіх уладаў прыцягнуць да адказнасці забойцаў В.Чаркасавай кідае цень на імідж Беларусі і гатовасць беларускага ўраду абараняць асноўныя правы чалавека,"— гаварылася ў звароце. Таксама ў лісце падкрэслівалася, што "толькі праз прыцягненне злачынцаў да судовай адказнасці Беларусь можа прадэманстраваць сваім грамадзянам і міжнароднай супольнасці сваю падтрымку свабоды прэсы і гатовасць абараняць жыцці журналістаў."